ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

1 жніўня 1997 г. № 31/3907 Кошт 3 000 руб.





*Народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю 4 жніўня спаўняецца 80 гадоў*

**"ЛіМ" шчыра віншуе паважанага Івана Антонавіча з юбілеем і зычыць яму спаткаць яшчэ нямала сонечных і ўмалотных жніўняў.**

*Матэрыялы пра юбіляра — на стар. 6—7.*

## На радзіме Янкі Брыля

На радзіме Янкі Брыля  
Хлопцы,  
Досціпам падпеpазаныя,  
Як бары,  
Што былі партызанамі  
Ад вершаліны да камля.

Як прынёманскія бары,  
Хлопцы думныя, камлюкаватыя  
Справу пратаюць,  
Славу сватаюць —  
Тут любога ў сябры  
Бяры!

Тут высокі ў дзвярах вушак,  
Бо растуць наабгонкі з дрэвамі,  
А смакуюць тут слова крэўнае  
Так,  
Як з кварты цэдзяць пяршак.

Неманіны Нёман пасе,  
Наравісты ў юрлівым нораве.  
Ноч падол свой,  
Вышыты зорамі,  
Не баіцца мачыць у расе.

Можна ўсё пачынаць з нуля,  
Прахапіўшыся разам з раніцай,  
Каб аб шчырасць ласкава параніцца  
На радзіме Янкі Брыля.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Калісьці незабыўны і мудры Уладзімір Караткевіч напісаў верш "На Беларусі бог жыве" — верш-прызнанне ў шчырай і адданай любові да Бацькаўшчыны. Праўду аб тым, што гэты святы для кожнага беларуса куточак на планеце сапраўды блаславёны самім Богам, сцвярджае, гаварыў паэт, "упартасць хваль, і продкаў запавет, і мовы залатая сталь, і нашых дум сусвет", сцвярджае "ўсім лёсам... у хмарах дубоў, у вясёлках агнёў Купальская наша зямля". Верш заканчваўся на аптымістычнай ноце: "І пра тое кожны пяе салавей Росным кветкам у роднай траве: "На Беларусі бог жыве", — І няхай давеку жыве". Ды, пэўна, мы чымсьці моцна пакрыўдзілі Бога, што адвярнуўся ён ад нас, пакінуў Беларусь. Апошнія гады над краінаю нашаю запанаваў, выдае на тэта, той, чыё імя слоўнік вытлумачвае як злы дух, што супрацьстаіць Богу, і ён насылае на нас кару за карай. І вось ужо абылганы, адрынуты "продкаў запавет", і паблякла, пакрываецца ржою забыцця і незапатрабаванасці "мовы залатая сталь", і на самую "купальскую нашу зямлю" абрынаюцца разбуральныя, па-драпежніцку вынішчальныя і бязлітасныя ўраганы, бясконцыя дажджы ды градабоі, і гэта спараджае ў грамадстве яшчэ большы няверʼе, разлад ды абыякавасць; беларус пачынае трацiць веру ў тое, што зарука ягонай неўміручасці — бессмяротнасць нацыі, што заўжды, як пісаў той жа Уладзімір Караткевіч, "у бязмежным свеце будуць працвітаць твой Люд і Край..."***

### "ЗЛАЧЫНСТВА" ТЫДНЯ

У мінулую суботу была арыштавана здымачная група ГРТ на чале з Паўлам Шараметам. За нібыта нелегальны пераход дзяржаўнай мяжы — П. Шарамет правёў усяго толькі журналісцкі эксперымент на мяжы Беларусі і Літвы. Узбуджана крымінальная справа, "злачынцам" пагражае пакаранне да трох, а то і да пяці гадоў зняволення.

Відавочная спроба правучыць упартага карэспандэнта. Ды справа набыла непажаданы паварот. Абурыўся Ельцын. І не проста абурыўся, а загаварыў нават аб магчымасці перагляду пазіцый Статута Саюза Беларусі і Расіі, іншых пагадненняў. Ушчуванне не падзейнічала. Прэсслужба нашага прэзідэнта ў той жа дзень (у сераду) выступіла надта ж з незалежніцкім каментарыем-водпаведдзю: не лезьце, куды вас не просяць...

### КЛУБ ТЫДНЯ

Настальгія па мінулым — неўміручая. У памяці людзей старэйшага пакалення зберагаюцца ўспаміны пра шматлікія так званыя рухі хрушчоўска-брэжнеўскага часу, кшталту руху даярак-пяцітысячніц, птушніц-мільярдэрак, ткачых-шматстаночніц, камбайнераў-тысячнікаў і г. д. Апошні ў Мінсельгасхарчы і рэспубліканскім камітэце прафсаюза работнікаў АПК вырашылі ажывіць. І не проста ажывіць, а яшчэ і стварыць прафесійны рэспубліканскі клуб камбайнераў-тысячнікаў — клуб "гвардзейцаў жніва". Водар камуністычнай даўніны са старонак "Белорусской нивы", якая паведаміла ў аўторак пра гэтую падзею, расчульвае. А падтэкст — засмучае: энтузіязмам самаадданых працаўнікоў зноў маркуецца падмяніць адсутнасць нечага іншага, гэтым разам — запчастак і паліва...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Спаўняецца 70 гадоў газеце "Советская Белоруссия". Першай калежанку павіншавала газета "Свабода". У віншаванні адзначаецца, што ўсе 70 гадоў газета цалкам адпавядала сваёй назве, яна і сёння застаецца сапраўды "Советской Белоруссией". "Ні палітычныя перыпетыі, ні змены рэдактараў не прымушаюць "Сов. Б." здрадзіць сабе. Дакладней, не столькі сабе, колькі тым, хто ў гэты момант знаходзіцца ва ўладзе." Віншаванне "советским" калегам "Свабода" публікуе на "общедоступном советском языке".

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ТЫДНЯ

Аказваецца, традыцыя правядзення сусветных фестываляў моладзі і студэнтаў — жыве. Чарговы, 14-ы фестываль праходзіць гэтымі днямі ў Гаване — сталіцы колішняга "вострава свабоды". І дэвіз ягоны застаўся ранейшы — "За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і сяброўства!" І, дайце веры, у ім, аказваецца, бярэ ўдзел і дэлегацыя Беларусі з 30 чалавек на чале з першым сакратаром ЦК КПБ В. Чыкіным, а разам з ім і такі вядомы таварыш, як дэпутат Нацыянальнага сходу, намеснік старшыні камісіі па правах чалавека, доктар навук І. Катляроў... Толькі і застаецца ўсклікнуць: "Авохці мне!"

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

На пачатку стагоддзя Максім Багдановіч напісаў горкія словы: "Народ, Беларусі народ! Ты — цёмны, сляпы, быццам крот". Сёння гэтае азначэнне набыло, як ні дзіўна, рэальныя рысы. Мільёны беларусаў, вяскоўцаў і гараджан, з ранку да вечара корпаюцца на сваіх сотках.

Корпаюцца, як краты, каб выжыць. І гэта — не метафара. Як паведамляе статыстыка, на сотках самым прымітыўным чынам займаецца самаэксплуатацыяй ці не 7 мільёнаў чалавек — удвая больш, чым жыве ў сельскай мясцовасці, і ў 7 разоў больш, чым колькасць працаўнікоў "вялікага" аграсектара. Насельніцтва амаль цалкам забяспечвае сябе бульбай і гароднінай, напалову — ягадамі і садавінай, на адну трэць — малаком, яйкамі і мясам. А ў такія лічбы наогул цяжка паверыць: мінчукі, жыхары нашай двухмільённай сталіцы, утрымліваюць 550 кароў, 1640 свіней, амаль 25 тысяч трусоў і 64 тысячы курэй, гусей, качак і індыкоў. Ніштаватая ферма, ці няпраўда?!

### АДКЛАД ТЫДНЯ

Маючая адбыцца прэмʼера спектакля паводле пʼесы Бертольта Брэхта "Карʼера Артура Уі" у тэатры "Вольная сцэна" адкладзена.

Прававобразам галоўнага героя пʼесы зʼяўляецца, як вядома, Адольф Гітлер. Брэхт высмейвае фашызм, паказвае, як нікчэмны чалавек можа дасягнуць вяршыні ўлады. Дык вось, чыноўнікі ад культуры ці то палічылі пʼесу занадта злабадзённай, ці то ўбачылі ў спектаклі нейкія непажаданыя асацыяцыі, але папрасілі прэмʼеру адкласці...

### ГАРКОТА ТЫДНЯ

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведаміла, што з пачатку года жыхары Беларусі "прапілі" больш чым 6 трыльёнаў рублёў. Менавіта столькі выдзелілі ўсе мы на набыццё гарэлкі-беліцы і іншага алкагольнага пітва — больш чым 20 працэнтаў кошту нашых прадуктовых кошыкаў. Толькі ў чэрвені выпуск спіртнога ўзрос на 5 працэнтаў. А вось вытворчасць "закусі" зменшылася: мяса — на 3 працэнты ў параўнанні з леташнім годам, яек — на 2 працэнты... Адным словам, пі, братка, а што да закусі, дык выбачай...

З'ЕЗД

# Вопыт беларускай талерантнасці

***Як вядома, 26-га і 27-га ліпеня ў Мінску праходзіў Другі зʼезд беларусаў свету. Гэтая, значная сама па сабе, падзея набыла праз відавочную, разнастайную палітычную аздобленасць дастаткова маштабны рэзананс у краіне і свеце. Аднак тое, што адбывалася гэтымі днямі, нельга назваць нечаканым. Зʼезд і вакол'ездаўскія варункі засведчылі яшчэ раз, што беларускасць не ёсць выразна вызначаная катэгорыя свядомасці і стану, а ўяўленняў пра патрыятычную чыннасць — некалькі. Але самае сумнае ў тым, што нацыянальная ідэя не сталася дамінантай для ўсіх беларусаў.***

Яшчэ да пачатку зʼезда вакол яго была створана атмасфера некаторай спраквакаванасці і напружанасці — галоўным чынам, намаганнямі беларускіх уладаў. Так, па-першае, узніклі спрэчныя моманты па даце 26-27 ліпеня. Аднак арганізатары зʼезда змяніць яе не маглі. І гэта была не столькі прынцыповая пазіцыя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", а пытанне чыста арганізацыйнае: паводле статута гэтай арганізацыі, дату правядзення зʼезда вызначае Вялікая рада Згуртавання, а збіраць людзей з усяго свету дзеля перамены даты яшчэ раз — было складана. Самыя высокія ўрадоўцы даводзілі праз тэлебачанне народу, што Другі зʼезд беларусаў свету будзе ператвораны ў "палітычнае шоу", здзіўляліся, маўляў, паводле якога прынцыпу "Бацькаўшчына" запрашае на зʼезд дэлегатаў і гасцей і чаму так шмат прадстаўнікоў апазіцыі і г.д. Хаця арганізатары зʼезда абвясцілі, што запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы — тыя, каго сапраўды турбуе праблема існавання і захавання нацыянальнага. І яны прыйшлі. А вось ад дзяржавы на зʼездзе прысутнічала невялічкая колькасць чыноўнікаў толькі з гэтак званых "культурніцкіх" міністэрстваў. Такім чынам, улады фактычна праігнаравалі Другі зʼезд беларусаў свету. Але такое стаўленне з боку дзяржавы зразумелае, яно заснавана на слушным прагназаванні таго, што на зʼездзе абавязкова будзе крытыкавацца кіраўніцтва краіны. На жаль, паводзіны ўладаў сталі каталізатарам апазіцыйных настрояў. Нават за дзень да адкрыцця зʼезда было невядома, ці адбудзецца ён, як і меркавалася, у Тэатры музычнай камедыі. Улады раптам пачалі даводзіць, што зала тэатра "не адпавядае правілам пажарнай бяспекі".



Арганізатары былі вымушаныя весці перамовы з самім спадаром У. Замяталіным — дазвол атрымалі. Але нервовасці гэта ўсім дадало.

Вось у такой атмасферы і распачаў сваю працу Другі зʼезд беларусаў свету, у якім узялі ўдзел больш за 700 чалавек (у тым ліку 184 дэлегаты). Самае цікавае і адначасова непрыемнае ўсчалося адразу ж. Пасля афіцыйнага адкрыцця зʼезда пасля гімна "Магутны Божа" зварот прэзідэнта А. Лукашэнкі да ўдзельнікаў зʼезда зачытваў намеснік міністра культуры У. Рылатка. Зала гула, як вулей, а пасля прэзідэнцкага сцвярджэння, нібыта ў Беларусі "вольна гучыць беларуская мова", — узарвалася: "Ганьба!". Такая ж рэакцыя прысутных паўтаралася ў гэты дзень яшчэ раз, калі са сцэны прамаўляў дэлегат зʼезда з Украіны (Харкаў), ухваляючы палітычны курс беларускіх уладаў. Рэакцыя на "паяднанне славян" з вуснаў чалавека, які не ведае ані беларускай (сам ён беларус), ані ўкраінскай (жыве на Украіне) моў, усё ж была празмернай. На жаль, увечары гэтыя здарэнні сталі матэрыялам для мантажу службы інфармацыі БТ.

Калі ж не заўважаць згаданых інцыдэнтаў, то можна сказаць, што ў цэлым Другі зʼезд беларусаў свету прайшоў удала і прадстаўніча. Выступалі Васіль Быкаў, Лявон Баршчэўскі, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Станіслаў Шушкевіч і іншыя вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы. На некаторых дакладах і прамовах варта спыніцца падрабязней. Так, дастаткова глыбокім падаўся даклад прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага па праблемах захавання беларускай прысутнасці ў свеце. Асаблівую ўвагу акадэмік Р. Гарэцкі надаў разгляду цяперашняй сітуацыі ў Беларусі і ў нацыянальных дыяспарах за мяжой. Ён адзначыў, што пасля таго, як Беларусь займела незалежнасць, назіраўся працэс вяртання з небыцця ўсяго беларускага, аднак "за апошнія тры гады адбыўся адкат назад". Сп. Гарэцкі, згадваючы пра гуманітарны ліцэй, Дом літаратара, знікненне газеты "Наша слова", спрэс рускамоўнае навучанне ў ВНУ, сказаў:

— Тая ўлада, якая не падтрымлівае нацыянальнага, — сячэ сук, на якім яна сядзіць... Няма мовы — няма нацыі, няма нацыі — няма дзяржавы...

Далей распавядалася пра стан нашых дыяспар у свеце. Р. Гарэцкі

# Падзея з сумнага шэрагу?

29 ліпеня стала вядома, што рашэннем прэзідэнта за парушэнні правілаў правядзення прыёмных экзаменаў, якія нібыта мелі месца сёлета ў Беларускай акадэміі мастацтваў, рэктар гэтай ВНУ Васіль Шаранговіч вызвалены ад пасады. 30 ліпеня ў БелАМ адбыўся сход калектыву выкладчыкаў. Спадар Шаранговіч праінфармаваў прысутных аб сітуацыі, абгрунтавана абверг абвінавачванні камісіі дзяржкантролю ў свой адрас і ў адрас супрацоўнікаў акадэміі, якім абвінавачванні прадʼяўлены ва ўскоснай форме.

Згаданая камісія, па словах рэктара, працавала ў БелАМ у часе прыёмных экзаменаў на працягу дзвюх гадзін, і на падставе інфармацыі, сабранай у часе гэтага "кавалерыйскага наскоку", былі зроблены, мякка кажучы, не зусім дакладныя высновы. Дробныя, бадай што непазбежныя памылкі тэхнічнага характару пры афармленні некаторых дакументаў прыёмнай камісіі трактуюцца кантралёрамі амаль як крымінал. Між тым, у нашай краіне няма адзінага нарматыўнага, тыповага для ўсіх ВНУ дакумента, які б рэгламентаваў працу прыёмных камісій. Таму ў кожнай ВНУ свае парадкі. Гэта агульнавядома. Здзіўляе яшчэ і тое, што ў дадзеным выпадку да БелАМ падышлі з крытэрыямі, якія больш-менш адпавядаюць тэхнічнай ВНУ, але ніяк не мастацкай. Цалкам праігнаравана спецыфіка і унікальнасць БелАМ. Рэктар сказаў, што ён не чапляецца за пасаду, бо гэты крыж ён нясе ўжо адзінаццаць гадоў і быў бы рады ад яго пазбавіцца, каб цалкам аддаць сябе мастацкай творчасці; рэктарскі "хлеб" не такі салодкі, як думаюць некаторыя; аднак у дадзеным выпадку сп. Шаранговіч лічыць, што абражаны не толькі ён, але і ўвесь калектыў акадэміі — таму ён будзе змагацца за справядлівасць.

На сходзе выступіла былы рэктар БелАМ (тады — БДТМІ) Эльвіра Герасімовіч. Яна сказала, што сёння адчувае сябе памаладзелай на пятнаццаць гадоў: менавіта пятнаццаць гадоў таму яна была ў такой жа сітуацыі. Эльвіра Пятроўна пайшла з пасады рэктара "па ўласным жаданні" пасля таго, як на працягу аднаго года тэатральна-мастацкі інстытут наведала больш за дваццаць камісій з усялякімі праверкамі.

Некаторыя выступоўцы выказвалі меркаванне, што прэзідэнта хутчэй за ўсё "падставілі", падсунуўшы абсурдную з якога заўгодна пункту гледжання паперу. Але былі і іншыя думкі: гэта нармальна ўпісваецца ў сумны шэраг, у якім — замах на Дом літаратара, на Беларускі гуманітарны ліцэй і іншыя асяродкі беларушчыны.

Сход стварыў рабочую групу з выкладчыкаў акадэміі, якая павінна падрыхтаваць зварот-тлумачэнне да прэзідэнта РБ, шэрагу дзяржаўных устаноў, прэсы. Людзі спадзяюцца на здаровы розум уладаў і падтрымку грамадства.

**П. В.**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Разьбярных спраў майстра

**300 гадоў газад нарадзіўся вядомы сталяр і разьбяр Ігнат Барч (памёр у 1753 годзе). У 1725—1728 гадах працаваў у езуіцкім калегіуме ў Брэсце, з 1731-га жыў у Вільні і рабіў мэблю для касцёла св. Яна, удзельнічаў у аздабленні інтэр'ера, тэатральнай залы і іншых памяшканняў Віленскай езуіцкай акадэміі.**

## Захапленне



**Канстанцін Аляксеевіч Раткевіч (на здымку)–слесар-інструментальшчык Аршанскага АТ "Легмаш". У вольны ад працы час ён з захапленнем займаецца разьбой па дрэве.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Дзве з паловай гадзіны на сцэне

**Столькі часу перад гледачамі адзін выступаў акцёр і галоўны рэжысёр Мінскага тэатра сатыры і гумару "Хрыстафор" Яўген Крыжаноўскі ў сваёй п'есе "Жэнефіс" (8 чэрвеня). Гэта быў першы монаспектакль калектыву тэатра, якому ўжо дзесяць год. І прэм'ера прайшла выдатна.**

**Артыст лёгка мяняў вобразы: ці гэта быў Барыс Ельцын, ці Леанід Брэжнеў, грузін ці ўзбек, ваенны пенсіянер ці п'яніца...**

**Даспадобы прыйшлася мінчанам і гульня акцёра з гледачамі на сцэне з ліку добраахвотнікаў, якія ўсе атрымалі ад Я. Крыжаноўскага прызы за добрую акцёрскую ігру.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## Мюнхгаўзен не хлусіў?



**Памятаеце аповед барона Мюнхгаўзена пра вішнёвую костачку, што прарасла на галаве ў аленя? Зірніце на здымак: аказваецца, барон не хлусіў...**

*Фота В. БЫСАВА, БЕЛТА*

## Супраць СНІДу

**Беларускі рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД з 1.08.97 г. па 1.11.97 г. аб'яўляе конкурс на лепшую неардынарную ідэю па прафілактыцы ВІЧ/СНІД моладзі/насельніцтва. Можна выкарыстоўваць любыя формы.**

**Пераможцам будуць уручаны прэміі.**

**Кантактны тэлефон: 227-42-16.**

**Наш адрас: 220030, г. Мінск, вул. Ульянаўская, 3.**

# Статус захаваць і падтрымаць

### ЗАЯВА ПРЭЗІДЫУМА РАДЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ АБ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА

1 ліпеня 1997 г. Прэзідэнт РБ прыняў распараджэнне N 182 р "О передаче в оперативное управление Управления делами Президента Республики Беларусь зданий в г. Минске", дзе значыцца і будынак па вул. Фрунзе, 5 — г.зн. — Дом літаратара. У прэамбуле распараджэння пазначана: "в целях повышения эффективности использования государственной собственности". Дом літаратара з'яўляецца ўласнасцю грамадскай арганізацыі і не адносіцца да дзяржаўнай уласнасці, ён праектаваўся і ўзводзіўся за кошт сродкаў Літфонду СССР і па заказе Саюза пісьменнікаў Беларусі як будынак спецыфічнага прызначэння — менавіта: Дом літаратара, са сваімі спецыфічнымі творчымі і культурна-асветнымі функцыямі. Ён і працуе вось ужо больш за 20 гадоў паводле свайго статута, здзяйсняючы адзначаныя мэты.

Для больш дэталёвага высвятлення пытання зробім невялікі экскурс у мінулае.

Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР пэўны час размяшчалася ў Доме ўрада. У пяцідзесятыя гады пісьменніцкай арганізацыі распараджэннем Саўміна БССР было перададзена бязвыплатна памяшканне па вул. Энгельса, 27. Тут размясціліся не толькі адміністрацыйныя службы СП, але і пачаў сваю працу Клуб пісьменнікаў. Гэта быў шырокавядомы асяродак і літаратурнага і культурна-грамадскага жыцця. Тут жа функцыянавала Беларускае аддзяленне Літфонду СССР, медыцынскі пункт, бібліятэка.

У канцы 60-х гадоў паўстала пытанне аб будаўніцтве дадатковага корпуса для будынка ЦК КПБ і зносе размешчанага на гэтай тэрыторыі памяшкання па вул. Энгельса, 27. Узамен будынка, які павінен пайсці пад знос і які належаў на правах уласнасці Саюзу пісьменнікаў, было вырашана пабудаваць новы Дом літаратара (вул. Фрунзе, 5).

З самага пачатку Саюз пісьменнікаў БССР выступаў як заказчык будаўніцтва Дома літаратара. На яго выкананне выкарыстоўваліся грошы, выдзеленыя Літаратурным фондам СССР. Фінансаванне будаўніцтва вялося за лік звышпланавых капітальных укладанняў для творчых саюзаў СССР. Сродкі на будаўніцтва Дома літаратара адпаведна паступалі ў рэспубліку з Саюза пісьменнікаў СССР праз Дзяржплан СССР. Гэта пацвярджаецца адпаведным сведчаннем Міжнароднай грамадскай арганізацыі пісьменнікаў "Літаратурны фонд" (Масква): "Сообщаем, что за период с 1967 па 1976 годы Литературный фонд СССР осуществлял финансирование строительства и эксплуатации Дома литераторов СП Белоруссии. Дом литераторов СП Белоруссии был введен в эксплуатацию в 1976 году. Общая стоимость строительства составила 1400000 (один миллион четыреста тысяч) рублей. Заказчиком при строительстве Дома литераторов выступал СП Белоруссии, а финансирование строительства осуществлялось за счет средств Литературного фонда СССР. Целевое финансирование производилось через Госплан СССР".

Між іншым, трэба патлумачыць: калі былі іншыя крыніцы фінансавых паступленняў, то, згодна са Статутам СП, яны, гэтыя сродкі, рабіліся ўласнасцю СП. Так, калі Саўмінам БССР выдаваліся распараджэнні, да прыкладу, — N 169 р ад 29 сакавіка 1976 г.: "Выделить ....Союзу писателей БССР... 20 тыс. рублей за счет остатков средств республиканского бюджета...", то гэта значыць, што ўрад рэспублікі аказаў фінансавую дапамогу грамадскай арганізацыі, перадаўшы ёй ва ўласнасць адпаведныя грашовыя сродкі (што адпавядала Статуту Саюза пісьменнікаў СССР (1971), па якім дзейнічаў і працаваў Саюз пісьменнікаў БССР, дзе сказана: "Средства Союза писателей СССР образуются из:... б/ специальных ассигнований, выделяемых в установленном порядке советскими учреждениями и общественными организациями", і адпаведна сучаснаму Статуту Саюза беларускіх пісьменнікаў, дзе запісана: "Сродкі СБП складаюцца з ... б/ ...ахвяраванняў дзяржаўных арганізацый і ўстаноў Рэспублікі Беларусь..."

Гэта права ўласнасці пацвярджаецца і Законам Беларускай ССР "Аб уласнасці ў Беларускай ССР" — артыкул 37: "Грамадскія аб'яднанні ...маюць права ўласнасці на маёмасць, набытую і створаную імі за кошт уласных сродкаў, ахвяраваную грамадзянамі, арганізацыямі або перададзеную дзяржавай..."

Нават калі дапусціць сёння, што будаўніцтва вялося не толькі на сродкі грамадскай арганізацыі, але былі выкарыстаны часткова і сродкі бюджэтныя (з чым мы не згодны), то Дом літаратара з'яўляецца сумеснай уласнасцю, і любыя аперацыі з ёю без згоды аднаго з саўладальнікаў будуць незаконныя. А дакументы сведчаць: пасля будаўніцтва Дома літаратара, паводле адпаведнага рашэння Саўміна БССР, Мінгарвыканкам і УКБ Мінгарвыканкама (як непасрэдны выканаўца заказу) перадалі будынак на баланс Саюза пісьменнікаў, што замацавана адпаведнымі актамі: "Союзу писателей БССР — АВИЗО N 388, 29.VII.76 г. — УКС Мингорисполкома передает **безвозмездно** на Ваш баланс Дом литератора".

Права ўласнасці адзначана і тэхнічным пашпартам Бюро тэхнічнай інвентарызацыі: "Дом литератора — владелец: Правление Союза писателей БССР".

Факт уладання Саюза пісьменнікаў Домам літаратара адзначаны ў Статуце СП і замацаваны Мінюстам РБ пры рэгістрацыі грамадскай арганізацыі (рэгістр. N 0048 ад 13 лютага 1995 г.): "Саюз беларускіх пісьменнікаў выкарыстоўвае ўсю маёмасць, якая яму належыць, у тым ліку будынак Дома літаратара і іншыя гаспадарчыя збудаванні".

Такім чынам, больш чым дваццаць гадоў беларускія пісьменнікі — ужо не адно пакаленне — працуюць, наладжваюць творчае жыццё ў Доме літаратара, па праву лічаць яго сваім другім родным домам. З удзячнасцю падкрэсліваюць, што гэта быў падарунак дзяржавы, адзнака выдатных заслуг пісьменніцкай арганізацыі ў справе культурнага і маральна-эстэтычнага выхавання народа, згадваючы добрым словам і Пятра Міронавіча Машэрава, і Ціхана Якаўлевіча Кісялёва, якія асабіста апекаваліся будаўніцтвам ДЛ, адкрыццё якога стала сапраўдным святам.

Наваселле было прымеркавана да адкрыцця VII з'езда пісьменнікаў Беларусі (11 мая 1976 г.). Як адзначаў ва ўступным слове народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, "наш VII з'езд пэўным чынам святкуе і сваё наваселле. Мы адкрываем яго ў новым доме, які з'яўляецца пэўным падарункам з боку ЦК КПБ і ўрада рэспублікі, і наша задача цяпер, каб гэты дом стаў сапраўдным Домам творчасці і грамадскага гарэння, Домам дружбы і супрацоўніцтва..."

У справаздачным дакладзе праўлення СП БССР Максім Танк падкрэсліваў: "глыбока сімвалічна тое, што на пачатку свайго арганізацыйнага станаўлення наш Саюз пісьменнікаў размяшчаўся ў невялічкім драўляным будынку, а да свайго VII з'езда атрымаў такі выдатны падарунак — як гэты прасторны, арыгінальны па сваім архітэктурным вырашэнні будынак" ("ЛіМ", 14.V.76 г.).

Аб гэтым жа гаварылася і ў справаздачным дакладзе рэвізійнай камісіі СП: "Закончана будаўніцтва нашага Дома літаратара, агульны каштарысны кошт якога 1 млн. 300 тыс. рублёў... Фактычна мы з вамі тут адначасова і дэлегаты з'езда, і гаспадары (газ. "Літаратура і мастацтва", 14.V.1976 г.).

Новы будынак, сапраўды, даў магчымасць СП яшчэ шырэй разгарнуць літаратурна-масавую і культурна-асветную працу.

Сёння Дом літаратара — асноўны і адзіны цэнтр літаратурнага жыцця рэспублікі. Разам з Беллітфондам ён забяспечвае літаратурны працэс, стварае ўмовы для творчай працы пісьменнікаў. Выкананне статутных задач пісьменніцкай арганізацыі залежыць ад зладжанай, планава прадуманай і эканамічна забяспечанай дзейнасці Дома літаратара.

У творчых вечарах, сустрэчах, сімпозіумах прымаюць удзел не толькі пісьменнікі, але і шырокая грамадскасць, іншыя творчыя саюзы. Дом літаратара заўсёды гасцінна сустракае пасланцоў братніх літаратур, умацоўвае дружбу, падымае прэстыж рэспублікі за яе межамі.

Пісьменнікі Беларусі лічаць Дом літаратара сваім родным домам. Тут месца іх творчай працы, жыцця і адпачынку.

Дом літаратара — агульная ўласнасць, уласнасць Саюза пісьменнікаў — не аднаго пакалення, а пакаленняў мінулых гадоў, сённяшніх і будучых. Уласнасць не толькі фізічная, але і духоўная. Тут працягваецца — у самых разнастайных праявах — творчая пісьменніцкая праца. І найперш — здзяйсняецца кантакт з тымі, для каго, уласна, і пішуцца творы, — з чытачамі.

Будынак гэты працуе на беларускую літаратуру і культуру наогул. Тым самым ён заслужана набыў вядомасць сярод людзей.

І разбурэнне гэтага іміджу — з'ява антылітаратурная, антыкультурная.

Для 467 членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў Дом літаратара — гэта рабочае месца.

З'яўляючыся ўласнасцю СП, Дом літаратара заўсёды ўспрымаўся як сведчанне аўтарытэту і вагі пісьменнікаў у духоўным жыцці народа. Гэты статус яго, пацверджаны больш чым дваццацігадовай працай, павінен быць захаваны і падтрыманы дзяржавай.

Гэтая заява з'яўляецца не толькі зваротам да грамадскасці, але і афіцыйным дакументам, адрасаваным кіраўніцтву рэспублікі.

**ПРЭЗІДЫУМ РАДЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# Дом аддаць, ці сход збіраць?

*(Працяг. Пачатак на стар. 3).*

пісьменніках і іх аўтарытэце" (Аляксандр Коктыш).

— Я не маю права падпісаць акт аб перадачы Дома літаратара (у распараджэнні прэзідэнта ён пазначаны больш сціпла: будынак па вул. Фрунзе, 5) Упраўленню справамі прэзідэнта, — сказаў старшыня праўлення СПБ Васіль Зуёнак. — Гэта вырашаць усёй пісьменніцкай арганізацыі.

Тут жа пайшлі гарачыя прапановы:

— Склікаць пленум праўлення!

— Не, з'езд! Нечарговы!..

Пытанне: выходзіць, з'язджацца з усіх куткоў Беларусі пісьменнікам, каб вырашыць, ці аддаваць сваю агульную маёмасць, заведама асуджаючы саміх сябе на яшчэ большую беднасць? А што маёмасць сапраўды пісьменніцкая, а не чыя іншая, пацвярджаюць жа дакументы. Маецца афіцыйная даведка з Масквы: будынак узведзены не на дзяржаўныя, а на пісьменніцкія грошы — Літфонду СССР і менавіта для Саюза пісьменнікаў Беларусі. Што ж тут яшчэ даказваць ажно цэлым нечарговым з'ездам, калі гэта могуць (і абавязаны па пасадзе!) апаратчыкі СП? Яны ж дзеля апаратычнага і разумнага кіравання справамі пісьменніцкай супольнасці і выбраныя! А сілай улады, калі яна не пажадае прытрымлівацца законаў, можна многае. Тады адной нейкай акцыяй пратэсту, няхай і параўнаўча масавай, не абыдзешся. Пачнецца новы віток доўгатэрміновага змагання за выжыванне Беларускай пісьменніцкай арганізацыі, якая неабходная не толькі дзеля некалькіх соцень літаратараў, а і культурных патрэб усяго народа. Значыць, такі ўжо будзе наш беларускі шлях да сучаснасці. Адметны нават у СНД. Бо ў той жа Расіі ў пісьменнікаў нічога не забіраюць. У Казахстане мала таго, што тамтэйшы Саюз пісьменнікаў мае **навечна** перададзеныя яму вялізныя будынкі і іншую маёмасць, дык яшчэ распараджэннем прэзідэнта Назарбаева казахстанскаму ПЭН-клубу асобна выдзелены на льготных умовах два добрыя будынкі, частку памяшканняў у якіх пэнклубаўцы здаюць у арэнду, каб мець магчымасць дапамагаць сваім сябрам: выдзяляць гадавыя гранты пісьменнікам, якія маюць найбольшую матэрыяльную патрэбу, аднаразовую грашовую дапамогу, пенсіі і г. д.

Што да пісьменніцкага з'езда — чарговага! — дык сапраўды пара ўсім сур'ёзна да яго рыхтавацца.

**Эрнест ЯЛУГІН**

**Ад рэдакцыі:** Між іншым, пра сітуацыю з Домам літаратара стваралася ўжо вершы, не спіць творчы люд:

***Фрунзе-пяць не аддаваць,***
***Не ляжаць на пузе,***
***А за Фрунзе ваяваць,***
***Як таварыш Фрунзе!***

ТАКІМ ЧЫНАМ, новая хваля беларускага нацыянальнага Адраджэння захлынулася. Гэта мы можам канстатаваць, прызнаваць і абвяшчаць на ўвесь свет. Прычым параза гэтая сталася вялікай неспадзеўкай, і датычыць не толькі тактыкі, а і стратэгіі нацыянальнага руху. Адраджэнскае шчыраванне пачало выяўляцца ў новых нязвыклых формах, часам хваравітых, а то і небяспечных. Свядомыя і несвядомыя беларусы не пазнаюць сябе саміх у супрацьстаянні, якое раптам пранізала грамадства, здзівіўшы гэтае грамадства да нематы. Настаў час рэакцыі і разгубленасці. Насельніцтва абыякава і хітравата "валяе дурня". Інтэлігенцыя з роспачы і крыўды, называючы тое насельніцтва народам, уголас папракае яго за недаспеласць і недасвядомасць, а шэптам, здараецца, і быдлам лае. Яно і ёсць за што... Дрэнна, аднак, тое, што ў няшчасным разгубленым сэрцы свядомага беларуса кепска стасуюцца сённяшняе раздражненне народам і адвечная, назапашаная ў крыві любоў і павага да яго.

З аднаго боку, інтэлігенцкая наканаванасць служэння народу, з другога — адмаўленне гэтага служэння ці не самім народам. "Вазьмі, народзе, сваё, вярні страчанае і ўратуйся!" — кажуць яму шчырыя сыны яго. А "народзе" толькі скоса пазірае ды гуртам валіць да выбарчых скрыняў на паклон таму, хто гатовы ўкрасці ў яго апошняе і прадаць за трыццаць срэбранікаў.

"Пёс скучает на цепи, но, попробуй, отцепи!" — неяк здзіўлена заўважыў адзін расійскі дзіцячы пісьменнік. Гэткая ж патавая сітуацыя сёння ў адносінах паміж народам і тымі, каму "баліць за народ". "Нічыя" — такі пакуль што вынік сустрэчы нацыянальнай інтэлігенцыі і нацыі. Гэта значыць, што ніхто не карыстаецца з перамогі, або што абодвума бакамі перамога страчаная. Магчыма, гэта азначае яшчэ і тое, што перамогу выкрадае нехта трэці. Але хто?

Антыбеларускія сілы на Беларусі і за яе межамі, пэўна ж, прэтэндуюць на ролю гэтага трэцяга, і мы самі гатовыя аддаць ім гэтую ролю, вінавацячы іх ва ўсіх нашых сённяшніх бедах. Толькі не заўсёды ў нас гэта атрымліваецца доказна і пераканаўча. Надта асіметрычным уяўляецца супрацьстаянне нацыянальнага і антынацыянальнага ў нашай старажытнай краіне, надта рознамаштабныя мэты, матывы і памкненні кіруюць гэтымі з'явамі. Нацыянальная справа мае на мэце вырашэнне этнасам сваёй звышзадачы — самаідэнтыфікацыю і самасцвярджэнне ў гістарычным часе і культурнай прасторы. Дзеячы нацыянальнага Адраджэння аперыруюць такімі глыбіннымі катэгорыямі, як Духоўнасць і Культура ці, нават, Гармонія і Вечнасць. Тое ж антынацыянальнае, што ў нас ёсць, кіруецца часовымі матывамі сённяшняга дня, жывіцца шкурна-палітычнымі інтарэсамі, увогуле, мае псіха-фізіялагічнае паходжанне і, па вялікім рахунку, не здольнае перашкодзіць Адраджэнню на яго нацыянальна-культурных і духоўна-этнічных прасторах з тае простай прычыны, што на гэтых прасторах і не начавала.

Чаму ж расце трывога менавіта па вялікім рахунку, смяротная трывога за будучы лёс беларускай культуры і беларускага этнасу наогул?

Пакінем па-за ўвагай магчымыя наступствы магчымых планетарна-касмічных ды глабальна-гістарычных падзей і ўплываў (этнас, як і чалавек, не пазбегне наканаванага лёсу), і пашукаем ва ўласным асяроддзі прычыну нашай трывогі.

Пачну здалёк і навобмацак.

Славутая беларуская рахманасць з памяркоўнасцю — толькі адзін бок медаля. Другі — не менш славуты беларускі "комплекс непаўнавартасці". Выпеставаны гісторыяй, ён зрабіўся важнейшай ментальнай прыкметаю. Прычым, гэты "непаўнавартасны" комплекс досыць паўнавартасна адлюстроўваў рэальнае размеркаванне неспрыяльных сацыяльна-гістарычных і культурна-этнічных уздзеянняў на беларуса і дазваляў яму адэкватна разумець рэчаіснасць. Урэшце, непаўнавартасць беларуса заўсёды была прагматычная. І калі б у медаля было тры бакі, дык гэта быў бы трэці бок медаля.

Сёння, калі маятнік гісторыі пахіснуўся ў іншым напрамку, калі настаў час "вясёлы" і падманлівы, авантурны і непрадказальны, калі ў беларуса з'явіўся спакуслівы шанц на самавыратаванне, самарэалізацыю і самасцвярджэнне — той "комплекс" зрабіўся неактуальны. І паўстала пытанне: што з ім рабіць? Адказ знайшоўся пад стыль часу смелы і вясёлы: абвергнуць і адвергнуць! Абвергнуць, аднавіўшы старонкі гераічнай гісторыі, і адвергнуць — энергічна-рашучымі дзеяннямі на нацыянальна-адраджэнскім полі.

На справе аказалася ўсё не так проста.

Нямераную колькасць высілкаў мы трацім на доказ таго, што беларуская культура, гісторыя, мова не з'яўляюцца прыватным выпадкам расійскай культуры, гісторыі, мовы, а мы, беларусы, зусім не тое, што рускія. Пафасам сцвярджэння "Мы не такія!" прасякнута ўся адраджэнская дзейнасць. Гэта непазбежная і заканамерная з'ява ў нацыянальным уласна-беларускім адраджэнскім працэсе. Вымушаны гістарычна, геаграфічна і генеалагічна суседнічаць з Расіяй, беларускі этнас мусіць дбаць пра свае адрозненні ад яе, каб таксанамічна адасобіцца і не згубіцца ў цяню магутнай і пярэстай кроны расійскага этнасу. "Мы не такія" — гэта найпершае, што мы мусім даказваць усяму свету, а найбольш сабе. Аднак гэтая гордая ісціна, нават паспяхова сцверджаная, выказвае, тым не менш, той самы кляты "комплекс". Маючы негатыўную прыроду, яна не здольная сама па сабе адказаць на пазітыўнае пытанне — "а якія ж мы?", пытанне, якое з'яўляецца мэтаю, прытым, што сцвярджэнне "мы не такія" — толькі адзін са сродкаў. Калі забыцца на гэтую акалічнасць і, прыняўшы сродак за мэту, скіраваць дзейнасць крыху "не туды" — можна дамагчыся і вынікаў крыху "не тых", або.... адваротных. Калі на шляху да ісціны крыху зрушыць сэнсавыя акцэнты (усяго толькі акцэнты!), тады нават пры значных прамежкавых набытках могуць быць вялікія страты ў набыцці галоўнага, а шлях да ісціны можа зрабіцца шляхам у нікуды.

Нешта падобнае, мабыць, і адбываецца з намі апошнім часам.

Інтэлігенцыя ў апантаным натхненні прапела гімн, прысвечаны нацыянальнай своеасаблівасці ды адметнасці свайго народа. "Мы не такія! Мы не яны!" А народ у адказ паціснуў плячыма: "Ну, дык і што?"

Народ мае рацыю. Мусіць, народ не пачуў адказу на нейкае галоўнае, адвечнае і надзённае сваё пытанне.

Няпраўдай было б казаць, што сучаснае нацыянальна скіраванае наша асветніцтва выпускае з-пад увагі або скажае, або замоўчвае штосьці сутнаснае з гісторыі беларускага этнасу. Наадварот, гістарычная навука як ніколі раней скіравана да "белых плям". Але ж акцэнты... Яны расстаўлены так, што выходзіць, нібыта свой гістарычна-духоўны пачатак беларусы павялі сама раней з XI стагоддзя. Ужо ўзгадаваная цэлая папуляцыя гістарычна свядомых грамадзян, якія каранямі ўласнай духоўнасці ўтульна пачуваюцца ў гэтай адносна неглыбокай гістарычнай пельцы. Найбольш дамагальныя з іх сягаюць духам аж (!) да часоў святой Ефрасінні. Амбіцыі іншых не распасціраюцца далей Крэўскай уніі.

Беларускі народ, як ніякі іншы, не ведае сваю гісторыю. Таму ён не разумее і не падзяляе на масавым узроўні сучаснага гістарычна-адраджэнскага пафасу на тэму "залатога веку". Кансерватыўна-інертная свядомасць не дазваляе народу перажываць патрыятычны энтузіязм з нагоды, скажам, Аршанскай перамогі Кастуся Астрожскага. Яна хутчэй адрэагуе нігілістычным "ну, дык і што". Генетычная пакутліва-падсвядомая прага самаідэнтыфікацыі чамусьці не спатольваецца з сучаснай гістарычна-навуковай крыніцы, багатай, між іншым, на новыя цікавыя факты, дэталі, канцэпцыі ды нюансы. Гістарычна неадукаваны народ нюансамі грэбуе і патрабуе ў вяшчальнікаў Адраджэння ісціну цалкам. А паколькі народ — гэта яшчэ і плебс, то ў крайнім выпадку ён згадзіўся б на... каўбасу. А паколькі ні сейбіты, ні аратыя нацыянальнай нівы пакуль не ў стане былі даць ні першага, ні другога — народ і адвярнуўся ад іх, усім сваім выглядам і ўчынкамі дэманструючы свету несвядомасць і нацыянальны нігілізм.

Разумеючы прыроду гісторыка-гастранамічных схільнасцей народа, я, свядомы беларус, не магу без сардэчнай скрухі назіраць шкодную заганнасць гэтых схільнасцей. Асабліва ў іх гастранамічнай частцы. У частцы ўласна-гістарычнай мае схільнасці не супадаюць з народнымі ўжо не так катэгарычна. Здараецца, я вагаюся. Магчыма, таму, што "выйшлі мы ўсе з народа". Гэта непрыемна, але цікава. Цікава, чаму я не адчуваю ў сабе генетычнага свербу Гедыміна ці Вітаўта, чаму ў маёй геннай памяці так слаба варушацца Ягайла ды Сапега? Аніразу я не прачнуўся ад радаснай думкі: "Я — нашчадак ВКЛ!"

Прызнавацца ў гэтым сорамна, але неабходна. Трэба высветліць, чаму я, культурна-асвечаны і гістарычна-свядомы нашчадак мінуўшчыны, разам з непразрыстай большасцю астатняга насельніцтва не падзяляю, часам, энтузіязму і некаторых падзейна-гістарычных сімпатый маіх братоў-маркотнікаў аб лёсе радзімы. Няўжо ладны кавалак гісторыі аказаўся мне "не па зубах" і выпаў з рэчышча маёй духоўнай памяці?

Няхай склероз. Але чамусьці Кіеўскі князь Уладзімір абуджае ўва мне такія роднасныя пачуцці, што калі гісторыкі малююць яго, свяціцеля, толькі жорсткім гвалтаўніком (зноў жа, акцэнты!), я адчуваю ўкол фамільнага самалюбства. Я з прыемнасцю ўспамінаю аб Статуце княства Літоўскага, але з асаладай — аб хрышчэнні Русі. Пачуццё славянскага братэрства ўва мне большае за пачуццё крыўды на "старэйшага брата". Гэта насцярожвае. Я падазраю, што гэтыя мае таемныя схільнасці і сімпатыі (ужо пазітыўнага складу) падзяляе нацыянальна-незаклапочаная большасць насельніцтва. Гэта пагражае адлучэннем ад нацыянальнай эліты. Ёсць небяспека апынуцца (у вачах эліты) у адным статку з "рускамоўным" люмпенам, ваяўнічымі манкуртамі, нацыянал-інтэрнацыяналістамі, камуна-славянамі, прадаўшчыцамі каўбасных аддзелаў, пасажыркамі з пярэдніх крэслаў тралейбусаў і рознымі іншымі ўдзельнікамі нашай пятай калоны. Аднак я, дэманструючы цвёрдасць духу і незалежнасць думкі, паспрабую не зважаць.

Выбіральнасць у адносінах да тых ці іншых гістарычных падзей нельга растлумачыць толькі ідэалагічнымі прыхільнасцямі, выхаваннем або дзівосамі чыйгосьці рамантызму. Калі адны і тыя ж сімпатыі, насуперак нацыянальна спрыяльнай канцэпцыі, спантанна групуюцца ў вялікай колькасці душаў-носьбітаў этнічнай спадчыны, значыць у аснове гэтага феномену павінна знаходзіцца нешта аб'ектыўна-незалежнае, псіхалагічна-дзейснае, нешта рэчаіснае. Вось яно! Рэчаіснасць і гісторыя: тое, як стасуюцца яны ў свядомасці (ці падсвядомасці), якія наступствы ў сучаснасці мае гістарычная эпоха або ўчынак — вось што вызначае ступень блізкасці або далёкасці падзеі, яе прызнанне ці забыццё, калі хочаце — папулярнасць. Цёмнае, інстынктыўна-падсвядомае бачанне мінуўшчыны, Бог ведае, якім чынам захаванае беларускім народам, не заўсёды супадае з гістарычна-навуковай рэканструкцыяй. Але, здаецца, наш гістарычна-няўцямлівы народ не такі ўжо няўцямлівы, калі хоча пачувацца пераемнікам і спадкаемцам уласнай гісторыі.

Мала які правазнаўца ўгледзіць спадчынную сувязь паміж дасягненнямі прававой думкі XVI стагоддзя (Статут ВКЛ) і сённяшнімі спекуляцыямі вакол Канстытуцыі. Затое нават бязбожнік лёгка сягае, не духам, дык памяццю, у год 988-мы, на паганскія берагі Дняпра-Славуціча, як зазвоняць званы на вячэрню.

Паданне пра Аршанскую бітву здольнае выклікаць гордыя пачуцці. Але які з яе вынікаў адчуваецца сёння? Ды і цяжка, прынамсі, салдату Айчыннай запаліцца патрыятызмам на ўгодкі Аршанскай перамогі. Гэтую асалоду ён меў у 41-м, поруч з нашчадкамі тых пераможаных пад Оршай. А вось Грунвальд ён, бадай што, адчуе і зразумее, бо не пад немцамі жывём, дзякуй Богу. (Беларускаму розуму, увогуле, як бы ён ні пнуўся, цяжка назіраць у адным шэрагу Аршанскую і Грунвальдскую падзеі, хаця б таму, што расійцы не басурманы!)

Дарэчы, пра ўгодкі. Прыхільнасць перыядычна пакланяцца юбілеям, асабліва не ўнікаючы ў іх этымалогію, я называю хранацыклічным фетышызмам, і мне гэтае азначэнне вельмі падабаецца. Іншыя новыя нацыянальна-гістарычныя даты нічога не гавораць ні галаве, ні сэрцу мільёнаў несвядомых беларусаў, і яны б ахвотна пагадзіліся з маім азначэннем, калі б самі не ўмелі лаяцца больш адмыслова.

Недзе тут паблізу хаваецца адказ на пытанне, чаму народ застаўся раўнадушным да ідэй уласнага адраджэння, усталяваных на пэўным чынам выкладзеных фактах гісторыі.

II

Недарэчная рэакцыя беларусаў на нацыянальна-асветніцкія і нацыянальна-палітычныя высілкі інтэлігенцыі выклікае раздражненне. Выводзіць з сябе нацыянальна-этнічная недаспеласць і інтэлектуальна-духоўная нямогласць суплямённікаў. Але чаму — раздражненне? Нямогласць з недаспеласцю — наша нацыянальнае бедства, і павінна выклікаць спагаду і шкадаванне. Раздражняе, усё ж, не бяда, а віна. А яна ў тым, што народ з прастадушным каварствам дзікуна ўпарціцца ў сваім памылковым светасузіранні, нягледзячы на наша самаадданае асветніцтва. Цікавы, аднак, момант вынікае са сказанага. Народ упарціцца, а ўпартасць — амаль тое самае, што воля. А паколькі ў нармальнай дэтэрмінаванай свядомасці воля кепска стасуецца з нямогласцю — непазбежна раздражняешся. Аднак, пазлаваўшыся, паволі згаджаешся з тым, што нямогласць нацыянальна-несвядомых беларусаў ёсць нішто іншае, як перабольшанне беларусаў нацыянальна-свядомых. У галаву лезуць розныя думкі і наконт беларускага "комплексу непаўнавартасці". Не тое, каб зусім не верылася ў яго існаванне, але бяруць сумненні наконт агульнанацыянальнай яго прыналежнасці. З іншага боку прыгледзеўшыся — дык народ не так ужо і комплексуе. Хіба самую крышачку, у межах роднай сэрцу рахманасці. Калі беларус садзіцца ў сваёй хаце каля парога, дык гэта па прывычцы ды з гасціннасці. Ды ад залішняй веры ў невычарпальнасць сваіх хатніх прыпасаў. Мусіць, праз адчуванне ў сабе генетычнага запасу трываласці ён дазваляе сабе палітыка-дзяржаўны інфантылізм, сімваліка-геральдычную індыферэнтнасць, рызыкоўныя гульні з двухмоўем і розныя іншыя гульні, за якія можа паплаціцца і моваю, і дзяржавай, і жыццём, як некалі паплаціўся этнічна-духоўным адзінствам за уніяцкія гульні з каталіцтвам. Зрэшты, на ўсё воля Божая.

Цяперашняя нацыянальна-ашчадная думка прапануе неабачліваму этнасу амаль тысячагадовы радавод і ўласна-беларускі гістарычны час ва ўласна-беларускай геаграфічнай прасторы. Амбіцыі ж народа і ў часе, і ў прасторы распасціраюцца глыбей і шырэй: ці не кожны беларускі дзядзька вядзе свой радавод ад Адама, а братоў мае і за Смаленскам. І гэта пры тым, што наяве ўсе прыкметы нацыянальнага выраджэння. Што гэта: амбітны ідыятызм дэгенерата ці сціплая геніяльнасць прарока? І тое, і другое. Здаецца, менавіта такую дыялектычна-супярэчлівую фізіяномію мае беларуская нацыя сёння. Але пераважае геніяльнасць. Я ўпэўнены ў гэтым, бо заўсёды маю на ўвазе дзве беларускія скарбонкі, да якіх падабралася ўшчыльную, але не знайшла яшчэ сваіх адмычак зладзейка-гісторыя. Гэта фальклор і вера. Ні дзяржаў-

(Працяг на стар. 12, 15)

Мікола ЗАХАРАНКА

# Марнатраўства



## Пераклаў Лявон Баршчэўскі

Серыя "Бібліятэка замежнай прозы" (а жыццё ёй дае, як вядома, выдавецтва "Мастацкая літаратура") папоўнілася кнігай Ф. Кафкі "Прысуд". Дзякуючы Л. Баршчэўскаму, на беларускай мове можна прачытаць творы гэтага выдатнага пісьменніка з ягоных зборнікаў "Разважанне" (1913), "Вясковы лекар" (1919), "Гаспадар" (1924), а таксама тыя, якія друкаваліся ў перыёдыцы і ў кнігі не ўваходзілі, і асобна выдадзеныя апавяданні.

Прадмову напісаў Пятро Васючэнка.

## І Пінск — горад старажытны

Ён, праўда, трошкі маладзейшы за стольны Мінск — яму споўнілася 900 гадоў. Першы ўпамінак пра гэты горад на Піне значыцца ў "Першапачатковым летапісе" за 1097 год. Перагарнуць жа старонкі шматвяковай гісторыі Пінска можна ў трэцім нумары часопіса "Беларуская мінуўшчына". У папярэднім нумары "БМ" шырока адзначыла 930-годдзе Оршы. Цяпер не менш шырока падаецца пінская даўніна.

Адкрываецца нумар артыкулам В. Вяргей і А. Іова "Пінск старажытны", "Тры паверхі гісторыі" Н. Нікіцінай — расказ пра справы пінскіх архівістаў. Тут жа прыводзяцца і асобныя дакументы, што зберагаюцца ў гэтым сховішчы.

Цікава пазнаёміцца і з артыкулам А. Соніча "Пра пінскі бунт, страшную камету і казацкую палітыку".

У нарысе ж С. Асіноўскага "Такія розныя аднолькавыя лёсы" на багатым фактычным матэрыяле расказваецца пра добра вядомага А. Філіповіча і крыху менш вядомага А. Баболю. Абодва — постаці ў гісторыі Беларусі неардынарныя. Адзін па веравызнанні з'яўляўся праваслаўным, другі — католіком. Але і першы, і другі прытрымліваліся крайніх поглядаў, і абодва трагічна загінулі.

Пінскі суддзя і мечнік М. Бутрымовіч — таксама з тых, пра каго трэба ведаць. Менавіта дзякуючы яму восенню 1783 года была завершана дарога ад Пінска ўглыб Палесся да Лапаціна. Пра гэтага чалавека — згадкі ў артыкуле В. Ільянкова "Нашчадак рыцара Бутрыма".

Паэт, рэвалюцыянер Ф. Савіч — герой нарыса В. Чаропкі "За шчасце Айчыны".

Можна пазнаёміцца і з артыкулам С. Адамовіч "Пінскія камуністы". Ды гаворка зусім не пра членаў адзінай колішняй партыі, а тых, хто ўваходзіў у так званы ордэн камуністаў, члены якога жылі абшчынай ці, інакш, камунай.

Пра музейныя справы пінчукоў расказвае Р. Марголіна ("Палеская скарбніца"). Яшчэ два матэрыялы звязаны з Пінскам: Н. Высоцкай "Рэліквіі пінскіх храмаў" і І. Раманчука — "Адкуль цячэ Піна?".

А да ўсяго ў блоку пінскіх матэрыялаў — шмат ілюстрацый, у тым ліку і каляровых.

Дарэчы, трэці сёлетні нумар "БМ" юбілейны, дваццаць пяты з часу выхаду гэтага часопіса. Ён згаданымі матэрыяламі не абмяжоўваецца. Змешчаны заканчэнне артыкулаў Я. Юхо "...Каждому заасобно нинешним и на потом будучим" і Г. Кісялёва "Апокрыфы змагання", артыкул А. Міхальчанкі "Хто адчыніць дзверы ў інфармацыйнае грамадства".

У "Галерэі" можна пазнаёміцца з У. Міхнюком ("Задзірысты даследчык") і П. Лойкам ("Гісторыя ВКЛ — мае другое жыццёвае вымярэнне"), якія шмат робяць на ніве нацыянальнай гісторыі.

А. Міхнюк ("Па старонках айчыннай мінуўшчыны") працягвае знаёміць з выданнямі гісторыка-краязнаўчай тэматыкі, якія апошнім часам выйшлі на Беларусі.

Друкуюцца пытанні пятага тура віктарыны "Ці ведаеце вы гісторыю Беларусі?"

Не заціхаюць спрэчкі, якім быць школьным падручнікам па гісторыі Беларусі. Водгалас іх — артыкулы В. Чарапіцы "Падручнік будзе цяжка чытаць нават студэнтам гістфака..." і М. Біча "З прапанаванай канцэпцыяй пагадзіцца не магу".

ВІНШУЕМ!

# Янку БРЫЛЮ — 80!

# Антыюбілейныя развагі

...Ну а пакуль так званая "літаратурная грамадскасць" рыхтуецца да святкавання юбілею свайго "патрыярха" Янкі Брыля, сам Янка Брыль, па ўсіх прыкметах, ставіцца да будучых урачыстасцяў даволі празаічна.

Раз ужо дажыў да "круглай даты" — няхай адзначаюць — становішча абавязвае, нікуды не падзенешся.

Хутчэй бы гэтыя "ўрачыстасці" прамінулі...

Бо куды большую радасць, напэўна, атрымлівае пісьменнік Брыль ад завяршэння новага твора, чым ад пэўнай сумы юбілейных артыкулаў і банкетных прамоў.

Тым болей, што яны маюць уласцівасць паўтарацца.

Але што мы сапраўды можам змяніць, калі не адзначаць, не святкаваць, не памятаць дні нараджэння такіх асоб, як Янка Брыль, не маем права — гэта было б усё роўна як прызнаць усю нашу літаратуру не вартай увагі і памяці.

Не таму, што Янка Брыль — уся беларуская літаратура.

А таму, што ўся літаратура складаецца з такіх асобных постацяў, забываючы на адну з іх, не аддаючы ёй належнай увагі — мы збядняем, паніжаем усе астатнія, і сябе паніжаем, у тым ліку.

Брыль абыдзецца без нашых выказванняў і прамоў. Мала ён іх чуў?

А вось самім сабе лішні раз нагадаць, што мы — сучаснікі такіх асоб, як Янка Брыль, вельмі і вельмі патрэбна.

Якіх толькі эпітэтаў і вобразаў у дачыненні да Янкі Брыля і яго творчасці не вынайдзена! І колькі яшчэ будзе вынайдзена. Для адных ён — сапраўды адна з вяршынь беларускай літаратуры. Для другіх — увасабленне традыцыйнасці гэтай літаратуры.

А традыцыйнасць традыцыйна выклікае на сябе "агонь" "юных геніяў", якім ва ўсе часы хочацца пачаць абвяржэнне ўсіх традыцый.

І, як ва ўсе часы, самы варты з тых юных "абвяргальшчыкаў" стане ў сваю пару, калі хопіць "геніяльнасці", гэткім жа ўвасабленнем "праклятай традыцыі" для наступных пакаленняў пачаткоўцаў.

І, у сваю ж пару, пару творчага сталення па-новаму ацэніць творчасць тых, супраць каго паўставаў з надзеяй узляцець куды вышэй...

Як быццам не хапае неба...

Асацыяцыя з традыцыйнасцю ў адносінах да Янкі Брыля, як мне падаецца, узнікае галоўным чынам дзякуючы школьнай праграме — мы з дзяцінства засвоілі — тое, што прымушаюць вучыць, не можа быць ні цікавым, ні наватарскім. Але школьнае навучанне канчаецца, а літаратура застаецца.

І застаецца ў ёй пісьменнік Янка Брыль, вакол постаці якога працягвае закручвацца вір параўнанняў, вобразаў, выказванняў, прамоў, артыкулаў, эпіграм і г. д.

Але — часам праверана — гэты вір яго не закруціць, не зрушыць з Богам адведзенага месца. Яму няма калі прыслухоўвацца, цешыць самалюбства ці крыўдзіцца.

Ён піша новы твор.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

# Мова

Янку БРЫЛЮ

*Ёсць паданне вякоў,*
*што разбурыць калісь*
*Вавілонскую Вежу Адам*
*І няўмольна сальюцца мовы зямлі*
*У адну, нялюдную нам.*
*І мая безвыходна пойдзе у змрок,*
*У атрутны, як вечнасць, цень,*
*Трапяткая і сіняя, як васілёк,*
*Гарачая, як прамень.*
*Я ні шчасця, ні будучых дзён не жадзён,*
*Хай пятля, хай памерці ў журбе,*
*Хай не будзе ні шчасця, ні будучых дзён,*
*Калі ў іх не будзе цябе.*
*Сірата па з'едлівай волі багоў,*
*Гінучы мой карабель,*
*Хай не будзе світання ў народа майго,*
*Калі досвіткам здрадзіць цябе.*
*Ад палеткаў райскіх лёгкай ступой*
*Збочу я да пякельных катлоў,*
*Калі першы жа ангел на мове маёй*
*Мне не скажа: "Братка, здароў".*
*І няхай да мяне не прыйдзе вясна,*
*Песня, шчасце, каханне, спакой, —*
*Усё адно не змяняю твой чорны праснак*
*На атруту пшаніцы чужой.*
*Ты мой ясны хлеб і каханы май,*
*Песня продкаў, нашчадкаў палі,*
*Без цябе, не з табой —*
*не патрэбен мне рай*
*На душы. Ў небясі. На зямлі.*


З Сакратам Яновічам. 1980 г.

## Вітаць здалёк

*Брыля заўважыш без брыля,*
*І Брыль яго не носіць.*
*Літаратура без Брыля —*
*без даху дом увосень.*

**Віктар ЯРАЦ**

ЗАНАТАВАЎ АБ'ЕКТЫЎ УЛАДЗІМІРА КРУКА


Янка Брыль і Пімен Панчанка. 1967 г.


Аўтограф Янку Брылю ад Вольгі Іпатавай. 1975 г.


Здымак зроблены ў СП Беларусі. 1960 г.

# "Усё бачыцца выразна і буйна..."

"Свет сур'ёзнее на нашых вачах. Занадта цяжкі груз праблем узвальваецца на плечы пакалення. Янка Брыль з тых, хто стараецца аблегчыць гэты цяжар. Прынамсі, ён ні на каго не навешвае свае асабістыя праблемы.

...Яго пісьменніцкае "Я" глядзіцца ў люстэрка "Мы", "Яны", народа і чалавецтва. У прозе Я. Брыля якраз і ўражвае гэтае шматгалоссе жыцця, дзе ўсе — і сам аўтар, — удзельнікі шумнага карнавалу. Кожны паасобку можа несці ў сваіх вачах глыбокую тугу — след расчараванняў, заклапочанасці, былых драм. Але на людзях усё змяняецца: знікае празмерная сур'ёзнасць у міжасабовых адносінах, рассыпаюцца ў прах саслоўна-маёмасныя бар'еры, прыкметна скарачаецца адлегласць паміж чалавекам і чалавекам. А самае галоўнае — неўпрыкмет нараджаецца і ўсё больш яснее атмасфера свята і свята быцця. І ў гэтым святле гістарычнага дня ўсё бачыцца выразна і буйна, у сваім сапраўдным абліччы, без ідэалагічнага туману і містычнай аўры".

**Міхась ТЫЧЫНА**

"Янка Брыль — лірык, як ужо неаднойчы паказвалася нашай крытыкай, але гэта, вядома, не азначае, што яго творы назусім пазбаўлены пафасу эпічнасці. Мне здаецца, якраз наадварот. Рэальнасць, з якой мае справу лірык, настолькі ж аб'ектыўная, як і тая, з якой мае справу эпік. Розніца хіба ў тым, што эпік больш "лагічна" выбірае і падключае... у механізм формы састаўныя элементы рэальнасці, ствараючы, у адпаведнасці з мастацкай жыццёвай абумоўленасцю, яе "макет". ...адзінства, якога дасягае эпік лагічнай непарыўнасцю сюжэта ў прасторы і часе, лірык кампенсуе адзінствам другога парадку — адзінствам пачуццёвых адносін да таго, што, здавалася б, адвольна выбрана ім з жыццёвай стыхіі... Арганізаваны кавалак рэальнасці, гэтую цяпер ужо мастацкую дадзенасць, лірык імкнецца ўпісаць у шырокую, найшырэйшую, хоць і не аформленую сродкамі мастацтва, раму жыцця; у дыханні гэтага, касмічна ўсеабдымнага, жыцця, у свядомай супастаўленасці з ім — эпічны пафас неэпічнай канцэпцыі лірыкаў.

Мне падабаецца ў Брыля менавіта вось гэтае, на мой погляд, новае разуменне эпічнасці..."

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

"Зусім інакш пішацца, неяк мабілізуешся, падцягваешся, баішся друкаваць халтуру, калі ведаеш, што гэта можа патрапіць на вочы такому суддзі, як Брыль..."

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

"Яго пазалітаратурная існасць (вопыт жыцця, культура паводзін, значнасць прысутнасці ў пісьменніцкім асяроддзі і г. д.) гэткая ж самадастатковая, як і напісанае ім, таму яго проза — не зусім проза ў чыста літаратурным разуменні. Гэта яшчэ і мастацтва з дадатковым зместам, не выказаным у друкаваным слове, — зместам, які ўгадваецца і амаль гэтак жа прачытваецца, як і напісанае. ...яго мастакоўская ростань утворана чытаннем іназіраннем, ...яго стыло ў сваіх лепшых праявах тонкае, як цэркаўка на даляглядзе, ...сам ён так і не спазнаў самазадаволенага пачуцця адсутнасці страху перад белай чыстай паперай".

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

"...Здзіўляе мяне Брылёва дасведчанасць, багацце ведаў. Тое, што называюць вельмі адпаведным і змястоўным словам — энцыклапедычнасць. Чытанне і чытанне, пра што сам Янка Брыль пісаў, як пра святую справу, як пра самую чыстую малітву — самому слову. Руплівая, сапраўдная самастойная вучоба на працягу ўсяго жыцця...

Не раз і не два пісалася ў літаратуры пра брылёўскі стыль. Ёсць ужо грунтоўныя спробы акрэсліць яго. Але і без гэтых спроб дасведчаны чытач адразу распазнае па адным ці некалькіх абзацах: гэта — Брылёва..."

**Фёдар ЯНКОЎСКІ**

"Чытаць Янку Брыля лёгка. А пісаць пра яго цяжка. Можа, таму, што гэта вымагае надзвычайнай дакладнасці, прастаты і глыбіні, якія так уласцівыя брылёўскай прозе...

Ён глядзіць у адну кропку — у сябе, праз сябе бачыць навакольны свет і ўсе тыя адвечныя праблемы, што ў ім існуюць. Але, гледзячы ў сябе і апавядаючы пра сябе, ён якраз і дасягае найбольшых абагульненняў і найбольшай маштабнасці".

**Галіна ТЫЧКА**

"Сама сабою накрэслілася гэтая лінія лёсу: сям'я — гісторыя народа — творчасць. Усё тут адзінае і ўзаемапранікальнае для Брыля. І ўсё перажываецца ім як адзін непаўторны лёс.

...што ж да Брылёвай прозы, то для мяне яна лепшая менавіта там, дзе вызвалена хоць і з самаахвотнага, але ж палону залішне літаральна зразуметага генія, ад ягонай "школы", урокаў — і дзе яна выдумляе, як можа, сама сябе.

Таму Брыль — гэта Брыль, гэта Брыль, гэта Брыль.

Усё астатняе — потым".

**Аляксандр СТАНЮТА**

"Нядобра для любой нацыі, калі ў цяжкі для яе час людзі слухаюць не сваіх мудрацоў, а, па выразу Ф. Ніцшэ, "канапных танцораў". Тым больш, калі існаванне становіцца клубком супярэчнасцяў, а навокал небяспечна віруюць здраднікі ды самаеды.

Штодня са сродкаў электроннай інфармацыі, мы на добры розум, павінны былі б чуць галасы нашых старэйшынаў, а на яшчэ большы розум, дык няблага было б увесці іх у склад урада ў якасці дарадчыкаў: і Янку Брыля, і Васіля Быкава, і Ніла Гілевіча, і многіх іншых, а не казаць пра "мудрасць народа", бо ніякі народ агулам, навошта крывіць душой, — сам па сабе не можа быць такім. І, на жаль, мае вельмі кароткую памяць і паміpae, пакідаючы пасля сябе хіба толькі культуру і мастацтва. На пачатку стагоддзя, прыкладам, існавала 21 цывілізацыя, а зараз — 6.

Іван Антонавіч Брыль — якраз прадстаўнік той неўміручай культуры і мастацтва, сёння наш юбіляр, наш старэйшы і мудры дарадца, майстра літаратуры. І ён — народны пісьменнік. Дык давайце прыслухаемся да яго, бо каго ж нам слухаць, як не нашых патрыярхаў? А Янка Брыль нават знешне такі — двухметровы рост, самавітасць, адразу адчуваецца парода. Да ўсяго ён — сапраўды мудры чалавек, які можа падзяліцца з намі сваім жыццёвым вопытам. І было б адзнакай нашай сталасці выслухаць і зразумець такіх людзей, і менавіта праз іх усвядоміць сябе і свой шлях".

**Юры СТАНКЕВІЧ**

"Чытаючы апавяданні, аповесці, раманы Янкі Брыля, яго дарожныя нататкі і артыкулы, зноў і зноў аглядаючы вечна маладыя, вясёлыя падлескі яго мініяцюр, думаеш пра багацце, якое прынёс гэты пісьменнік у нашу літаратуру. Багацце народных тыпаў, сапраўднай беларускай мовы, шчырасці, любві. Не трэба ўяўляць, што выдатны мастак, пра якога кажуць "народны", — усяго толькі "ідэальны звышправаднік" ад народа ў літаратуру, да чытача. Не, ён не толькі перадае, але і выпрацоўвае, стварае тую самую народнасць — талентам, сумленнем, працай, усім сваім жыццём у народзе і з народам. Без Купалы, без Коласа, без Багдановіча, без Гарэцкага ці Чорнага (калі ўявіць, што некага з іх не было) і само паняцце, разуменне народнасці беларускай літаратуры было б трохі інакшым. Бяднейшым было б. На асобу, на талент, на фарбу вось гэтага пісьменніка бяднейшым.

Якую ж фарбу народнасці дадаў яшчэ і Янка Брыль — пасля класікаў? Уласна кажучы, усё лепшае, што сабрана ў яго тамах, — ужо і адказ. Усё, што, чытаючы, мы прымаем як неабходнае нам, без чаго ўжо не ўяўляем ні сябе, ні беларускай літаратуры. Як без "Новай зямлі" Коласа, "Палескай хронікі" Мележа, "Сцяга брыгады" Куляшова... Адзінае, што хочацца да гэтага дадаць: пасля твораў Янкі Брыля народнасць нашай літаратуры набыла і большую акрэсленасць і большую шырыню: як ніхто, ён ставіць Беларусь, беларускае слова ў шырокі кантэкст чалавецтва. Тое сумнае "братанне", якое столькі разоў канчалася новай, зноў і зноў, бойкай чалавека з чалавекам, народа з народам (дзеля карысці нямногіх), перастала быць наіўнай марай. Яно стала неабходнасцю, бо чалавецтва, бо кожны народ, вядома ж, хочуць жыцця, а не ўсеагульнай пагібелі. Да гэтага кліча і беларускі пісьменнік Янка Брыль — усімі творамі сваімі і ад імя не слабых, а моцных, мужных, тых, хто паказаў, як чалавек можа змагацца і гінуць за сябе і за іншых."

**Алесь АДАМОВІЧ**



*З земляком Аляксеем Карпюком. 1981 г.*



*На сустрэчы ў школе-інтэрнаце N 7 г. Мінска. 1964 г.*



*У цэнтральнай кнігарні Мінска. 1962 г.*



*Янка Брыль са сваім сямействам. 1986 г.*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Тры нумары — у дзвюх кнігах

Менавіта такім захаваўся камплект літаратурна-грамадскага часопіса "Беларуская культура", які пачаў выходзіць у Вільні 70 гадоў назад. Яно і не дзіўна: жыццё "БК" было вельмі кароткім, толькі з ліпеня да верасня 1927 года. Тым не менш рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі паклапаціўся, каб часопіс па меры магчымасці асвятляў пытанні гісторыі Беларусі, не абыходзіў праблем нацыянальнай асветы на Заходняй Беларусі. Друкаваліся таксама творы М. Багдановіча, М. Васілька, А. Бартуля і іншых аўтараў, змяшчаліся пераклады філасофскіх твораў М. Горкага, А. Міцкевіча, Р. Ралана. Быў надрукаваны агляд творчасці Я. Коласа. У раздзеле "Бібліяграфія" прапаноўваўся спіс літаратуры, выдадзенай у Вільні, і агляд беларускага друку з 1906-га па 1927 год.

## "Беларуская энцыклапедыя", том чацвёрты

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі працягвае выпуск 18-томнай Беларускай энцыклапедыі. Нядаўна пабачыў свет чарговы, чацвёрты том яе. Як і папярэднія, ён надрукаваны на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Адпаведна і высокі паліграфічны ўзровень, якаснае мастацкае афармленне. У томе 1032 ілюстрацыі, у тым ліку 60 карт і 160 партрэтаў. Асабліва цудоўна глядзяцца каляровыя. Што да зместу тома, дык ён ахоплівае тэрміны "Варанецкі"—"Гальфстрым", а тым самым у межах гэтых слоў змешчана досыць поўная інфармацыя, што тычыцца розных галін жыцця, літаратуры, мастацтва, культуры. Асноўная частка матэрыялу мае непасрэднае дачыненне да нашай роднай Беларусі.

## У параўнальным аналізе

Стылёвым асаблівасцям напісанага двума беларускімі літаратарамі, якія сталі ахвярамі таталітарызму, прысвечана кніга З. Драздовай "Творчасць А. Мрыя і Л. Калюгі", выпушчаная выдавецтвам "Беларуская навука". Дзякуючы аўтару, лішні раз можна пераканацца, наколькі неаднароднай разнастайнай была нацыянальная проза дваццатых-трыццатых гадоў. У полі зроку даследчыцы добра вядомы на сённяшні дзень раман А. Мрыя "Запіскі Самсона Самасуя", творы, што пісаліся Л. Калюгам падчас яго знаходжання ў зняволенні — раман "Пустадомкі", аповесці "Дзе косці мелюць", "Зоры Вам вядомага горада"...

## Творы Ліндгрэн — па-беларуску

Кнігі вядомай шведскай пісьменніцы, лаўрэата Міжнароднай прэміі імя Х. К. Андэрсана Астрыд Ліндгрэн ведаюць дзеці ва ўсім свеце. Асабліва ім палюбіўся Карлсан, які жыве на даху... Але ў А. Ліндгрэн ёсць і не менш цікавыя творы. У гэтым можна ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з яе кнігай "Браты Львінае Сэрца", выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва" ў серыі "Школьная бібліятэка". Акрамя аднайменнай аповесці-казкі прапануюцца і некалькі апавяданняў пра дзяўчынку Лоту. Пераклалі творы А. Ліндгрэн на беларускую мову С. Лузгіна і Т. Лукша, а прадмову "Пра Астрыд Ліндгрэн і... беларускую літаратуру" напісаў А. Марціновіч.

## І добры... "Доктар Смех"

У рускамоўнага чытача вялікай папулярнасцю карыстаюцца паэтычныя зборнікі "Любімыя вершы", якія выпускае маскоўскае выдавецтва "АСТ-прэс". Дагэтуль выходзілі кнігі Сяргея Міхалкова, Агніі Барто, Валянціна Берастава, Карнея Чукоўскага і іншых знакамітых пісьменнікаў. І вось яшчэ адна ластаўка, што прынесла радасць тым, каго вабіць дасканалае і адначасова дасціпнае паэтычнае слова. Гэтым разам у серыі прадстаўлена Алена Благініна. І не толькі ўласнымі творамі, а і перакладамі. У кагорце тых, чые творы надрукаваны, і вядомая беларуская паэтэса Эдзі Агняцвет. Змешчаны 23 яе вершы, якія ў свой час уваходзілі ў кнігу Эдзі Сямёнаўны "Доктар Смех", што пабачыла свет у выдавецтве "Детская литература".

ПАЭЗІЯ

Эдзі АГНЯЦВЕТ



## Колеры цішыні

*У шумлівым доме*
*ў сутарэнні*
*Цішыню малююць мастакі —*
*Дзіўныя лясныя*
*светацені,*
*Сэрцам незабытыя куткі.*

*Вось яно дзяцінства*
*над ракою —*
*Сіні човен,*
*срэбра лазнякоў.*
*Ты стаіўся*
*з вудай трапяткою*
*Ля старых, цярплівых рыбакоў.*

*І не толькі рыбак*
*палахлівых, —*
*Прагнеш мову фарбаў улавіць:*
*Свет вясёлак,*
*хваляў пераліваў,*
*Цішыню, што музыкай гучыць.*

*І цяпер у мінскім*
*сутарэнні*
*Да цябе вяртаюцца здалёк*
*Водбліскі,*
*і тоны, і адценні —*
*Радасці крынічнае выток.*

*Са свайго малога*
*Манпарнаса*
*Чуеш рэха пыльнае дарог —*
*Перастукі тоненькіх*
*абцасаў,*
*Тупат ботаў,*
*бег нервовых ног.*

*Як іх сёння ўсцерагчы*
*ад стрэсаў,*
*Адвучыць ад дзікай мітусні?*
*Падары ім маладзік*
*над лесам*
*І раку ў світальнай цішыні.*

●

*"Рэмбрант любіў*
*немаладыя твары" —*
*Калісь прамовіў так адзін паэт.*
*Знаходзіў у начным,*
*вірлівым бары*
*Свет жабракоў і валацугаў свет.*
*Калі натура бурна*
*бушавала, —*
*Барвова-цёмных фарбаў*
*не ставала!*

*А сёння,*
*што б кранула Мастака,*
*Калі б ён нашага пабачыў бедняка?*
*Складаны лёс,*
*напэўна б, ён прыкмеціў*
*У постаці, нахіленай*
*над смеццем.*

*Быў адзінокі той і нешчаслівы, —*
*Хто,*
*хто яго калецтвам пакараў?*
*Чаму бутэлькі чорныя з-пад піва*
*Сабе на хлеб надзённы ён збіраў?*
*Ссінелі рукі, быццам ад пажару?*
*..."Рэмбрант любіў*
*немаладыя твары".*

*У Саскію навечна закаханы,*
*Яе слугой, яе Паэтам быў.*
*Жаночаю красой зачараваны,*
*Яе кахаў,*
*а ўсіх людзей любіў.*

## Над здымкам даўнім

*Даўні здымак захаваўся,*
*на здзіўленне:*
*Ты сядзіш у брата на каленях.*
*Каля вас красуні-сёстры*
*і браты.*
*Самы меншы, самы любы — ты.*

*Маці ганарылася, бывала,*
*Маці дзень нядзельны*
*благаслаўляла:*
*На світанні нарадзіўся*
*мой сынок,*
*Светлы, як нядзеля,*
*Міхасёк.*

*...Добра, што ніхто ёй не прарочыў,*
*Не туманіў прадказаннем вочы,*
*Што праз колькі год цябе не стане*
*Некалі ў нядзелю, на світанні...*

## Без цябе...

*Калі б ты ведаў,*
*Як самотна мне без цябе,*
*Як гаротна мне без цябе,*
*Як не стае мне вачэй тваіх глыбокіх,*
*Тваіх імклівых крокаў!*
*Калі б ты ведаў...*

*Ты маліўся:*
*— Хто ж цяпер дапаможа?*
*Ратуй, Божа! —*
*І прасіў мяне ў цішыні начной:*
*— Не плач,*
*не плач нада мной...*

## Боты

*Стаіліся боты ў кутку ў калідоры,*
*Чакаюць,*
*што выйдзе і сам гаспадар:*
*Ён вечна спяшаўся,*
*шукаў на прасторы*
*Няходжаных сцежак,*
*няздзейсненых мар.*

*...Маўчыць гаспадар*
*і маўчаць яго боты,*
*Стаптаны паходкаю левы абцас.*
*У дождж, у слізготу*
*спяшаліся боты —*
*Усё падганялі трывогі і час.*

*Я веру ў дзівосы:*
*Вось-вось страпянецца*
*Збялелае сэрца ад цяжкіх нягод:*
*Адчыняцца дзверы, мой родны прачнецца*
*І весела крыкне:*
*— А ну, у паход!*

●

*А гэты верш*
*я пры табе складала,*
*З табою разам я вясну гукала.*

*"Вясна ідзе!"*
*Як сонца, успрымаю*
*Рахманінава рытмы і настрой.*
*Шуміць,*
*шуміць зялёны ветразь маю,*
*Перамаўляецца з зарой*
*І музыка*
*бяссонная лунае.*

Людміла ПАЎЛІКАВА



## "І час прыйшоў..."

●

*Папрасіш: не кранайся, не ірві!*
*І абарвецца нешта, ціха кане...*
*І авінае золкае чаканне...*
*О, як трывожна час цячэ ў крыві!*

●

*У часе, як у даўкім, цяжкім дыме,*
*іду, паклон аддаўшая быццю —*
*Любоўю пасвянчоная Жыццю,*
*Жыццём ахвяраваная Радзіме...*

## Поле болю

*Перахрысціла ўслед:*
*Гасподзь з табою!*
*Нялюбая — не буду і любой!..*
*Я думала, што выйшла з поля болю.*
*— Наіўная, — сказала мне Любоў.*
*Што дух займала шчасцем*
*і журбою —*
*ля ног ляжала леташнім лісцём...*
*Я думала, што выйшла з поля болю.*
*— Наіўная, — сказала мне Жыццё.*

*Пад гучны кліч:*
*За праўду і за волю! —*
*рассек Вястун пракруставы Саюз...*
*Я думала — мы выйшлі з поля болю.*
*— Наіўная, — сказала Беларусь.*

●

*У слепаце ўтрапёных воч,*
*Валошкі мроівам у жыце —*
*Зямное жыццё — толькі ноч,*
*Прарочы сон мінулых жыццяў...*

●

*Адно наступным шырыцца прасцяг,*
*дык што цягнуць знікомае*
*ў аблудзе —*
*ці ёсць там рысы нашага быцця*
*у бессмяротнасці,*
*якой так прагнуць людзі?..*

●

*Я ўсё сказала тысячы вякоў таму...*
*Дык што ж — маўчаць?*
*Маўчаць? Але каму —*
*каму прыдасца гэтае маўчанне?*
*І чаму?*

*Каго яно сагрэе, ці астудзіць?*

*... Не гутаркі, а СЛОВА*
*прагнуць людзі...*

●

*Святы агонь... Балотныя агні...*
*Раяцца думкі. Мары нешта раюць...*
*Душа ляціць з такое вышыні,*
*з якой не разбіваюцца — згараюць...*

●

*Поўнач. Іконы сярэбранай ззянне.*
*Месяц ліе святло.*
*Строма і тропатка ціша чакання*
*поўніць маё жытло.*

*Ясна — да болю. Да жалю — самотна.*
*Горка — да рэшты сіл.*
*Нібы ірвуся з абдымкаў смяротных*
*цемрадзі ўсіх часін.*

*Гнутка пад ношай агромністай ночы.*
*— Божа, іду! Ты дзе?!*
*...Мякка і строга Сярэбраны Хлопчык*
*з Матчыных Рук глядзеў.*

●

*Непалуднае — люблю.*
*І не зайздрошчу болей птушкам,*
*Што, як зняволеныя душы,*
*Спускацца МУСЯЦЬ на зямлю...*

●

*Азірнуся — і ўсё ж прыпаду*
*да зямлі хоць апраткаю тленнай.*
*Цёмна ў садзе расхрыстаных дум,*
*бела ў садзе маім летуценным...*

ПРОЗА

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# ЭЛАЧКА



АПАВЯДАННЕ

НЕ ВЕДАЮ, як у цябе, паважаны чытач, а са мной нярэдка здараецца ў хвілю задумення — злятаюць з вуснаў словы, нібыта не мной сказаныя, прынамсі, не ўсвядомленыя.

Зазвычай гэта глабальныя высновы, кшталту: "Жыццё цудоўнае" ці "Абрыдла ўсё". А бывае і ўвогуле нешта фантастычнае, але дужа экспрэсіўнае... Тады паспрабуй растлумачыць сваім бліжнім, чым выкліканы той ці іншы эмацыйны ўскрык...

На Усходзе ёсць прымха, што беспрытульныя духі падпільноўваюць час роздуму і мар чалавека, каб прамаўляць яго вуснамі...

Калі гэта так, то ля нашай суседкі Элачкі ўвесь час круціўся адзін нахабны дух, бо з яе вуснаў зрывалася аднатыпнае: "Хачу на мора... На мора б, на сонца..." Адзінаццаць з дванаццаці месяцаў года Элачка нудзілася па сонцы, моры і садавіне, нетутэйшых, яркіх, спакусных. Можна было падумаць, што наша суседка нарадзілася недзе на поўдні, і люстравалі ейныя цёмныя вочы сузор'е Паўднёвага Крыжа. Аж не — нарадзілася Элачка ў нашай роднай беларускай правінцыі, у маленькім мястэчку, дзе робяць для ўсяе Беларусі мэблю і запалкі, і з усіх яе сваякоў, жывых і памерлых, адна бабулька-нябожчыца сапраўды прыехала на Беларусь аднекуль з поўдня, здаецца, з Арменіі, і мела старажытнае паўднёвае імя Равека і паўднёвую крою. Праўда, акрамя імені, Элачка нічога пра сваю бабулю не ведала, але ж сваяцтва ў нашым цывілізаваным грамадстве заўсёды можна пацвердзіць дакументальна...

Гэтая акалічнасць і вызначыла лёс Элчынай сям'і. Элчын муж, Міца, тоўсты і дабрэнны нашчадак беларускага сялянскага роду, заліваўся слязьмі на нашай кухні: Элачка вырашыла, што яму, Міцу, іхняй васьмігадовай дачцэ і асабіста ёй, Элачцы, будзе куды лепей жыць не тут, на атручанай радыенуклідамі і нітратамі глебе, а там, дзе вечнае сонца, цёплае мора і нябачаная тут садавіна, і ўвогуле ўсё інакш.

А значыць — лепш.

І гэта проста шчасце, што ёсць у Элчыным радаводзе бабуля са старажытнай паўднёвай крывёю, і гэта дае ім усім права на месца пад тым гарачым сонцам, на той блаславёнай зямлі, дзе лунаюць над зялёнымі вінаграднікамі словы Саламонавай песні, а ў Сцяне між небам і зямлёю, Сцяне Плачу Вечнага горада знойдзецца шчылінка і для іхніх малітваў...

Элачка заўсёды мела рацыю. Увесь дом ведаў, як на дзень нараджэння Элачкі Міца прыпазніўся — у яго архітэктурнай майстэрні здавалі чарговы праект. Міца прыйшоў позна, але з букетам гваздзікоў. І мініяцюрная вірлавокая Элачка, якая ўвесь вечар прасядзела насамоце за накрытым сталом, хвастала Міцу па твары тымі гваздзікамі, і вочы яе гарэлі сапраўдным паўднёвым тэмпераментам... А Міца пакорліва паўтараў:

— Як добра, Элачка, што я не купіў табе ружы...

Назаўтра яны разам з вясёлымі каментарыямі апісвалі гэтую сцэну суседзям і знаёмым...

Міца быў вялікае дзіця. А Элачка была вечным падлеткам, з вечнымі спадзяваннямі і рамантычнымі памкненнямі. Нездарма ніхто не зваў яе Элай — толькі Элачкай, як згаварыўшыся. Яна нідзе не працавала ад самага сканчэння мастацкай вучэльні, але была ўпэўнена, што магла б зрабіць нешта незвычайнае... Напрыклад, намаляваць такую карціну, што ўсе ахнуць і ўзрушацца і адразу стануць лепшымі... А пакуль што Элачка малявала на маленькіх кавалачках ДВП яркія, амаль цацачныя пейзажыкі і шыла лялькі, якія развешвала ў кватэры па сценах. Твары і рукі лялек яна ляпіла з цеста, а на ўборы збірала шматкі прыгожых тканін па ўсім доме. Хаця без ваганняў магла адхапіць на ляльчын каўнер кавалак уласнай парадней блузкі. Ды і лялькамі ў звыклым уяўленні Элаччыны фантасмагарычныя фігуркі не былі — дамы, кабальера, блазны, феі, вядзьмаркі, каралі... У мяне дасюль ёсць Элаччын выраб — Дама ў чорным: белы бязвокі твар-маска, высокі капялюшкараблік, карункі, расшытыя шклянымі перламі... Сама Элачка такіх убораў ніколі не мела. Дый увогуле мала што мела — за дзесяць год сумеснага жыцця яны з Міцам абставілі сваю хрушчоўскую аднапакаёўку раскладушкай, канапай і жалезнымі паліцамі. Гонарам Элачкі была купленая ў камісійцы шафа для вітальні — з вялікай люстэркавай нішай пасярэдзіне. Шафу ўрачыста паставілі ў залу. Ды пасля смерці Элаччынай маці з маленькага мэблева-запалкавага мястэчка (трохпакаёўка яе так і адышла дзяржаве, бо не паклапаціліся ні пра прыватызацыю, ні пра абмен) Элаччыну кватэру прыўкрасілі стары сервант, дыван у чырвона-чорныя шашачкі і трохі пацямнелага парцалянавага посуду.

Але — што тыя рэчы? Каму яны на гэтым свеце дадалі шчасця і нашто яны на тым?

Затое адзін месяц у годзе Элачка з сям'ёй абавязкова праводзіла на моры. За год строгай эканоміі збіралася сума, дастатковая для таго, каб набыць білеты на цягнік і зняць катух дзе-небудзь у Ялце, Алупцы ці Гаграх.

Там, дзе мора, сонца і садавіна.

"Хачу на мора", — зрывалася з вуснаў Элачкі, калі мы стаялі ў чарзе ў дзіцячай краме ці гулялі з дзецьмі па рэдкіх прысадах гарадскога сквера.

Між тым час быў неспакойны. Развальваліся адны дзяржавы і ўзнікалі іншыя. Людзі вызначаліся — з кім яны, як жыць далей. Многія пачалі ўсведамляць, што зямля, на якой ім выпала жыць, не проста кавалак зямной паверхні, а прыўкрасны і таямнічы свет, поўны легендаў і памяці пра крывавыя і рамантычныя падзеі. Свет непаўторны, і, для каго адкрыецца, адзіны. Загучала напоўніцу старажытная славянская мова гэтай зямлі — неўміручая, як трыпутнік, і прыгожая, як валошка. Элаччына дачка пачала вучыцца ў класе з беларускамоўным навучаннем.

— Трэба ведаць сваё, трэба, — згаджалася Элачка. — А нас ужо не перавучыш. Не навучылі гаварыць па-беларуску, а цяпер позна. Мы ж усе думаем па-руску, нават дзеці... — і з вуснаў яе зноў злятала задумлівае: "Хачу на мора... Хачу да сонца..."

А сонца якраз і не было. Выдалася халоднае дажджлівае лета. На сценах Элаччынай кватэры прыбаўляліся новыя дамы і мушкецёры з цеставымі бязвокімі тварамі, дачка ўвесь час шмаргала носам і перхала, і Элачка часта стаяла ля вакна, тужліва глядзела на шэры краявід і плакала. І, напэўна, цяпер ненавідзела гэты дождж, гэтае шэрае неба, вечныя чэргі і сваю маленькую кватэру без балкона, памяняць якую на большую не было ніякай надзеі.

Дарога мае тую неадольную прывабнасць, што здаецца вырашэннем любых праблем. Рушыцца з месца, пакінуць усё, забыцца на ўсё — і ты вольны, чысты, адроджаны. Нездарма падарожжа спаконвеку лічылася справай святой і не кожнаму па сілах...

Тым дажджлівым летам Элачка, відаць, і вырашыла: трэба ехаць. Дакладней, ад'язджаць...

Мы доўга не ведалі пра Элаччыны намеры. Элачка і Міца — на зямлі абетаванай?! Хіба што тэма анекдота. Тым больш, што ў Міцы "пайшла" праца, іх майстэрню забрала сабе прыватная фірма, і Міца пачаў больш-менш прыстойна зарабляць на праектаванні лецішчаў для "новых беларусаў". Да ўсяго нашы суседзі завялі сабаку — падобнага на рудую тумбачку басэтхаўнда, здаровага і няўклюднага: ножкі кароценькія, тулава даўжэзнае, вушы валакуцца па зямлі, вочы чырвоныя, бо павекі вывернутыя, і пашча вечна сліняватая... Пародзістага сабаку займелі задарма — ён нарадзіўся з дэфектам ніжняй скіўіцы, і гаспадары аддалі яго Элачцы.

Бедны Міца, дарэчы, вельмі баяўся сабак. Не тое каб ён уцякаў ад кожнай шаўкі, але ў прысутнасці чацвераногіх сяброў увесь напружваўся і стараўся не рабіць рэзкіх рухаў. Таму наяўнасць у кватэры слінявай тумбападобнай пачвары была для Міцы, як мне здаецца, сапраўдным выпрабаваннем. Кожны раз, калі мы заходзілі да суседзяў, Міца дэманстратыўна браў свайго сабачку за тупую морду, цалаваў у нос, трапаў за вушы, загрываў і паўтараў:

— Я цяпер сабак зусім не баюся! Не разумею, як я мог іх баяцца! Ну хіба гэта можа настрашыць? Гэта ж не сабака, а кот! Чыста кот! Рабі з ім, што хочаш!

Але круглыя блакітныя Міцевы вочы глядзелі спалохана, як вочы стараннага троечніка, які пераконвае выкладчыцу матэматыкі, што больш за мульцікі любіць рашаць задачкі...

Сабаку Элачка вырашыла ўзяць з сабой. Міца збіў будку з мяккай абіўкай унутры. Пры відовішчы будкі, часова выстаўленай на лесвічную пляцоўку, увесь дом зразумеў: гэтыя не жартуюць, едуць...

Куды? Да каго? Навошта?

Адны ўхвалялі рызыкоўны ўчынак: сапраўды, што тут губляць? А там хоць нашчадкам будзе добра. Другія круцілі пальцам ля скроні: ехаць на чужыну, не маючы там ні сваякоў, ні знаёмых, ні вялікага запасу грошай, ні прафесійных навыкаў, на якія ёсць попыт?

Я глядзела на Элачку з трывожнай цікавасцю, як на чалавека з рэдкай хваробай.

І — што ўтойваць — з крыўдаю...

Здаецца, Брэдберы напісаў, што калі чалавек адыходзіць, мы сумуем не па ім, а па тым, што страцілі з ягоным адыходам.

Так, была крыўда — проста на тое, што ніколі ўжо не пасядзім мы на маленькай кухні Элачкі і Міцы. А сядзелі мы там часта — гадзін да трох, чатырох ночы, пакуль дзеці спалі. І гаварылі, гаварылі, гаварылі... Гэта былі класічныя кухонныя інтэлігенцкія размовы — не за пляшкай, а дзеля самой размовы: пра тэатр, кіно, літаратуру, палітыку...

Ніколі не будзе сумесных паездак у лес, у парк, на вадасховішча, у лазню — Элачка на першым слове ўскідвалася, збіралася — і ў паход!

Ніхто ўжо не запросіць нас на дзіцячыя карнавалы на Новы год і дні нараджэння...

Не будзе да каго ў любы час — як толькі наспее — схадзіць са сваімі "бабскімі" праблемамі, выгаварыцца, паскардзіцца...

Не будзе каму арганізоўваць сумесную ранішнюю гімнастыку, прабежкі вакол дома.

Не будзе ў чый адрас круціць пальцам каля скроні: "Ну, чудзікі..."

Хаця крыху пазней я ўпэўнілася, што ўсё вышэйпералічанае не знікла, усё паўтарылася, толькі з іншымі людзьмі і ў іншых абставінах. І тым больш не бывае вакантным месца дваровых "чудзікаў".

У апошні дзень перад ад'ездам Міца спазніўся на развітальную вячэру: тамо́жня не афармляла дакументы, бо Міца хацеў узяць з сабой падарунак супрацоўнікаў — карціну, на якой былі адлюстраваны Элачка і Міца ў лаўровых вянočках і белых хітонах пад пышнай пальмай на фоне сіняга-сіняга мора. Карціну вырашылі пакінуць у кватэры — усё роўна пакуль што будуць яе здаваць знаёмым. А раптам давядзецца вяртацца...

— Мора! Сонца! Садавіна! — ускрыквала Элачка, накладваючы гасцям салаты. — Прыедзеце да нас — разам паплаваем у салёненькіх хвалях!

Не, настрою на вечнае развітанне не было. Затое прысутнічала адчуванне нейкай абсурднасці.

— Ну што ты там збіраешся рабіць? — нарэшце звярнулася я да Элачкі. — Ты ж увесь час казала, што не можаш без духоўнага жыцця, без нашых пасядзелак, без тэатраў, музыкі, выстаў. А якія мела напалеонаўскія планы — і наконт уласнай выставы, і наконт таго, каб заснаваць сваю архітэктурную фірму...

— А мы там фірму заснуем! — весела адказала Элачка, і пытанне прыліпла ў мяне да языка. Можа, у Элачкі на зямлі абетаванай усё-ткі багатае сваяцтва, ці тайныя запасы грошай? Чаго я лезу не ў сваю справу?

Элаччына і наша дочкі натхнёна гуляліся ў лялькі, і ім не было ніякай справы да хуткага расстання. Басэтхаўнд хадзіў вакол стала і дружалюбна лупіў паленападобным хвастом па нагах гасцей. Я шукала нейкіх слоў, якія б і мяне самую прымірылі з тым, што адбываецца:

— Урэшце, там вельмі цікава жыць...

Элачка, якая з уласцівай ёй хуткасцю электравеніка снавала між кухняй і залай з салатніцамі і бутэлькамі, няўважна адказала:

— Так, канешне, нам будзе цікава.

Я, насмеліўшыся, працягвала думку:

— Там свая культура, традыцыі, звычаі. Старажытная мова, літаратура. На тваім месцы я пачала б сур'ёзна з гэтым знаёміцца, каб увайсці ў гістарычную атмасферу, зліцца з народам...

— А навошта нам тыя звычаі? — Элачка нарэшце прысела з намі за стол. — Гэта не для нас. Дый і якія з нас габрэі? Там шмат такіх, як мы, што адсюль прыехалі, так што паразумеемся!

І яны ад'ехалі.

Апошняя лялька, якую зрабіла Элачка, быў... кактус. Вялізны кактус з пап'е-машэ, унутры — пустыя пластыкавыя бутэлькі. Расфарбаваны гуашшу, з пышнымі папяровымі кветкамі. Кактус Элачка "пасадзіла" ў сапраўдны гліняны гаршчок і паставіла на падваконнік, засыпаны каменьчыкамі, ракавінкамі і аскалёпкамі керамічнага посуду. Суседкі, што выгульвалі ў двары дзяцей і ўнукаў, тры дні спрачаліся пад Элаччыным вакном: сапраўдны кактус ці не? Калі сапраўдны — дык дзе такі ўзяла? Калі несапраўдны — нашто выставіла?

Вырашыла спрэчку тое, што па тэхналогіі вырабу размаляваны кактус двое сутак сох, а на трэція Элачка наклеіла на яго кветкі.

— О, кветачкі распусціліся! — радаваліся суседкі. — Сапраўдны!

І доўга яшчэ кактус на вакне Элаччынай кватэры нагадваў мне пра суседзяў, і здавалася, што яны вось-вось вернуцца.

Праз год прыйшлі весткі з зямлі абетаванай: Элачка працуе пасудамыйкай, Міца прыбірае смецце на будоўлі, дачка вучыцца ў школе. Жывуць нашы былыя суседзі на беразе мора, у катэджы (з земляной падлогай і без кухні), у Міцы алергія на клімат, але ж няма ніякай радыяцыі, і садавіны — хоць задушыся.

Пра сабачку ніхто нічога не ведаў.

Адзіны раз Элачка нам патэлефанавала. "Сонца", "мора" і "садавіна" перасыпалі яе энергічную гаворку. Але я заўважыла, што гэтыя паняцці перайшлі ў яе з падсвядомага ў рацыянальнае — яна называла іх, як мы называем "дождж", "зарплата", "прастуда". Элачка ні пра што не пыталася, і мае пытанні згасалі без адказаў...

— Усё добра. Я шчаслівая.

А пасля далёкая Элаччына сваячка прадала па даверанасці іх кватэру. Апошні раз я пабачыла Элаччыных лялек з белымі сляпымі тварамі ў шыкоўных, матыльковых строях — сваячка выносіла іх зваленымі ў скрыню. Напрыканцы з кватэры вынеслі карціну, на якой былі Міца з Элачкай пад пальмай.

Кактус з пап'е-машэ, абадраны, паліняль, стаяў на лесвічнай пляцоўцы. І я палабрала яго.

...За вакном лье наш традыцыйны дождж, праз сценку чуваць, як па тэлевізары перадаюць апошнія паведамленні, я гляджу на велізарны кактус, на яго новыя прыклееныя папяровыя кветкі і думаю пра Элачку, якая грэецца на паўднёвым сонцы, кожны дзень уваходзіць у салёныя цёплыя хвалі мора, і, напэўна, шчаслівая...

Таму што не можа быць праўдай благая вестка, якая дайшла да суседзяў, што быццам Элачка ўтапілася ў сваім цёплым, родным моры... Тым больш, што суседка не ўпэўнена, ці то наша Элачка загінула, ці то ейная цёзка...

## Беларускія ноты ў кнігарнях... Мілана

Vladimir I.Zakharov

ALBUM INFANTILE

*dieci pezzi progressivi per chitarra*



**BÈRBEN**

*Edizioni musicali - Ancona, Italia*

**Тыя, каму надакучыла наракаць ды скардзіцца на адсутнасць у нашай краіне дзяржаўнага нотнага выдавецтва, шукаюць выйсце. Праблему друкавання музычных твораў па-свойму вырашаюць Беларускі інстытут праблем культуры, Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла". Нядаўна (і "ЛіМ" пра тое пісаў) быў здзейснены нават індывідуальны праект: зборнік уласных п'ес выпусціў за свой кошт вядомы гітарыст з Гародні Уладзімір Захараў. Праўда, як прызнаўся музыкант, мо й не браўся б ён за гэту справу, калі б ведаў, з якімі ганебнымі праблемамі звязана рэалізацыя ўжо гатовага зборніка праз айчынны кніжны гандаль. У Іспаніі, напрыклад, дзе гастраляваў У. Захараў, ягоныя ноты ахвотна бралі для продажу.**

**А нядаўна зборнік п'ес беларускага гітарыста паступіў у буйныя кнігарні Мілана, дзе, як расказваюць, карыстаюцца пакупніцкім попытам. Але гэта ўжо зусім іншы зборнік, і гісторыя яго такая.**

**Гады два таму сябра Рэспубліканскага клуба гітарыстаў Алег Капянкоў перадаў Уладзіміру Захараву адрас вядомага італьянскага папулярызатара гітарнай музыкі Усходняй Еўропы Марка Базоці. Сам гітарыст, музычны рэдактар, добры знаўца рускай мовы, сп. Базоці зацікавіўся дасланымі з Гародні аўдыёзапісам і нотамі арыгінальных жанравых п'ес У. Захарава, аб'яднаных пад назваю "Дзіцячы альбом". Наладзілася ліставанне. Аўтар даў згоду на выданне зборніка. Прытым было зроблена некалькі рэдакцый, удакладняліся тлумачальныя тэксты — апісанні спецыфічных выканальніцкіх прыёмаў: а тэксты пададзены па-англійску, па-італьянску, па-руску і часткова нават па-беларуску.**

**Урэшце, у італьянскім горадзе Анкона, у прэстыжным выдавецтве "Berben" пабачыў свет "Дзіцячы альбом".**

**Уладзімір Захараў, артыст з міжнароднай вядомасцю, выдатны педагог, удзячна ўспамінае тых, хто некалі заахвоціў ягонае жаданне "складаць музыку". Гэта і настаўнік па кампазіцыі ў Гарадзенскім музычным вучылішчы Віталь Радзіёнаў, які падтрымліваў у сваіх выхаванцах схільнасць да самавыяўлення ў творчасці. Гэта і прафесар Дзмітры Смольскі, які за не надта й доўгі тэрмін мінскіх заняткаў навучыў У. Захарава прыстасоўваць сваё аўтарскае мысленне і ўяўленне да прыроды канкрэтнага інструмента і дакладна афармляць творчую ідэю ў нотны тэкст.**

**"Дзіцячы альбом", сшытак п'ес, пазначаны 1978 годам, без малога два дзесяцігоддзі на слыху ў публікі: дзякуючы канцэртам У. Захарава, дзякуючы фондавым запісам на радыё, што нярэдка гучаць у музычных праграмах эфіру. Дарэчы, радыёслухачы маглі заўважыць, што беларускія гітарысты маюць у сваім рэпертуары п'есы славутых італьянцаў: Джуліяні, Скарлаці... Цяпер, відаць, італьянскія музыканты, у асяроддзі якіх ажывілася цікавасць да сучасных кампазітараў усходнеўрапейскіх краін, адкажуць нашай культуры ўзаемнасцю?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***Ён так і не займеў розгаласу, прызнання, разумення абазнаных тэатралаў, — ён, "Рычард III" Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. На дасведчанасць, на спагаду апошніх, здаецца, больш за ўсё спадзяваўся рэжысёр Валерый Маслюк, прапануючы гораду й грамадзе ну надта ўжо далёкі, надта аддалены ад уяўленняў пра класічны — твор. "Шэкспір — Дудараў — Маслюк" стаяла ў афішах.***

***У інтэрв'ю тэлебачанню Аляксей Дудараў казаў пра свет, які мяняецца, ды пра ўладара або ўладароў свету, чыя сутнасць тая самая... Падкрэсліваў Шэкспіраву заўсёдную сучаснасць.***

***Валерый Маслюк з нагоды прэм'еры (верасень 1995) азваўся хіба на дамаганні магілёўскіх карэспандэнтаў. Шэкспіра, як сааўтара праекта, патурбавалі разоў пяць-шэсць, — такая колькасць паказаў спектакля выявілася натуральнай для Магілёва.***

# "Жыццё паставіўшы... гуляць да скону"

Правал спектакля "Рычард III" на Рэспубліканскай лабараторыі драматычнага мастацтва (сцэна Маладзёжнага тэатра Беларусі, студзень 1997) засведчылі крытыкі, сама магілёўская трупа ды, як прынята пісаць, тэатральная грамадскасць. Пастаноўшчыка найперш, не зважаючы на саўдзельнікаў спектакля, вінавацілі ў няўцямнасці памкненняў. Або ў іхняй недаходлівасці, ці што... Ці не ўсё, што давялося спраўджваць акцёрам, каб падзеі змянялі адна адну (а не нагрувашчваліся) можна было вычытаць з Шэкспіра, чыю заўсёдную сучаснасць ужо быў падкрэсліў сучасны драматург-сааўтар. Адаптацыя Шэкспіра, якую агораў Аляксей Дудараў для беларускай сцэны (для "Вольнай сцэны" перадусім. Бо ўжо з яе Валерый Анісенка, замахнуўшыся на рэжысуру, выцягнуў дух... разам з намерамі і адаптацыямі Шэкспіра ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), мелі на ўвазе ўшчыльненне дзеяння, скарачэнне дзейных асобаў, — дзеяля паскарэння развіцця падзей ды спрашчэння вынікаў учынкаў? "Шэкспір, калі яго ставіць так, як напісана, расцягнецца на чатыры-пяць гадзін, і хто гэта вытрымае?" — чула неаднойчы. Зрэшты, часам відовішча працягам з гадзіну трываць немагчыма: з прычыны адсутнасці ўсялякіх прычын ды наступстваў... Дзеянне, якое стала і стаіць, не зрушаць высілкі тых, хто лётае або шнырыць па сцэне. Асаблівасці сцэнічнага дзеяння, акрамя ўсіх вядомых, яшчэ і ў тэксце! У інтанацыях, якімі гэты тэкст афарбоўваюць! Але ў выніку праекта "Шэкспір — Дудараў — Маслюк" прынцыповае розніцы скажам, у колькасці забойцаў на сцэне не было... Двое іх у Шэкспіра, кожны — характарны, але гэтая характарнасць з тэкстам расцягвае дзеянне і нічога да задумы нібыта не дадае... Прынцыповага ў магілёўскім выпадку — напэўна. Магчыма, менавіта на тых хуткасцях, што прапанаваў Дудараў, мог ды мусіў бы існаваць Шэкспір-сучаснік: патрабаванням Валерыя Анісенкі адаптацыі адпавядалі, але чымсьці "Рычард III" зачапіў і Валерыя Маслюка. Рашэнне Маслюка сыграць спектакль — па-першае, драматургічна адаптаваным, па-другое, па-беларуску, па-трэцяе, у Магілёве, — не тое, каб дзівіла, хутчэй, гукала спадзеў... Спадзеў абуджала намаганне Валерыя Маслюка вярнуцца туды, дзе колішні ягоны мастакоўскі поспех трывала злучаўся з ягоным разуменнем тэатра, з ягонымі выхадамі на сцэну акцёрам, з тэатралізацыяй самога жыцця, або, хутчэй, з падначаленнем гэтага жыцця адметным мастацкім і толькі мастацкім мэтам... Колішнія магілёўскія пастаноўкі Маслюка раптоўна нагадалі пра сябе: у тэатры расказвалі, што пэўны час рэжысёр рэпеціраваў "Рычарда", як дыхаў, — вольна, празрыста, лёгка, але не з "лёгкасцю ў думках надзвычайнай", а з адарванасцю, з адцягненасцю ад навязаных жыццём умоваў...

Здаецца, магілёўскі "Рычард III" стаўся ці не апошнім грунтоўным — глыбокім уздыхам так званага канцэптуальнага рэжысёрскага тэатра; больш як дзесяць гадоў таму такі спектакль ужо мроіўся Маслюку і часткова ўвасобіўся ў "Гамлета". Іронія лёсу ў тым, што не магілёўская трупа ўвасабляла задуму рэжысёра-ўлюбёнца як вянец пэўных намаганняў, высілкаў, як адрэзак нейкай мастацкай лініі. Трупа Рускага тэатра Беларусі гэтым "Гамлетам" адметна выпрабоўвала свайго новага на той час мастацкага лідэра, "Гамлет" не завяршаў пэўнае, але меўся распачаць невядома што...

"Рычард III" у Магілёве таксама не цураўся стылізаваных строяў Адраджэння. Здавалася, строі гэтыя, як па настроі ды па фасонах — мастакоўскі маляўнічы маньерызм, — проста замянялі рухацца персанажам. Строі, касцюмы былі ўжо з эпохі новых дачыненняў, да іх трэба было прыстасоўвацца, патрапіць зжыцца з імі: мяняць хаду, манеру трымацца, паставу... Форма, запатрабаваная новаю эпохаю, уладарна вымагала зменаў па сутнасці, у змесце ды змесціве! Адзін Рычард свяціў скурай праз выймы, проймы ды прарэзы на сваёй скураной апранасе: гэткі дзікун пасярод шляхетнага балю, басяк у палацы. Ён і не думаў хаваць свае благія манеры ды голыя сцёгны. Ён правакаваў іншых вызначыцца ў сваім стаўленні да гэтых прарэзаў і аголенасці ў іх. Ён падахвочваў наваколле калі не зайздросціць ягонай, Рычардавай неабавязковасці, непадпарадкаванасці, раскутасці, дык мірыцца з ёю і ніякім Адраджэннем ёй не супярэчыць. У ідэале спектакль Валерыя Маслюка, напэўна, меўся вылучыць Рычарда як антаганіста ўсялякае прыстойнасці й здаровага розуму: "Я вінаваты ў тым, што я ніхто" мовіць ён пад фінал сваіх дзеянняў і здзяйсненняў. Маслюк прапаноўваў гледачу свайго роду анатомію прыходу да ўлады гэтага "нікога" і страты ўлады. Астатнія персанажы (мо так атрымалася насуперак задуме? А калі паводле яе, дык спраўджана было адметна!) уяўляліся як... адзін. Як адно. У ідэале спектакль даваў бы пра вырашальнасць эстэтыкі як маці этыкі (цытую Бродскага). Пра тырана, якому давядзецца або насіць строй адраджэння, спрыяючы яму, або самазнішчыцца, знесшы з сабою (у труну) найбліжэйшых. Яго змятае, скідае, знішчае сама прырода — за неэстэтычнасць, за неэтычнасць, за неадпаведнасць ідэалу і нават за не імкненне да яго!

...На каменьчыках, шчодра насыпаных у драўляныя скрыні-станкі (сцэнограф — Марк Волахаў) на падмостках, проста ў дзіцячай пясочніцы, дзе каменьчыкам можна да крыві параніць крыўдзіцеля, на няўстойлівым алірышчы чалавечага тэрарыума (тэатрарыума!) дачыняюцца, стасункуюцца рознакалёрныя стракатыя істоты. Вонкава, у рухах, пластыцы, колерах — прыгожа дачыняюцца, вытанчана, манерна. Жарсці, паводле рэплік, праўда, пякельныя, але галасы прыглушаныя, словы падабраныя, абразаў ды лаянкі не чуваць. Сярод іх вымушанай прыгажосці Рычард — выкапень, прыхадзень, выпладзень адпаведнае мясціны, дзе тхне серай. Гармонія тэрарыума парушана, бо яна прывідная, несапраўдная (яе форма трымае). Таму — надта няўстойлівая. (Раскалываўшыся, супрацьвагі надта доўга імкнуць да раўнавагі.) Такое парушаць — не трэба асаблівых высілкаў. Хапае кіўка пальца, цыкання зубам, злому брыва...

На самай справе ў спектаклі ёсць Аляксандр Палкін, выканаўца ролі Рычарда, жахліўца-гарбуна, пачвары дзікунства сярод найноўшых формаў дачыненняў, прадыктаванай новаю эпохай, новым светам. Магчыма, не лепшым, але такім, які ў дасканаленні гэтых дачыненняў бачыць перадусім выгоды спакою і засяроджання, стварэння і ахопу, назапашвання і памнажэння... Ёсць акцёр не самай адметнай дыкцыі, досыць дабрабытнага, цывілізаванага выгляду, які звады ды злачынствы свайго персанажа ў асноўным трымае... на языку: ён больш апавядае пра іх. А пакуль апавядае, пакуль трызніць імі, дзеянне таксама... адпачывае. Ён, акцёр, узнёсла і зусім не па-грабежніцку выглядае ў сцэне спакушэння лэдзі Ганны (Вера Амяльчэня), хоць зламіць, спакусіць яе — справа гонару злачынцы, спартовы інтарэс, спаборніцтва з самім сабою. І тут усе сродкі прымальныя, усе вымогі прыдатныя, а Рычард Аляксандра Палкіна захоўвае... высакародства! Прынамсі, вонкавае, у выкананні... Скуль яно, халера на яго, узялося?! І падобных недакладнасцяў у паводзінах перадусім Рычарда — шмат. Праз іх, недакладнасці, неадпаведнасці, непадпарадкаванасці задуме (канцэпцыі, зрэшты) цьмянее задума, занепадае думка, хібіць канцэпцыя, такая старанная, такая відавочная. Няхай яна, як той выкапень, дажыла да сёння з васьмідзесятых; але стыль спектакля прадыктаваны ёю, і стылю варта прытрымлівацца. Тым больш Рычард, як выяўляе спектакль — гулец! І які: "Жыццё паставіўшы, Буду гуляць да скону", дакляруе ён. Жыццё паставіўшы, Рычард у спектаклі нахабна й вынаходліва цвеліць, выпрабоўвае сваімі злачынствамі свет: маўляў, дзе ж тая апош-



няя мяжа, апошняе цярпенне, апошняе трыванне? Ён гулец-геній, ён носьбіт формы, якая не аддзялялася ад зместу, — ён з сярэдзіны, з душы ды сэрца абсалютна тое самае, што і звонку. Ён — богава выпрабаванне акаляючым. На дурноту, на годнасць, на чалавечнасць. Тыран, дыктатар, падступлівы, часам сентыментальны, хворы на ўладу як на шызафрэнію, як бы мы памеркавалі цяпер, ён зацяты ў адной лютай жарсці — гульца. Вось гэтую вырашальную акалічнасць Аляксандр Палкін выяўляе амаль бездакорна. Бо менавіта гэтая акалічнасць мусіць цэментаваць спектакль, аднак не ўсе ягоныя складнікі-"цагліны" гэты цэмент вытрымліваюць... Але, але, Рычард — гэта пэўны магілёўскі акцёр са сваімі магчымасцямі й супярэчнасцямі, з неадпаведнасцямі задуме пастаноўшчыка, якія ад эпізоду да эпізоду, ад учынку да ўчынку грувасцяцца ў неўразуменне...

Я бачыла прэм'ерны спектакль, свежы, зразумелы ў сваёй канцэпцыі, сыграны вельмі блізка да ідэалу рэжысёра і... проста без Рычарда. Ён, галоўны персанаж, спраўдзіўся на працягу паказаў спектакля (за пяць-шэсць паказаў!), ён моцна дабраў... але ўжо без маслюкоўскага вока. Ягонае, Рычардава акаленне між тым ужо не выдавала на маналітны вобраз аднаго, цэлага, непадзельнага...

Каменьчыкі пад нагамі акалення перасыпаюцца, падтрымліваючы метафару няўстойлівасці ("Адно непастаянства ў свеце пастаяннае"). Над сцэнай доўга вісіць шар — крывавая поўня, уладарная дзяржава, свет тырана. Вісіць як тая стрэльба, што мусіць... І шар страляе, разломваецца з дымам і бразганнем. На знак канца. Канца трывання Рычардавых выбрыкаў, канца цярпення. Такім чынам у спектаклі Маслюка першымі не стрывалі сілы нябесныя, прыродныя, боскія. Стракаты натоўп, які са сцэны ў сцэну атуляе і ненавідзіць Рычарда, здаецца, трываў бы ды трываў. Паказальны эпізод з праклёнамі, якія з самых розных вуснаў абрынаюцца на Рычардаву галаву (вядома, абставіны Шэкспіра — намёт, поле бою, страшны сон — у пастаноўцы не ўлічваюцца). Праклёны, як у папярэдніх сцэнах ухвалы ды запрашэнні тырана на трон, гучаць праз фанаграму, неперсаніфікаваныя, так бы мовіць, — ад імя

народа. Такім чынам (рэжысёрскім ходам) ніхто, або амаль ніхто ў дваровым натоўпе не сумняваецца ў сутнасці караля-гарбуна. (Ролю горба, дарэчы, адыграе касцюм з прарэхамі ды аголеныя часткі цела.) Не сумняваецца, аднак — падпарадкуецца, паддаецца. Хто абаянню (адмоўнаму), хто ўціску, хто разліку. Шмат хто, асабліва жанчыны, страху. У выніку прайграюць усе і кожны. І толькі пасля пройгрышу натоўп-асоба распадаецца на складнікі-асобы, з'яўляюцца людзі з ацэнкамі на тварах ды вуснах) толькі каралева Маргарыта заўжды праклінала смела й рашуча, але ёй, як той казаў, няма чаго губляць: Зоя Бурцава выказала гэта пераканаўча.У выніку на пачвару абрынаецца сам свет, выродак супярэчыць светабудове, самой прыродзе, ейным высілкам укласці ў людзей людскае...

І ўсё-такі, каб паразумецца з галоўным персанажам, мне давялося звярнуцца да ягонага выканаўцы: балазе, Аляксандр Палкін выявіўся абаяльным і шчырым чалавекам:

— Аляксандр Аляксандравіч! Ці шмат хто з вашых персанажаў (а за вамі — тры тузіны роляў на магілёўскай драматычнай сцэне) мог сказаць пра сябе: "Я вінаваты ў тым, што я ніхто"?

**— Думаю, ніхто. Ніхто б так пра сябе не сказаў. Між тым ці не ўсе яны былі — ніхто. Але каб шчыра прызнаць гэта... Мне Рычард даспадобы за тое, што ён, увогуле, з сабою шчыры чалавек. А я, ведаеце, ніколі не думаў яго іграць. Не пра мяне... гісторыя гэтая. Такія адкрыцці рабіў...**

— Аляксандр Аляксандравіч, ну няўжо ж нічога агульнага не знайшлося з вашымі... сакратарамі райкамаў, героямі гісторый з партбілетамі, буйнымі кіраўнікамі... Вы іх так адметна, так пераканаўча заўсёды паказвалі...

**— У Шэкспіра ўсё куды больш складана, узбуйнена, даведзена. Я, дарэчы, не стаўлюся да спектакля як да правальнага, хоць крытыкам і відней. Але ў мяне такое адчуванне, што спектакль... не паспеў нарадзіцца, сабрацца як спектакль. Бо змяняецца час, змяняецца ўсё, мяркую, і мы змяняемся, асабліва нашае стаўленне да жыцця і ягоных персанажаў. І да літаратурных персанажаў таксама. І тэатр робіцца іншым, і Маслюк змяніўся. А я да сёння схільны размаўляць з гледачом. Люблю такія спектаклі, каб можна было да яго, да гледача, звярнуцца. У мяне засталіся звычкі... тых персанажаў, я іграў іх калісь хораша. І за перамену вельмі ўдзячны Маслюку...**

Персанажаў. Не тэмаў. Сацыяльнасць? Непадобна, каб Маслюк арыентаваў на яе акцёра. Хутчэй спектакль, ролю, канцэпцыю адкарэктавалі міжвольныя магілёўскія (беларускія) акалічнасці. Абставіны. Тое, што носіцца або вісіць у паветры: надыхаўшыся, падпарадкуешся?.. Як водгулле канцэптуальнай рэжысуры васьмідзесятых, спектакль вызначальна меўся быць, мовім так, эстэтычна другасным; цяпер я мяркую, што гэтая пазнавальная другаснасць закладалася рэжысёрам абсалютна свядома, бо менавіта на такім тле мусілі праступіць яркія пазачасавыя мастацкія ідэі. Выломванне з часу, супрацьстаянне эпосе, зло, якое на самай справе дабро і наадварот, гуканне формаю зместу, няўстойлівасць усяго паўсюль — гэта цытаты-значкі з філасофіі чатырохсотгадовае даўніны, гэта маральныя праблемы, што ўсё яшчэ не збытыя, не вырашаныя. Магчыма, немінучая стратнасць літаратурнай адаптацыі, непазбежная груваскасць увасаблення, загрубеласць чалавечай акцёрскай плоці, нават самі падмосткі — на сцэне тэатра, а падмосткі былога Дома палітасветы ў Магілёве, дзе сёння працуе драматычная трупа, — карацей, нешта не надта ўлоўнае ды зразумелае загубіла спектакль, сапсавала яго самой часавай інерцыяй... Але плён задумы мецьме як сваю вартасць, так і сваё прызнанне. Да асэнсавання вартасці яшчэ два гады таму заставалася паўкроку, прызнанне звычайна спазняецца. Рэжысёр Валерый Маслюк, паставіўшы на кон мастацтва сваё жыццё, будзе гуляць да скону. Нават у апошнім усплёску сцэнічнай канцэптуальнасці а ля васьмідзесятыя. У думках і задумах, якім не пагражае заняпад, састарэласць, — так, як сцэнічнаму ўвасабленню, як арэчаўленню, як форме, якая не вытрымлівае цяжару зместу. Спектакль, міжволі пацвердзіўшы зменлівасць і першынство эстэтычнасці, эстэтыкі, падпаў пад іх і падпарадкаваўся ім. І пацярпеў — ад таго, што ім не адпавядаў. Насампраўдзе — адраджэнская сітуацыя. Ёй і толькі ёй папярэднічае заўсёдная і ўжо шэкспіраўская:

***Змрок надышоў. Няшчасная краіна.***
***Няшчасны люд! Няшчасныя часы!***
***Звер уладарыць.***

І яе можна не перажыць. Нават паставіўшы жыццё, нават гуляючы. Да скону.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Аляксандр Палкін у ролі Рычарда III.*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

# Не паспеў...

***4 жніўня спаўняецца пяцьдзесят гадоў з дня нараджэння Міколы Селешчука. Хацелася б з гэтай нагоды ўзяць у мастака інтэрв'ю, пачуць ягоныя разважанні пра жыццё і мастацтва, а напрыканцы задаць традыцыйнае пытанне пра "творчыя планы", але...***
***Хутка год, як мастака няма. Ён трагічна загінуў леташняй восенню.***
***Ён ужо нічога не скажа. Цяпер за яго гавораць толькі ягоныя творы.***



*"Люблю цябе сустракаць".*



*"Сняданне жывапісца".*



*"Вяртанне на Радзіму".*

Дарэчы, Селяшчук быў чалавекам не надта гаваркім. Ва ўсіх артыкулах пра мастака, якія мне вядомы, няма абароту, накшталт: "мастак сказаў...", "Селяшчук мяркуе...", "на ягоную думку..." — няма спасылак на ягоныя словы. Можа, якому журналісту і пашчасціла "раскруціць" мастака на шчырасць, але мне такія публікацыі на вочы не трапляліся. Інтэрв'ю, якое ён даў "Радыё Ватыкана" незадоўга да смерці, можа, адзіны такі выпадак. Мікола быў чалавекам, які ў святле промняў славы нейкім чынам увесь час заставаўся ў ценю. Паміж ім і іншымі існавала нябачная мяжа, якую ніхто (нават з блізкіх сяброў) не адважваўся перайсці. Прытым, што ягоная легендарная абаяльнасць проста не мела межаў. Безумоўна, былі і тыя, хто яго не надта шанаваў з прычыны звычайнай зайздрасці. Сярод мінскіх мастакоў нямала тых, хто прыехаў у сталіцу з глыбінкі, але такой бліскучай творчай кар'еры не зрабіў, бадай, ніхто. Людзі паўсюль людзі, і ў мастакоўскім асяроддзі відавочныя поспехі калегі таксама далёка не заўжды прымаюцца прыхільна. Але, мабыць, ягоных злоснікаў найбольш раздражняла абсалютная абыякавасць, з якой ён успрымаў накіраваныя ў ягоны бок стрэлы.

Мікола Селяшчук быў асобаю самадастатковаю. Яго не надта цікавіў навакольны свет, мастаку хапала ўласных уяўленняў аб ім. Навакольны свет быў для Міколы "будаўнічым матэрыялам". Адкуль ён браў "цаглінкі" і будаваў нешта паралельнае рэальнасці — свой уласны свет.

Пройдзе час і неяк само сабою вызначыцца месца Міколы Селешчука ў гісторыі беларускага мастацтва, ягоная роля ў культурніцкім працэсе 70—90-х гадоў. Але заўжды застанецца загадка, таямніца ягоных вобразаў. Найперш з той прычыны, што дарослым, таксама як і дзецям, патрэбны казкі. Па-другое, таму, што ніводнай з Міколавых карцін нельга даць адназначнага тлумачэння. Мудрагелістыя сюжэты, фантастычныя вобразы кожнае новае пакаленне гледачоў будзе трактаваць па-новаму. І калі-небудзь гэтыя творы будуць існаваць абсалютна асобна ад іх творцы. Але мы за кожным ягоным палатном альбо графічным аркушам бачым таго, чыімі рукамі і сэрцам гэта зроблена. Потым творы стануць водгуллем часу, што адышоў, але сёння для нас — гэта люстэрка. Праўда, люстэрка ў дадзеным выпадку пазбаўлена ўласцівай гэтаму прадмету "беспристрастности" (што бачу, тое і пяю). Люстэрка з характарам. Іранічнае люстэрка.

Неяк у аднаго аўтарытэтнага расійскага літаратара я вычытаў, што з дзесятак паэтаў лермантаўскай пары валодалі паэтычнай тэхнікай лепей за Лермантава і што геніяльная Паўлава ў сэнсе тэхнікі прайгравала балерынам, якіх сёння ніхто не памятае. Гэты шэраг можна доўжыць. Шагал, які, на думку некаторых, " не ўмеў маляваць"; "дылетанты" кшталту Драздовіча і Чурлёніса; многія прадстаўнікі "парыжскай школы" пачатку стагоддзя...

Што датычыць школы, дык яна ў Міколы была. Прычым выдатная школа — кафедра графікі Беларускай акадэміі мастацтваў (па тым часе — тэатральна-мастацкі інстытут). Але Селешчука мы болей ведаем як жывапісца, а да жывапісу ён дайшоў ужо сваёю хадою. З гэтай прычыны ён быў пазбаўлены некаторых стэрэатыпаў, ад якіх жывапісцы — выхаванцы БелАМ — не могуць іншы раз пазбавіцца да скону. Разам з тым адсутнасць спецыяльных ведаў па тэхналогіі жывапісу адчуваецца шмат у якіх творах Міколы. Ад прафесійнікаў я чуў меркаванне, што ў хуткім часе рэстаўратары будуць мець клопат з жывапісам Селешчука. Ён не належаў ні да "каларыстаў", ні да "цветовиков" (так у мастакоўскім асяроддзі падзяляюць прыхільнікаў асноўных плыняў у жывапісе). Пра пэўны каларыт можна гаварыць толькі на прыкладзе некаторых ранніх палотнаў Селешчука. Потым ягоны жывапіс становіцца ўсё болей дэкаратыўным, а ў апошнія гады ў карцінах пачынае дамінаваць графічнасць. Эфекту, якога мастак дасягаў пэндзлем і алейнымі фарбамі, можна дасягнуць і ў каляровай літаграфіі. І тым не менш, Мікола Селяшчук — візітоўка беларускага жывапісу 70—90-х гадоў. Значыць, не ў фарбах справа...

Ці былі надта арыгінальнымі (калі зыходзіць з еўрапейскага, а не савецкага кантэксту) ягоныя вобразы? Самабытнасць, безумоўна, ёсць. Але ж нельга і не заўважыць уплыў, які зрабілі на Селешчука вялікія сюррэалісты — Далі, Эрнст, Магрыт. І ўсё ж у палотнах Селешчука мы бачым менавіта яго, а не каго-небудзь іншага...

У творах Селешчука найперш вабіць асоба творцы. Мікола быў вынаходнікам не столькі новага стылю ў жывапісе, колькі ўвасабленнем новага (на свой час) стылю ў жыцці. Сёння так спрабуюць жыць (і ў сяго-таго нават атрымліваецца) многія. Але каб жыць "па-заходняму" ў тагачасным агрэсіўна-саўковым асяроддзі, трэба было мець моцны характар і сапраўдны талент.

У адрозненне ад большасці сваіх калег па мастацкім цэху, Мікола Селяшчук спадзяваўся не на дзяржаўны заказ і закупку з выставы. Ён яшчэ ў тыя часы паставіў на прыватнага калекцыянера. Не чакаючы, пакуль Беларусь "прарубіць акно ў Еўропу", ён здзейсніў асабісты прарыў на еўрапейскі мастацкі рынак. Таму сёння і склалася парадаксальная сітуацыя: творчасць менш значных беларускіх мастакоў прадстаўлена ў Нацыянальным мастацкім музеі больш шырока, чым творчасць Селешчука. Значная частка ягонай спадчыны — за мяжою.



*Мікола Селяшчук у хвіліны адпачынку.*

Мікола Селяшчук увасабляў сабою поспех. Да яго цягнуліся людзі. Поспех надаваў упэўненасці, але, канешне ж, быў у гэтай з'яве і адваротны бок. Мікола пісаў хутка і лёгка, але пазнейшыя творы, на маю думку, у чымсьці саступаюць раннім. У ранніх — больш душы, хоць, магчыма, і меней майстэрства.

Мікола Селяшчук не паспеў. Не паспеў стаць іншым. Ён ужо быў псіхалагічна гатовы пераасэнсаваць многае са зробленага ім. Дарэчы, да гэтага кроку яго падштурхоўвалі і вонкавыя абставіны. Рэч у тым, што "пад Селешчука" ўжо працавала цэлая кагорта даволі таленавітых мастакоў. Такім чынам, каб захаваць свой імідж лідэра, ён быў проста вымушаны шукаць іншую стылістыку. Але не паспеў...

Ці была ягоная смерць выпадковай? Страшна думаць, што ў гэтым была нейкая наканаванасць, што такім чынам Бог паставіў кропку ў яшчэ адной мастацкай эпосе. Усё, што зрабіў Мікола Селяшчук, нават найбольш драматычныя ягоныя творы (і сярод іх — "Бацька памёр", 1982—1984 гг.), не стасуецца са словам "смерць". Так, ён трагічна загінуў, але ён не быў мастаком трагічнага лёсу. Можа, сэнс ягонага жыцця і творчасці якраз у тым, што ў краіне, дзе пакутніцтва ўзведзена ў нейкі абсалют, дзе мастакі дзесяцігоддзямі эксплуатавалі тэму вайны і цяпер кан'юнктурна ўзяліся за Чарнобыль і нават ухітраюцца рабіць "чарнуху" на біблейскія сюжэты, ён заставаўся мастаком радасці, творцам прыгажосці. Той прыгажосці, якая выратуе свет. Можа, выратуе...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**




## На скрыжаваннях творчых дарог



**Споўнілася 60 гадоў члену Беларускага Саюза мастакоў, мастацтвазнаўцу і журналісту Шныпаркову Аляксею Максімавічу.**

**З маленства яго цягнула да прыгожага. Жыў у вёсцы Данілавічы Веткаўскага раёна ў дзеда (бацькі яго загінулі ў вайне). Гэтая вёска славілася і цяпер славіцца на ўсё наваколле царквой з адметным іканастасам. Яго прыгажосць заўсёды захапляла юнака, які любіў маляваць. З-за цяжкага матэрыяльнага становішча юнаму мастаку тады не ўдалося ажыццявіць сваю мару — паступіць у спецыяльную навучальную ўстанову: як жа даехаць да Масквы, Ленінграда ці Мінска? Пасля заканчэння сярэдняй школы ён пехатой дабіраецца да Гомеля, становіцца студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта педінстытута (цяпер універсітэта імя Францыска Скарыны). Затым была праца настаўнікам у Лагойскім раёне, вяртанне ў горад студэнцкага юнацтва і вучоба ў Кіеўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце на мастацтвазнаўчым факультэце.**

**Актыўная творчая дзейнасць Аляксея Максімавіча пачалася з 1967 года, калі ён пачаў працаваць у абласной газеце "Гомельская праўда". На працягу трох дзесяткаў гадоў ён пастаянна друкуецца і ў "ЛіМе". У выдавецтве "Беларусь" выйшлі манаграфіі А. Шныпаркова пра заслужаных дзеячаў мастацтваў БССР П. Крахалёва і І. Стасевіча.**

**І цяпер Аляксей Максімавіч шмат піша пра мастакоў-землякоў, асвятляе выставы, прымае ўдзел у складанні каталогаў. Пажадаем яму добрага здароўя, новых творчых удач.**

**Уладзімір ГЛАДЫШАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны**

## З украінскіх пабрацімаў

**Сваё 80-годдзе сустракае вядомы ўкраінскі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі Алекса Юшчанка. Аляксей Якаўлевіч даўно сябруе з беларусамі, неаднаразова наведваў нашу рэспубліку. Нямала робіць для таго, каб пра "сінявокую сястру Украіны" больш і лепш ведалі яго землякі. Юшчанка напісаў шэраг вершаў, прысвечаных Беларусі, а таксама асобным беларускім пісьменнікам — "Голас Якуба Коласа", "Над сонечнаю кнігаю Купалы", М. Танку — "Прайсці праз вернасць", В. Быкаву — "Абеліск у стэпе". Дзякуючы Юшчанку ў яго нарысах, успамінах ажылі воблікі Я. Купалы, Я. Коласа, П. Глебкі, Р. Шырмы, П. Броўкі. Выступае ён і з літаратурна-крытычнымі артыкуламі. Як ва ўкраінскай перыёдыцы, так і ў беларускай пісаў пра творчасць Я. Коласа, І. Мележа, М. Танка, А. Зарыцкага, В. Быкава,перакладаў творы беларускіх пісьменнікаў на ўкраінскую мову. У сваю чаргу яго беларускія сябры ахвотна ўзнаўлялі па-беларуску лепшыя вершы Аляксея Якаўлевіча. Выходзілі на беларускай мове і яго кнігі.**

**Віншуем Аляксея Якаўлевіча са слаўным юбілеем і зычым яму моцнага здароўя!**

# Марнатраўства

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

насць з незалежнасцю, ні асвета з цывілізаванасцю, ні дэмакратыя з гуманізмам самі па сабе не гарантуюць беларусам выжывання гэтак надзейна, як менталітэт, сфармаваны самым геніяльным, лічу, славянскім фальклорам і хрысціянскай верай.

Пераходзячы з лагера нацыянальна-скептычнага ў лагер нацыянальна-натхнёны, я ў сваю чаргу абвінавачваю вядучыя нацыянальна-адраджэнскія сілы ў... недаацэнцы нацыі. Я маю да іх прэтэнзіі не таму, што праўда не на іх баку, а таму, што яна няпоўная. Інтэлектуальнай эліце нацыі катастрафічна не стае нацыяналізму! У параўнанні з падсвядомымі амбіцыямі народа свядомыя дамаганні інтэлігенцыі ўяўляюцца нейкімі маламернымі. Ствараецца ўражанне, што носьбіты нацыянальнай ідэі нават у самых радыкальна-экстрэмальных сваіх падыходах на нешта не адважваюцца. У нацыянальна-культурным асяроддзі нават склалася свая этыка паводзін, наскрозь табуіраваная. Неэтычным лічыцца, прынамсі, акцэнтаваць увагу на канфесійнай прыналежнасці нацыянальна-значных асоб. Мала хто рызыкне прылюдна і ўголас пусціцца ў развaжанні наконт таго, што Купала, маўляў, быў католік, а Колас — праваслаўны. (Між тым, глыбіні іх творчасці адлюстроўваюць гэтую акалічнасць). Нацыянальна-адраджэнская праблематыка ніколі не разглядаецца ў канфесійна-духоўным кантэксце. Лічыцца, што народ няблага спасцігне самога сябе і на секулярatыўным, г.зн. духоўна-абывацельскім узроўні. І касцельныя каталікі, і артадаксальныя праваслаўныя, баючыся зачапіць чорта, лічаць за лепшае не ўспамінаць аб спецыфічных рысах свайго веравызнання, а калі, выпадкова, гаворка зойдзе аб канфесійным падмурку беларускай духоўнасці — ніякавата замоўкаюць. Нядрэнна пачуваюцца нацыянал-уніяты, але толькі таму, што ўяўляюць, найперш, кампраміс паміж канфесіямі (і то няўдалы), а ўжо потым — канфесію.

А, сапраўды, ці можна гаварыць аб дамінуючым, этнафармуючым (ці, нават, этнаўтваральным) веравызнанні таго або іншага этнасу? У тым сэнсе, што рускія, маўляў, праваслаўныя, а туркі — мусульмане. Адносна турак і рускіх, здаецца, можна. Але беларусы...

Калі ёсць цяжкасці з прынцыповым вырашэннем пытання, можна яго вырашыць непрынцыпова. Ізноў уніяцкая ідэя, як стагоддзі таму, прапаноўвае свае паслугі. Робіцца смешна і скрушна, калі там-сям, дзе-ндзе, калі-нікалі (акцэнты!) чуюцца намёкі на тое, што не праваслаўная (расійская), не каталіцкая (польская) а уніяцкая царква і ёсць адзіна сапраўдная беларуская. Смешна, таму што апраўданне уніяцкай ідэі пераконвае сёння толькі тэалагічна неабцяжаранага неафіта-рамантыка, у недалёкім мінулым — кандыдата якіх-небудзь матэрыялістычных навук. Скрушна, таму што нешматлікія уніяты ўяўляюцца шматлікім праваслаўным вернікам рафінаванымі служкамі нацыянальнай ідэі, ад чаго нацыянальная ідэя ў вачах апошніх дыскрэдытуецца апрыёрна. Таму, што, узгадаваны ва ўлонні адзінай святой саборнай і апостальскай царквы, праваслаўны беларус дрэнна ўспрымае гісторыю біблейскага Ісава, прадаўшага першародства за сачавічную поліўку. Таму, што сама спроба "падправіць" веру дзеля людскіх патрэб разглядаецца як замах на яе сакральную прыроду. Таму, што час узнікнення Уніі (залаты век!) ён схільны лічыць часам нацыянальнага сораму. Таму, што ягонае ўсяленскае пачуванне кепска стасуецца з духоўнымі ідэаламі тых, хто трымае карані сваёй духоўнасці ў неглыбокім пясочку адносна нядаўняга палітыка-царкоўнага і дзяржаўна-гістарычнага ўтварэння. Нарэшце, таму, што памянёныя амбіцыі не дазваляюць праваслаўным беларусам хоць у чым саступаць братам-расійцам. Духоўнасць жа расійская карэніцца аж у Візантыі.

Адкінуўшы дамаганні уніяцкай царквы як несур'ёзныя, можна было б звярнуцца да самых старажытных і безумоўных вытокаў і ў далейшым нацыянальным пошуку зыходзіць з таго, што этнічна-вызначальным веравызнаннем беларускага этнасу з'яўляецца праваслаўе. Беларусы-праваслаўныя не будуць супраць гэтай прапановы, але з ёю не захочуць згадзіцца беларусы-каталікі. Ім сапраўды, было б крыўдна, у тым ліку і за дзяржаву, дзеля якой яны шмат папрацавалі на працягу гісторыі, працуюць і цяпер. Калі на ролю "вядучай канфесіі" вылучыць каталіцтва, дык з гэтым ужо не згодзяцца УСЕ беларусы, якія ўпарта (хаця даказана, што гэта не так) называюць католікаў палякамі. Прычым як праваслаўныя, так і самі католікі. Будучым даследчыкам гэтай праблемы раю звярнуць увагу на вось які цікавы момант: беларусы-католікі (несвядомыя) успрымаюць сваю мянушку як ганаровае званне. Беларусу-праваслаўнаму і ў сне не прысніцца расійцам назвацца, хіба што зусім ужо дурны беларус пападзецца. Паказальна, што на польскай Беласточчыне словазлучэнне "праваслаўны беларус" з'яўляецца таўталагічным, бо там словы "беларус" і "праваслаўны" — сінонімы.

Дык якой жа веры беларусы? Нават калі палічыць гэтае пытанне неправамоцным — пытанне застаецца.

Несвядомы праваслаўны беларус, традыцыйна не надаючы вялікай увагі ні ўласнаму праваслаўю, ні ўласнай нацыянальнай прыналежнасці, усё ж наіўна мяркуе, што яго (беларуская, значыць) нацыя — праваслаўная па азначэнні, без аніякіх агаворак. Несвядомы беларус-католік наконт усебеларускасці каталіцтва не памыляецца, але ўпотай лічыць такое становішча спраў заганнай уласцівасцю беларускага народа. Відаць, у гэтым падсвядома ўпэўненыя і нацыянальна-свядомыя беларусы-католікі. Таму іх асветніцкая дзейнасць як бы сама сабой імкнецца да ліквідацыі гэтага недахопу. Адсюль свецка-духоўны празелітызм і культурна-асветніцкая дзейнасць на каталіцкі капыл. Увазе беларусаў прапанавана нацыянальная мадэль у каталіка-уніяцкім выкананні. Сцягі беларускага нацыяналізму злёгку пафарбаваны ў колер гэтых канфесій, ды яшчэ, бадай, у адзін колер з д'ябальскай палітры — неапаганскі. (Многія зараз, асабліва не затрымліваючыся на гістарычным моманце хрышчэння, ахвотна пільнуюцца паганскіх старонак нашай гісторыі, летуценна сягаючы ажно ў ведычны перыяд. Неапаганства робіцца ці не самай каларытнай эмблемай беларускасці. Гэта арыгінальна, самабытна, а галоўнае — у піку расійцам. Але ж гэта і жудасная дэградацыя светасузірання, жахлівая здача набытага, духоўнае злачынства. Будзем помніць, што сатаністы, апаганіўшы кафедральны сабор у Мінску, "апаганілі" яго і ў літаральным сэнсе).

Тэмы праваслаўя як падмурку ці, хаця б, адной з паляў этнічнай духоўнасці, не чуваць у поліфанічным гучанні адраджэнскай сімфоніі. Гэтая музыка не кранула патаемных струн "рэферэндумнай" большасці беларускіх душ, якая, часам не без падстаў, лічыць адраджэнскую справу справай больш заходнебеларускай, уніяцка-касцельнай або, нават, паганска-антыцаркоўнай.

Канфесійная неаднароднасць непазбежна адбіваецца і на структуры ўласна-этнічнага ўзроўню. Прынамсі, Леў Гумілёў лічыў раскол праваслаўнай царквы у XVII стагоддзі таксама і этнічным расколам, а частку велікаросаў-стараабрадцаў разглядаў як субэтнічнае ўтварэнне.

Палкаму сэрцу нацыянал-максімаліста балюча бачыць канфесійную (ды і ўсялякую іншую) неаднадушнасць нацыі. Бо пад націскам абставін сама нацыянальная ідэя пагражае разарвацца на шматкі! Таму нацыянал-максімаліст імкнецца абставіны перадолець. У ідэале ён хоча бачыць свой народ монаканфесійным: праваслаўным, калі сам нацыяналіст праваслаўны, каталіцкім, калі сам католік, уніяцкім, калі — уніят, свецка-гуманітарным, калі сам не даспеў да рэлігійнага светабачання, і гэтак далей, па сыходнай, аж да неапаганства. На жаль ці на шчасце, на практыцы такое немагчыма. Аднак і неманалітны, з ускладнёнай будовай, этнас можа (і, па меры магчымасці, павінен) заставацца адзіным цэлым. Гэта найбольшае з таго, аб чым можам марыць.

III

Такім чынам, беларускі этнас можна уявіць як сістэму, структурнымі элементамі якой з'яўляюцца канфесіі. А каб сістэма была ўстойлівай, гэтыя структурныя часткі павінны ўзаемадзейнічаць па законах сістэмы. Інакш кажучы, поспех нацыянальнага руху будзе залежаць ад суразмернасці канфесійных амбіцый кожнай субэтнічнай групы. Кожная канфесія "працуе" на ментальны воблік нацыі, але іншым разам яна здольная гэты воблік і разбураць. Каталіцызм, напрыклад, — гэта тыя дрожджы, на якіх падыходзіла наша дзейсная гісторыя некалькіх апошніх стагоддзяў. Беларускі Рэнесанс, беларускае Барока, беларускае Асветніцтва немагчымыя без духоўна-каталіцкага атачэння, без рэфармацкіх уплываў. Сёння беларускі каталіцкі свет ментальна бліжэй, чым праваслаўны, да заходнееўрапейскай цывілізацыі, і ў гэтым найкаштоўнейшая яго асаблівасць. Аднак калі б каталіцызм захацеў выконваць ментальныя "абавязкі" праваслаўя (а ён нене, ды й захоча!) — тады б гэта нарабіла шкоды не толькі праваслаўю.Сёння празеліцкія намаганні каталіцкай царквы (свядомыя) і каталіцкай інтэлігенцыі (падсвядомыя) аб'ектыўна скіраваны да згубы беларускай нацыі, калі, канешне, пад беларускай нацыяй падразумяваць тое, чым яна ёсць, а не тое, што паўстае ў марах падарожніка-адраджэнца-беларуса-рамантыка, які трымаецца рыма-каталіцкага азімуту. Каталіцкае місіянерства на Беларусі толькі паглыбляе той раскол, ад якога народу і без таго не апрытомнець давеку.

Час Адраджэння актывізаваў найбольш рухомыя, а, значыць, і найбольш легкавесныя сілы нацыі. Масіўныя, глыбінна-сутнасныя пласты беларуска-праваслаўнага радовішча фактычна не скрануліся з месца. Агрэсіўна-актыўныя элементы этнічнай сістэмы, узяўшыся за выкананне неўласцівых функцый, прывялі спачатку да штучнага ажыўлення, а потым да стрэсу сістэмы. Сённяшняе нацыянальнае жыццё наскрозь пранізалі дзіўныя стасункі, штучныя дачыненні і абсурдна-лагічныя адносіны. У рэчышчы нацыянальным стыхійна-праваслаўная большасць саступае галоўную ролю больш-менш арганізаванай каталіцка-уніяцкай меншасці; беларускія каталікі з уніятамі, а таксама рэлігійна-інфантыльныя суб'екты нацыі ад імя Бога павучаюць наведвальнікаў праваслаўных прыходаў, на якой мове тым лепш "размаўляць" з Богам, каб дасягнуць найлепшага эфекту; нацыянал-агітатары наракаюць на слабыя прапагандысцкія здольнасці праваслаўных святароў у галіне нацыянальнай палітасветы; рускую праваслаўную царкву вінавацяць за тое, што яна руская (мабыць, нявінна думаючы, што гэта тое ж самае, што "расійская"); найбольш сумленныя нацыяналістычныя друкаваныя выданні непрыхавана антыправаслаўныя (шмат што праясніцца, калі ў кожнага, хто бярэцца "раіць" беларускаму праваслаўю, спытацца, ці хрышчоны ён, або, дзе і калі прычашчаўся); атэісты вучаць духоўнасці, рэнегаты — адданасці, адступнікі — веры; антыурбаністычную па духу і вясковую па вобліку нацыянальную культуру "ратуюць" фальклорна-занядбаныя гараджане, забыўшыся на папярэджанне А. Швейцэра аб небяспецы для культуры, якая найперш зыходзіць з вялікіх гарадоў і ад іх жыхароў; апазіцыя марыць пра ўмацаванне дзяржаўнасці, улады — аб тым, каб як пазбыцца яе, і г.д., усё як у каралеўстве крывых люстэркаў. Не дзіва, што і ў знешненацыянальным полі шматлікія нашы каштоўнасці набываюць крывое адлюстраванне. Найперш у стасунках з велікаросамі.

У беларускім нацыянальным розуме, пры першай жа спробе суаднясення сябе з расійцамі, на ўзроўні безумоўнага рэфлексу ўспыхвае ідэя — "Мы не такія!" Яна можа існаваць і ў выглядзе — "расійскае — значыць не наша".

Наконт магчымасці беларускамоўнага Богаслужэння ў праваслаўных цэрквах дазволена памыляцца неафітам. Аднак іх памылка грунтуецца на распаўсюджанай другой, знешне бяскрыўднай, памылцы. Многія, чамусьці, думаюць, што Богаслужэнне ў Рускай праваслаўнай царкве вядзецца па-руску.

Пісьменныя ж нацыяналісты на гэты раз не надта жвава адукоўваюць непісьменных. Так, збольшага... У выніку — царкоўнаславянская мова — скарб і спадчына ўсходніх славян — аўтаматычна і падсвядома аддаецца ў выключнае валоданне расійцам.

Сёння самых слынных нацыяналістаў пазнаеш па граматыцы. Не бяруся аспрэчваць вартасці і перавагі тарашкевіцы. Ну, вядома, чытаючы на ёй, адчуваеш асалоду ад таго, як плаўна і дакладна язык твой упісваецца ва ўсе фанетычныя ўлукаткі. Але ж этымалогія... Кажуць, дзеля яе англічане стагоддзямі пакутуюць, вымаўляючы "Манчэсцер" у той час, як там напісана "Ліверпуль", ды яшчэ палову чалавецтва да гэтага прывучылі. Затое напісанае слова сваё яны пазнаюць у твар! Канешне, лінгвістыка — справа тонкая. Але ў мяне ёсць апаска, што не дзеля маіх фанетычна-артыкуляцыйных выгод гэтая тарашкевіца. А каб рускамоўная тэледыктарка не казала "сён-ня", а казала "сёньня", і тым дагаджала беларускаму вуху. Дык мо лепей навучыць дыктарку правілам беларускай арфаэпіі, і канцы ў ваду?! Тым болей, што, як казала яна, рускамоўная, "дарагія сябры", так і будзе казаць. Пры любой граматыцы.

*(Заканчэнне на стар. 15)*

# Выжыць і жыць!

## БЕЛАРУСКАЯ НІША Ў СЛАВЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Леанід ЛЫЧ

### 3. ЖЫЛА ПРЫГНЕЧАНАЙ У СЯМ'І СЛАВЯНСКАЙ

Шмат непаразуменняў — і ўсё з-за гэтай славянскай аб'ядноўчай ідэі — было ў беларуска-польскіх зносінах. Нарэшце пасля падпісання ў 1569 г. Люблінскай уніі палякі і беларусы аб'ядналіся ў адзіную федэратыўную дзяржаву. І што ж атрымалася? Пшык! Аднаму славянскаму (польскаму народу раптам косткай у горле стала родная мова другога славянскага (беларускага) народа, і дзяржаўныя органы выводзяць яе са службовага справаводства, ведаючы, што гэта немінуча пакладзе пачатак яе паступоваму выміранню. Так яно і адбывалася на самай справе. У "братніх" абдымках палякаў-славян беларусы-славяне гублялі сваю этнакультурную адметнасць, пераўтвараліся ў бесхрыбетную масу, якой сілкаваўся пануючы ў Рэчы Паспалітай польскі народ. Славянская еднасць набыла самыя ўрадлівыя формы, стала фікцыяй. Усяго гэтага не назіралася б, калі б і беларусы, і палякі жылі ва ўласных дзяржавах, бо толькі поўная палітычная незалежнасць дае кожнаму народу спраўдзіць свой нацыянальны ідэал, не стаць аб'ектам асіміляцыі з боку больш моцнага этнасу.

Незадаволенасць беларусаў сваім становішчам у складзе Рэчы Паспалітай не раз выкарыстоўвалася Маскоўскай дзяржавай дзеля далучэння іх да сябе. Зразумела, рабілася гэта не праз рэферэндум ці якія-небудзь іншыя формы выяўлення волі людзей, а гвалтам, з выкарыстаннем ваеннай сілы. Ізноў льецца славянская кроў, у якой ільвіная доля падае на беларускую. Суседнія браты-славяне не раз нас так дапякалі, што мы не бачылі іншага выйсця, як аддацца пад пратэктарат якой-небудзь зусім неславянскай краіны. У якасці яскравага прыкладу можна спаслацца на спробу гетмана Януша Радзівіла перадаць у 1655 г.

Вялікае княства Літоўскае пасля амаль стогадовага ўваходжання яго ў склад федэратыўнай славянскай дзяржавы Рэчы Паспалітай пад апеку шведскага караля, каб толькі з яго дапамогай вызваліцца з-пад польскай улады.

Гэтую калатню суседніх славянскіх народаў, якая часта перарастала ў сапраўдную вайну, імкненне таго ці іншага з іх асіміляваць свайго брата, вельмі строга асуджаў буйны прадстаўнік навуковай і грамадска-палітычнай думкі славян, харвацкі пісьменнік, каталіцкі святар, доктар тэалогіі Юры Крыжаніч (каля 1618—1683). Хто-хто, а ён вельмі добра ведаў, якія агрэсіўныя планы выношваліся і ў Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржаве, бо доўгі час жыў у гэтых краінах і пільна ўзіраўся да ўсяго таго, што там адбывалася. Асабліва не падабалася яму тая лёгкасць, з якой заможныя станы грамадства дзеля пэўнай асабістай выгоды адыходзілі ад сваіх духоўных традыцый. На падставе ўсяго ўбачанага Ю. Крыжаніч прыйшоў да вельмі правільнай высновы, што няма нічога больш пагібельнага для народа і дзяржавы, як пакідаць у занядбанні свае "і перайманць чужыя норавы, законы і мову і старацца пераатварыць сябе ў іншы народ. Усякі народ, які адступае ад сваіх нораваў і законаў, тым самым страчвае сваё працвітанне". Думаецца, і сёння разумны чалавек не асмеліцца аспрэчваць святую праўду і шчосьці ўчыняць насуперак ёй.

Сяброўства народаў ніколькі не вынікае толькі з адной іх блізкасці па паходжанні, культуры і мове. Яно (сяброўства) можа падтрымлівацца, забяспечваца выключна толькі сапраўднай роўнасцю, шчырай павагай адзін да аднаго. Калі такога не назіраецца на практыцы, скандалы, ваенныя канфлікты магчымыя нават сярод самых блізкіх народаў, якія разумеюць сябе і без перакладчыкаў. Шмат негатыўнага адкладася ў гісторыі ўзаемаадносінаў паміж рускім і польскім народамі, віну за што нясуць іх дзяржаўныя палітыкі. Неўзабаве пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) канцлер А. Безбародка пры ўрадзе Кацярыны II пісаў ёй наступнае: "...палякі з усіх суседзяў самыя няверныя і больш за ўсіх адчуваюць да нас моцную і непрымірымую нянавісць". А палякі ж для рускіх і руская для палякаў — гэта браты-славяне. Аднак у час дзяльбы хворай Рэчы Паспалітай самая вядучая славянская краіна — Расійская імперыя была бліжэй да неславянскіх дзяржаў — Германіі і Аўстрыі, чым да блізкароднасных славянскіх народаў — перш за ўсё польскага, а затым і беларускага. Невыпадкова і апошні вызначаўся непрыязнымі адносінамі да рускіх войскаў, якія наваднілі яго край пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. Вось як апісвае падзеі тых часоў галоўнакамандуючы царскімі войскамі М. Рапнін у дакладной запісцы (Тэкст яе ўзяты з публікацыі гісторыка Яўгена Анішчанкі (гл. "Голас Радзімы", 5 лістапада 1996 г.) ваеннаму міністру П. Салтыкову: шляхта і мужыкі "пры руху войскаў усе пакорныя і ласкавыя, а калі мінуць іх тыя ж самыя людзі зноў за бунт бяруцца, збіраюцца ў лясах і напады робяць, дзе слабыя каманды знаходзяць". Таму М. Рапнін прапануе быць больш жорсткім з насельніцтвам далучанай ад Рэчы Паспалітай тэрыторыі: трэба "не занянць, а так сказаць, задушыць войскамі частку прыдбанага..." А на гэтай жа частцы прыдбанага жыў ніхто іншы, як славянскі народ — беларусы, роднасны асноўнаму народу Расіі — рускаму. Падкрэслена гавару пра ўсё гэта толькі з адной адзінай мэтай — не даць у будучым стварыцца такой сітуацыі, каб паміж гэтымі славянскімі, суседнімі народамі маглі ўзнікаць непаразуменні, напружаныя дачыненні. Ухіліцца ад іх стане магчымым толькі тады, калі ўсталюецца поўная справядлівасць, ніхто не будзе імкнуцца жыць за кошт другога.

Усё гэта нават у самай мізэрнай ступені адсутнічала ў дачыненні да беларусаў, калі ў выніку трох падзелаў (1772, 1793 і 1795) Рэчы Паспалітай іх уключылі ў склад самай вялікай славянскай дзяржавы — Расіі. Здавалася б, яе палітыкі цяпер павінны былі адчуваць сябе на сёмым небе. Як-ніяк імперыя па тэрыторыі перасягнула колішнюю Кіеўскую Русь, не мае сабе роўных не толькі ў Еўропе, але і на ўсёй планеце Зямля. На добры лад трэба было б расейскім палітыкам і вучоным дасканала вывучыць умовы матэрыяльнага і духоўнага жыцця гэтак моцна спакутаванага славянскага народа — беларусаў і зрабіць усё, што толькі было ў сілах, каб дапамагчы ім вярнуць сваю гістарычную памяць, беспярашкодна развіваць родную культуру, нацыянальную адукацыю, зняць усе сацыяльныя абмежаванні ў выкарыстанні матчынай мовы. Зусім не з'явілася б парушэннем маралі добрасуседства даць братняму народу і статус хаця б самай мізэрнай дзяржаўна-палітычнай аўтаноміі. Але дзе там беларусам было размічваць на такую ласку! Паставіліся як да падняволенага, чужога народа: нацыянальную уніяцкую царкву скасавалі, выдавець кнігі, вучыць дзяцей на роднай мове забаранялі, айчынны гісторыі ім не выкладалі.

Беларусы, што не страцілі гістарычную памяць, захоўвалі вернасць уласным этнакультурным традыцыям, па-здароваму маглі пазайздросціць палякам, бо стаўленне ўлад царскай Расіі да іх было куды больш паважлівым. Калі ў адпаведнасці з рашэннямі Венскага кангрэса 1812—1814 гг. да яе адышлі і карэнныя польскія тэрыторыі, яны атрымалі статус Каралеўства (Царства) Польскага, карысталіся пэўнай палітычнай аўтаноміяй. Прынятая ў 1815 г. за подпісам імператара Аляксандра I Канстытуцыя Каралеўства Польскага дазваляла апошняму мець свой выбарны сейм, урад на чале з намеснікам, армію. Адміністрацыйнае і судовае справаводства павінна было абслугоўвацца польскай мовай. Беларусам такога не снілася нават і ў самыя доўгія зімовыя ночы! Зразумела, такое прывілеяванае становішча палякаў тлумачылася не якой-небудзь асаблівай павагай да іх з боку Расіі, а яе жаданнем паказаць Еўропе, што ў гэтай частцы імперыі не праводзіцца палітыка нацыянальнага прыгнёту. Шкада, што ні ў кога ў галаве не ўзнікла думка распаўсюдзіць такую палітыку і на беларускія землі, тады куды меншы ўрон прычыніла б яе насельніцтву русіфікацыя. З цягам часу яна ўсё ж дайшла і да Каралеўства Польскага, але ўраджай тут у яе намнога быў горшы, чым на Беларусі: палякі, асабліва інтэлігенцыя, мелі зусім іншую, больш стойкую ментальнасць. А галоўнае, тут магутным абаронцам усяго нацыянальна-культурнага жыцця была каталіцкая царква. Што ж датычыць праваслаўнай царквы ў нашым краі, як самай масавай тут канфесіі, дык яна ніколькі не ўступала мясцовай адміністрацыі, сістэме адукацыі па частцы русіфікацыі беларускага народа.

Увесь час знаходжання ў складзе Расійскай імперыі нацыянальна-культурныя запатрабаванні беларусаў задавальняліся намнога горш, чым многіх неславянскіх народаў царскай Расіі. Дайшло да нечуванага ў гісторыі чалавецтва парадокса: на тэрыторыі Беларусі яўрэі могуць на сваёй мове выдаваць кніжкі, ствараць школы, тэатры, а яе карэннаму народу — беларусам усё гэта забаронена ў заканадаўчым парадку. Адзіная "перавага" беларускага народа ў параўнанні з усімі неславянскімі народамі заключалася ў тым, што ён афіцыйна меў права называць сябе рускім. Такая назва за ім паступова пачала замацоўвацца ў дакументах і матэрыялах свецкіх і духоўных уладаў Расіі, у навуковай літаратуры. На ўсё гэта трэба глядзець як на факт афіцыйнага непрызнання беларусаў за самастойны, самабытны этнас. Вось вам і славянская гасціннасць! Хвала прашчурам нашым, што яны не пагадзіліся з імперскай ласкай лічыць сябе рускімі і нібыта ў адплату асімілятарам называліся беларусамі, "тутэйшымі". Аж да пачатку XX стагоддзя ў значнай частцы нашага народа захоўвалася гістарычная саманазва — "ліцвіны" ("літвіны"). Сёння гэты тэрмін жыве ў тапаніміі, прозвішчах многіх беларусаў.

### 4. СПРОБЫ ПАРАЗУМЕЦЦА

Шкада, што даволі часта зусім далёкімі ад сапраўднага славянскага братэрства былі погляды ў некаторай часткі рускай інтэлігенцыі. Сказанае можна аднесці і да вельмі папулярнага ў Расіі пісьменніка і гісторыка Мікалая Карамзіна (1766—1826). Калі неўзабаве пасля заканчэння Айчыннай вайны 1812 г. прагрэсіўная Еўропа ўсё з большай настойлівасцю патрабавала аднаўлення Польшчы (мелася на ўвазе, што ў склад яе павінны ўвайсці і Беларусь, Літва, Валынь, Падолія), што падтрымлівалі і многія перадавыя людзі Расіі, гэты слынны гісторык у лісце ад 17 кастрычніка 1819 г. на імя Аляксандра I пісаў: "...аднаўленне Польшчы будзе заняпадам Расіі, ці сыны нашы пальюць сваёю крывёю зямлю польскую і зноў возьмуць штурмам Прагу (што знаходзіцца ў Варшаве. — **Л. Л.**). Не, Васпан, ніколі палякі не будуць нам ні шчырымі братамі, ні вернымі саюзнікамі..."

Часта без асаблівай патрэбы сярод пэўных славянскіх грамадскіх і культурных дзеячаў узнікалі рознага роду нерэальныя, фантастычныя планы аб аб'яднанні гэтай групы народаў, у т.л. і на дзяржаўным узроўні. Звычайна ініцыятыва выходзіла ад найбольш буйных паводле сваёй колькасці народаў, у той час як нешматлікія народы маўчалі. Акурат такую пазіцыю любілі займаць беларусы, даючы падставы іншым вырашаць іх лёс, што ніколі не прыносіла нам карысці.

Адкрыта па-за беларускай нацыянальнай ідэяй працавала створаная ў пачатку 1823 г. у Наваград-Валынску афіцэрамі братамі Андрэем і Пятром Барысавымі і палітычным ссыльным Ю. Люблінскім "Таварыства з'яднаных славян". Акрамя вайскоўцаў, у яго ўваходзілі прадстаўнікі розных катэгорый дробных чыноўнікаў і службоўцаў. Яно ставіла перад сабой вельмі складаную, далёкую ад рэальнасці палітычную задачу — стварыць рэспубліканскую федэрацыю славянскіх і некаторых суседніх народаў, што жылі ў Расіі, Польшчы, Багеміі, Маравіі, Малдове, Валахіі, Сербіі, Далмацыі, Венгрыі, Трансільваніі, Краацыі. У якасці вярхоўнай улады федэрацыі прызнаваўся сход прадстаўнікоў усіх рэспублік. Кожны народ павінен быў мець сваю канстытуцыю, у якой абавязковым прызнаваўся ўлік нацыянальных асаблівасцяў. Усе гэтыя дэмакратычныя ўстаноўкі абыходзілі наш край, яго карэнны народ. Меркавалася, што ў выпадку ліквідацыі самадзяржаўя ў Расіі права на аднаўленне нацыянальнай незалежнасці атрымае толькі Польшча, а не Вялікае княства Літоўскае ці Беларусь. Ад гэтых пазіцый не адступілі і тады, калі ў верасні 1825 г. "Таварыства з'яднаных славян" аб'ядналася з "Паўднёвым таварыствам дзекабрыстаў".

Бадай, з усіх славянскіх палітычных арганізацый Беларусь заўважыла мо толькі створанае ў 1846 г. Кірыла-Мяфодзіеўскае таварыства. Не выключана, што такую пазіцыю апошняе заняло таму, што было закладзена ў Кіеве, дзе добра ведалі пра ўсе нацыянальныя беды беларусаў, да таго ж у яго дзейнасці браў удзел украінскі кабзар Тарас Шаўчэнка, які вызначаўся вялікай павагай да братняга яму беларускага народа. У планы таварыства ўваходзіла стварэнне славянскай дэмакратычнай рэспублікі, аб'яднанай на федэратыўных прынцыпах у адзіны Славянскі Саюз са сталіцай у Кіеве. Меркавалася, што ён будзе мець 14 штатаў, адзін з якіх складзе Беларусь. Такую ідэю не магла падзяляць афіцыйная Расія, таму калі яе ўладам удалося выкрыць таварыства, усе кіраўнікі яго былі арыштаваны і панеслі строгую кару, у прыватнасці Тараса Шаўчэнку здалі ў салдаты, а М. Гулака зняволілі ў Шлісельбургскую крэпасць.

Ідэя дзяржаўнага аб'яднання славянскіх народаў мела шмат гарачых прыхільнікаў у грамадска-палітычнай плыні, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай панславізм. Яго ўзнікненню паспрыяла барацьба паўднёвых і заходніх славян за сваю нацыянальную незалежнасць, на што яны вельмі вялікую надзею ўскладвалі на царскую Расію, як самую магутную ў Еўропе дзяржаву. Радзімай панславізму сталі Прага, Загрэб. З усіх славянскіх народаў да яго не далучыліся толькі палякі. Ф. Энгельс заяўляў, што "яны маюць для гэтага дастаткова прычын: іх прыгнятаюць галоўным чынам **свае ж** уласныя гэтак называемыя **славянскія браты**, і нянавісць да рускіх у палякаў мае мацней — і з поўным правам, — чым нянавісць да немцаў".

За панславіцкую ідэю адразу ж і вельмі моцна ўхапілася найбольш рэакцыйная частка расійскіх панславістаў, у іх ліку гісторык, выдавец часопісаў "Московский вестник" і "Москвитянин" Міхаіл Пагодзін, публіцыст і грамадскі дзеяч Іван Аксакаў, М. Данілеўскі, У. Ламанскі, якія сталі настойліва выступаць за аб'яднанне славян пад уладай самадзяржаўнай Расіі, чым выклікалі на сябе вялікую крытыку з боку прадстаўнікоў прагрэсіўнай грамадскасці, у т.л. Фрыдрыха Энгельса, Аляксандра Герцэна, Мікалая Чарнышэўскага, многіх славянафілаў і заходнікаў, а пазней — Уладзіміра Леніна. Ф. Энгельс не верыў у рэальнасць, што непасрэдная мэтай панславізму можа стаць "стварэнне славянскай дзяржавы пад панаваннем Расіі ад Рудных і Карпацкіх гор да Чорнага, Эгейскага і Адрыяцкага мораў", таму што "ў сапраўднасці ўсе гэтыя народы знаходзяцца на самых розных ступенях цывілізацыі... маюць самыя супрацьлеглыя інтарэсы". Паводле яго меркавання "панславянскае адзінства — гэта альбо чыстая фантазія, альбо — **р у с к і** бізун".

З вышэйназваных рускіх прыхільнікаў панславізму асаблівай варожасцю да беларускай ідэі вызначаўся І. Аксакаў. Не маючы неабходных ведаў пра спецыфіку нашага краю (нарадзіўся ва Уфе, скончыў Пецярбургскае вучылішча правазнаўства, амаль увесь час жыў і працаваў у Санкт-Пецярбургу і Маскве), ён тым не менш "падтрымліваў і прапагандаваў канцэпцыю ліберальна-асветніцкай асіміляцыйнай палітыкі царызму адносна беларусаў (стварэнне і ўзмацненне на рускіх пачатках шырокай сістэмы школьніцтва, выдавецтваў, прэсы, рэлігійна-праваслаўных інстытутаў і г.д.), пад уздзеяннем якой, на яго думку, беларускае насельніцтва хутчэй усвядоміла б сваю культурна-этнічную непаўнацэннасць, "сапсаванасць" польскімі ўплывамі і добраахвотна, на "ісцінна" рускай аснове канчаткова злілося б з велікарускім этнасам (пры захаванні некаторых сваіх "мясцовых" рыс)". Здзіўляешся, як гэта толькі атрымлівалася ў І. Аксакава: быць ад нараджэння славянінам і займаць такую негатыўную пазіцыю ў дачыненні да славянскага (беларускага) народа?!

Прыхільнікаў такіх далёка не гуманных поглядаў на славянскае пытанне, як у гісторыка М. Карамзіна, многіх панславістаў, няцяжка было адшукаць і сярод тых рускіх палітыкаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі, чыя дзейнасць прыпадала ўжо на пачатак XX ст. З крайне шавіністычных пазіцый падыходзіў да славянскай супольнасці А. Савенка. У кнізе "По славянским землям" (1911) ён выказаў такое меркаванне: "Наша (расійская. — **Л. Л.**) палітыка павінна быць славянскай толькі пастолькі, паколькі гэтага патрабуюць нашы чыста нацыянальныя інтарэсы.

(...) калі для заключэння пам' Расіяй і Германіяй цеснага саюза давядзецца ахвяраваць інтарэсамі чэхаў і іншага заходняга (але не паўднёвага) славянства, мы, ні на хвіліну не задумваючыся, павінны гэта зрабіць..."

Ахвяроўваць чэшскімі інтарэсамі асабліва не выпала, а вось беларускімі як у час Першай сусветнай вайны, так і пасля яе

(Працяг на стар. 15)

(Працяг. Пачатак у N 30)



## ЧАСАПІС

### "Душа дваілася..."

**Славутая аповесць М. Гарэцкага "Дзве душы" стваралася спачатку ў Смаленску. І лагічна, што менавіта ў гэтым старажытным крывіцкім горадзе ў "Бібліятэцы часопіса "Край Смоленский" выйшла сёлета з друку кніжка М. Ількевіча "Душа дваілася..." Аповесць, народжаная ў Смаленску. М. Ількевіч летась прыняты ў Саюз расійскіх пісьменнікаў, ён аўтар яшчэ трох кніг, многіх публікацый у перыёдыцы. Даследчык робіць грунтоўны, дэталёвы разгляд аповесці М. Гарэцкага, цытуючы шмат якія фрагменты твора. Як адзначае М. Ількевіч, "смаленскі й расійскі чытач мала знаёмы з аповесцю "Дзве душы"..." Відавочна, усведамляючы гэта, аўтар гэтак падрабязна і аналізуе яе змест. Разам з тым, цікавым і карысным выглядае літаратурна-гістарычны экскурс. Наогул прасочваецца сувязь тагачаснай рэвалюцыйнай гісторыі Смаленска з творам беларускага класіка. Дарэчы, Смаленск, паводле вызначэння М. Ількевіча, у аповесці — горад N. У "Заўвагах" робіцца такая выснова: "У аповесці ў рысах горада N угадваецца не толькі Смаленск, — ён у большай ступені, — але й некаторыя гарады Усходняй Беларусі". Падзеі 1918 года адбываюцца тут, як адзначае аўтар брашуры, у Смаленску. Даследчык называе адным з ключоў да расшыфроўкі назвы горада N, разам з біяграфіяй пісьменніка, апавяданне "Усебеларускі з'езд 1917-га года".**

**"Чытае" аповесць менавіта смаленец, што таксама цікава. Можна сказаць, аўтар спалучае добрае веданне тагачаснай сітуацыі ў Смаленску, падабраныя гістарычныя і знойдзеныя ім архіўныя матэрыялы з уласным разуменнем твора М. Гарэцкага. Збылося прароцтва Змітрака Бядулі, і сёння аповесць "Дзве душы" сама стала "цікавым гістарычным матэрыялам".**

**Г. КАЖАМЯКІН**

### Samaritan — Самаранін

**Якія прычыны абумоўліваюць з'яўленне новых газет і часопісаў? Бадай, самыя розныя. І адны з іх больш звыклыя для нашых умоў, другія — менш.**

**Напрыклад, двухмоўны, англійска-рускі, часопіс-квартальнік "Samaritan/Самарянин" звыклым не назавеш.**

**Яго выдае Бюро па справах Усходняй Еўропы Сусветнага Савета Цэркваў, аддзела Міжцаркоўнай дапамогі, што адкрыта з 1994 года ў Беластоку і ўзначальваецца Міраславам Матрэнчыкам.**

**Названая структура наладзіла сувязі з цэрквамі і рэлігійнымі арганізацыямі шэрагу краін былога сацыялістычнага лагера найперш дзеля таго, каб стымуляваць сацыяльную дзейнасць (дыяканію) цэркваў, шукаць паразумення і збліжэння народаў.**

**Канкрэтная дзейнасць Бюро накіроўваецца на тое, каб дапамагаць забеспячэнню жыццёвых патрэб людзей, якія апынуліся ў бядзе з прычыны стыхійных бедстваў, канфліктаў, палітычных катаклізмаў, хвароб. Дапамога непасрэдна прыцягваецца з боку дабрачынных фондаў і арганізацый Галандыі, Германіі, Злучаных штатаў Амерыкі, Паўднёвай Карэі, скандынаўскіх краін, Францыі, Швейцарыі, Японіі. А часопіс выступае як бы ў ролі пасрэдніка дабрачыннасці, інфарматара пра самыя істотныя патрэбы.**

**Выйшла ўжо шэсць нумароў "Самараніна". Першы з іх быў цалкам прысвечаны Беларусі, а дакладней — дзіцячаму аддзяленню гематалогіі І-й бальніцы Мінска і Таварыству міласэрнасці св. Сафіі Слуцкай, якое ўжо чатыры гады вяло апеку гэтага аддзялення; прытулку для састарэлых у Смаргонскім раёне; стану жыцця ў "забруджаным" Івянцы, наступствам чарнобыльскай катастрофы ўвогуле, Брацтву св. Віленскіх Мучанікаў, прыходу іконы Маці Божай "Усіх жалобных Радасць"... Шосты нумар, які толькі што з'явіўся, — таксама беларускі. Змест яго — размова з Мітрапалітам Філарэтам, дыяканічная праца лютэранскай абшчыны, праца святароў у месцах зняволення, будаўніцтва немцамі пасёлка для ахвяр Чарнобыля, пераклад Свяшчэннага Пісання на беларускую мову.**

**Каго цікавіць праблематыка і самое выданне, звяртацца на адрас: Польшча, 15-399, Беласток, Складова 9, тэл. (4885)-423 217.**

**І. А.**

КРАЙ

# Працаваў на ніве Божай і народнай...

З усіх духоўных і прыродных чалавечых вартасцей родная мова з'яўляецца самай галоўнай рысай нацыянальнай самасвядомасці народа. Мова — найвышэйшы Божы дар. І кожны народ, калі хоча звяртацца да Бога, павінен звяртацца ў той мове, якую яму даў Усявышні. Бо малітвы ў чужой мове да Бога не даходзяць, становяцца незразу-мелымі, машынальнымі, неасэнсаванымі. Малітвы павінны быць ад шчырай душы чалавека, а такімі яны могуць быць толькі на роднай мове. Але ў нас складваліся такія абставіны, што на працягу стагоддзяў заходнікі і акупанты нашай шматпакутнай Беларусі паслядоўна вытраўлівалі ў нашым народзе пачуццё ўласнай годнасці, самасвядомасці, адвучвалі ад роднай мовы, гісторыі Беларусі.

Вось і не здзіўляемся, што і сёння шмат хто з беларусаў думае, што наша Беларусь абавязкова "пад некім" павінна быць. Недаравальна і тое, што і галава нашай Бацькаўшчыны, і яго шматлікія паплечнікі схільныя да гэтага, бы не вераць, што Беларусь можа існаваць самастойна. Яна, маўляў, павінна быць у федэрацыі з Расіяй.

Але, думаецца, з часам усё гэта пройдзе, што і да нас прыйдзе прасвятленне, захаваем мы сваю суверэннасць, будзем годна выглядаць сярод нашых суседзяў; захаваем і родную мову, нягледзячы на "існаванне" ў нас двухмоўя, у цяжкі час захаваем сваю годнасць. Людзі не губляюць надзеі, што нашая мова будзе дзяржаўнай, што ў касцёлах і цэрквах будзем маліцца Усявышняму на роднай, матчынай мове. Гэтак, як маліліся і моляцца і сёння свядомыя беларусы. Гэтак, як маліліся нашыя выдатныя дзеячы беларускай культуры, славутыя нашы святары — каталіцкія ксяндзы. Дзякаваць Богу, сёння і асобныя праваслаўныя святары праводзяць богаслужэнні на беларускай мове.

Асабліва неабходна згадаць імёны славутых былых святароў-каталікоў, паэтаў-ксяндзоў Кастуся Стаповіча (Казіміра Сваяка), Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), Янку Семашкевіча (Янку Быліну). Найперш жа неабходна згадаць святара і выдатнага грамадска-палітычнага дзеяча, вучонага, асветніка, публіцыста Адама Вікенцьевіча Станкевіча, які за Беларусь, яе мову, культуру аддаў самае дарагое — жыццё. Летась споўнілася 105 гадоў з дня яго нараджэння.

Нарадзіўся ён 24 снежня 1891 года ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Арляняты на Смаргоншчыне, недалёка ад былой рэзідэнцыі вялікіх князёў літоўскіх, рускіх і жамойцкіх Крэва. А дакладней, у гістарычнай вобласці беларускай зямлі Гальшаны, што ахоплівае цяперашнія Ашмянскі, Астравецкі і Смаргонскі раёны. Край гэты даў нам не аднаго беларускага святара.

Будучы ксёндз Адам Станкевіч дзіцячыя і юначыя гады правёў у Арлянятах. Вучыўся ў Барунскай школе, а затым у гарадскім вучылішчы ў Ашмянах. Яму пашанцавала. У юнага Адама быў добры духоўны настаўнік — айцец Адам Лісоўскі. Пад ягоным уплывам 19-гадовы юнак вырашыў аддаць сябе на службу Богу: у 1910 годзе ён паступіў вучыцца ў Віленскую духоўную семінарыю. Гэта быў перыяд адраджэння. Перыяд "Нашай Нівы", час высокага ўзлёту паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна, час станаўлення таленту Максіма Гарэцкага. Перыяд дзейнасці Івана Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага. Беларускае адраджэнне не магло не паўплываць на каталіцкі касцёл, бо амаль усе тадышнія дзеячы культуры былі выхаваны і ўзгадаваны ў каталіцкіх сем'ях і з'яўляліся нашчадкамі уніятаў. Былі сярод іх і дзеячы культуры, выхаваныя ў праваслаўных сем'ях, як, напрыклад, Іван Ануфрыевіч Карскі, дзядзька заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі Яўхіма Фёдаравіча Карскага. І. Карскі вучыўся ў духоўнай семінарыі, па стане здароўя не скончыў яе, аддаў сябе духоўнай службе, адначасова быў выдатным фальклярыстам і этнографам. За схільнасць да уніяцтва духоўныя кіраўнікі часта пераводзілі яго з адной царквы ў другую. У сваіх матэрыялах І. Карскі зазначае, што сяляне, у тым ліку і ён, далучаны да праваслаўнай царквы ў 1839 годзе, да гэтага яны былі уніятамі. Але да 1855 года амаль усе царкоўныя службы праводзіліся на уніяцкі лад. Калі святар прапанаваў спяваць "Госпадзі, памілуй", то сяляне адказвалі: "Мы не маскалі, каб спяваць "Госпадзі, памілуй". З пяці тысяч душ Лашанскага прыходу, усяго чалавек пяць знялі пацеры і малітвы па-руску.

У тыя часы ў духоўных семінарыях вучыліся беларускія хлопцы, для якіх мова бацькоў была бліжэйшаю, чым афіцыйныя мовы касцёла ці царквы.

У Віленскай духоўнай семінарыі Адам Станкевіч заснаваў беларускі гурток і беларускую бібліятэку. А яшчэ да паступлення ў семінарыю ён стаў актыўным аўтарам "Нашай Нівы". Калі А. Станкевіча, як выдатнага вучня, у 1914 годзе рэкамендавалі для



Антаніна Станкевічыха — маці Адама Станкевіча.



Адам Станкевіч — вучань гарадскога вучылішча ў Ашмянах.

вучобы ў С.-Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі, ён ехаў у сталіцу не толькі з рэкамендацыйнымі пісьмамі семінарскіх настаўнікаў. У сталіцы яго сустракаў Б. Эпімах-Шыпіла, беларускі вучоны і грамадскі дзеяч, які выкладаў у каталіцкай духоўнай акадэміі старажытнагрэцкую мову і лацінскую мову на агульнаадукацыйных курсах Чарняева: вучоны ведаў Адама як свайго карэспандэнта.

Праз 20 гадоў А. Станкевіч прачытаў рэферат на ўрачыстай акадэміі з прычыны смерці свайго настаўніка. У дакладзе ён пералічыў усіх духоўных выхаванцаў прафесара Эпімаха-Шыпілы: Янка Купала, Цішка Гартны, Браніслаў Тарашкевіч, Клаўдзій Дуж-Душэўскі, Тамаш Грыб, Лявон Заяц, Язэп Варонка, айцы Фабіян Абрантовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Андрэй Цікота.

Вось у такім асяроддзі жыў і вучыўся малады ксёндз, слухач каталіцкай духоўнай акадэміі.

Першая сусветная вайна адрэзала яго ад бацькоўскіх гоняў. Петраград напоўніўся бежанцамі з Беларусі. Жыццё беларусаў было абмежаванае. Урад дазволіў дзейнічаць толькі Беларускаму камітэту дапамогі ахвярам вайны. У той час пачалося палітычнае фармаванне беларускіх каталікоў. 25-26 сакавіка 1917 года яны бяруць удзел ў з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску. З дэкларацыяй ад каталіцкай Дэмакратычнай Партыі выступіў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі (падняць асветнай працай культурнае жыццё працоўных, народ павінен мець свае школы, мову, аўтаномію і культуру).

На з'ездзе беларускіх святароў у Мінску 24—25 мая 1917 года была заснавана Беларуская Хрысціянская злучнасць, у якой ксёндз Адам Станкевіч бярэ ўдзел, становіцца адным з заснавальнікаў партыйнай газеты "Крыніца". Яна пачала выходзіць з 21 кастрычніка 1917 года ў Петраградзе, з 7 верасня 1919 года выдавалася ў Вільні. Газета праіснавала амаль 23 гады, да 12 ліпеня 1940 года — дзякуючы энтузіязму менавіта А. Станкевіча.

У дзейнасці ксяндза А. Станкевіча было некалькі перыядаў. Ён быў беларускім святаром касцёла святога Мікалая ў Вільні, дзе служыў з 1919 года. У касцёл прыходзілі беларусы-каталікі, тут адпраўлялася святая імша для вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Апрача таго, А. Станкевіч выкладаў рэлігію каталікам у гімназіі.

Душпастарская дзейнасць А. Станкевіча сустракала супраціўленне з боку польскіх уладаў і польскай касцельнай адміністрацыі. Яшчэ да таго, як у заходняй частцы нашай краіны ўсталявалася польская ўлада, касцельная іерархія, якая складалася амаль цалкам з палякаў, пераводзіла з парафіі ў парафію ксяндза Аляксандра Астрамовіча (вядомы як паэт Андрэй Зязюля), ксяндза Кастуся Стаповіча, які вядомы таксама як паэт Казімір Сваяк. Пасля Рыжскай мірнай дамовы, калі заходняя частка Беларусі аказалася перададзена Польшчы, становішча беларускіх святароў пагоршылася, асабліва пасля таго, як віленскую катэдру ў 1926 годзе заняў арцыбіскуп Ялбжыкоўскі. Праз яго трапіў у астрог ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, за мяжу вымушаны быў уцячы ксёндз, доктар Ян Тарасевіч, прымусова ў Маньчжурыю камандзіравалі ксяндза Язэпа Германовіча. У 1938 годзе з Вільні ў Слонім быў высланы і ксёндз Адам Станкевіч.

У той перыяд каталіцызм быў афіцыйнай рэлігіяй Польскай рэспублікі, але не ўсялякі каталіцызм — толькі польскі. Толькі каталікі мелі права атрымліваць дзяржаўныя пасады, нават самыя нязначныя. Каталіцкі касцёл у Польшчы быў інструментам асіміляцыі. Натуральна, што А. Станкевіч, як беларускі святар, гэтаму супраціўляўся. Першай яго трыбунай быў амбон, кафедра выкладчыка рэлігіі ў гімназіі, але аўдыторыя была абмежаваная. Таму А. Станкевіч вымушаны быў займацца палітыкаю, брацца за пяро. Лідэр Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, яе ідэйны правадыр, А. Станкевіч глядзеў на беларускую справу шырока. Ён стаў весці барацьбу за беларускую школу, за правы беларускіх сялян, за беларускае прадстаўніцтва ў органах улады і за аўтаномію Заходняй Беларусі. Ён, каталіцкі святар і прэфект, адстойваў не толькі беларускія песняспевы, беларускія казані ў касцёлах. У аднолькавай меры ён выступаў супраць закрыцця праваслаўных храмаў. Яго ведалі і паважалі ў Польшчы не толькі беларусы, бо ён выступаў за павагу да нацыянальных рэлігійных правоў украінцаў і іншых народаў, якіх таксама прыціскаў тагачасны польскі ўрад. Калі ў

*Адам Станкевіч — пасол польскага сойма.*

*Партрэт Адама Станкевіча работы П. Сергіевіча.*

1922 годзе былі прызначаныя выбары ў сойм і сенат Польскай рэспублікі, Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя разам з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй незалежных сацыялістаў і іншымі палітычнымі згуртаваннямі ўвайшла ў Беларускі Цэнтральны Выбарчы камітэт, а ксёндз А. Станкевіч стаў скарбнікам гэтага камітэта. Беларусы ішлі на выбары з іншымі нацыянальнымі меншасцямі. Сярод беларускіх паслоў у Сойм быў выбраны і А. Станкевіч. Соймавая трыбуна дала яму магчымасць прамаўляць да ўсяго народа Заходняй Беларусі, да ўсіх народаў Польшчы.

У тыя часы дзейнасць А. Станкевіч і БХД выклікала асаблівае супраціўленне польскіх уладаў і каталіцкага касцёла. Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі называў БХД агентурай бальшавізму. У 1928 годзе ён забараніў сваім каталікам, асабліва каталікам-ксяндзам, уступаць у гэту партыю і чытаць газету "Крыніца".

Пасольскі мандат дапамог А. Станкевічу заснаваць Беларускую друкарню імя Францішка Скарыны і Беларускае каталіцкае выдавецтва. БХД мела і сваю навуковую ўстанову — Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, які быў зачынены польскімі ўладамі ў 1936 годзе. А. Станкевіч быў таксама ў ліку заснавальнікаў і фундатараў часопіса "Хрысціянская Думка", які выдаваў сваю бібліятэчку, а таксама часопісаў "Шлях моладзі", "Самапомач" і "Калоссе". У апошніх трох друкаваліся аўтары розных поглядаў: сацыял-дэмакрат Антон Луцкевіч, камуністы Максім Танк і Міхась Васілёк, беспартыйныя Наталля Арсеннева і юны Янка Брыль. Дзякуючы гэтым выданням беларускае слова жыло і не памірала. І сам А. Станкевіч быў актыўным аўтарам. Пачаўшы з допісаў у "Нашу Ніву", ён напісаў каля дзвюх тысяч артыкулаў і выдаў 18 кніг.

Высланы ў 1938 годзе польскімі ўладамі з Вільні ў Слонім, А. Станкевіч пражыў там да часу падзення Польскай рэспублікі. Увосень 1939 года ён вяртаецца ў Вільню. Тым часам Сталін перадаў Вільню Літоўскай Рэспубліцы, атрымаўшы за гэта права ўвесці часткі Чырвонай Арміі на яе тэрыторыю. А. Станкевіч стаў гуртаваць беларускіх дзеячаў, якіх не паспела арыштаваць НКВД, і ствараe "Беларускі Цэнтр у Літве". Спрабуе адрадзіць беларускую гімназію, якая была ператворана ў філію польскай гімназіі. З дазволу літоўскіх уладаў адчыняецца беларуская прагімназія, А. Станкевіч становіцца яе дырэктарам.

Улетку 1940 года ў Літве адбываецца так званая рэвалюцыя. Пад уціскам сталінскіх акупантаў урад Літвы вымушаны быў адмовіцца ад улады. Праводзяцца "вольныя" выбары, на якіх "перамагаюць" камуністы, і Літва далучаецца да СССР. Калі ў 1941 годзе ў Вільню прыйшла савецкая ўлада, А. Станкевіч быў у касцёле. Бачым яго ў адноўленай беларускай гімназіі, дзе ён па-ранейшаму выкладае рэлігію.

У ліпені 1944 года ў Вільню зноў прыйшла Чырвоная Армія. У снежні А. Станкевіча арыштавалі. Менавіта ён у тым снежні напісаў мемарандум Савецкаму ўраду, у якім выклаў план арганізацыі каталіцкага касцёла на Беларусі. Пасля гэтага яго і арыштоўваюць. Пратрымаўшы непрацяглы час у турме, органы яго выпускаюць. У той час у Вільні ўжо не было ні беларускіх выдавецтваў, ні гімназіі, ні газет. Таму А. Станкевіч вёў толькі душпастарскую дзейнасць. Але яго хвалюе пытанне: што будзе з каталіцкім касцёлам на Беларусі? Ці будзе ён беларускім? І ў 1947 годзе ён піша другі ліст Савецкаму ўраду. У 1949 годзе А. Станкевіча зноў арыштавалі. Яму прышылі шпіёнскую дзейнасць на карысць Японіі. Абвінавачванне было настолькі дзікае, беспадстаўнае, што судзіць яго не адважыліся. 31 жніўня 1944 года Асобая Нарада пры Міністэрстве дзяржаўнай бяспекі СССР пазбавіла А. Станкевіча волі на 25 гадоў. З Вільні па этапе ён быў адпраўлены ў Азёрлаг, дзе праз тры месяцы пасля незаконнага прысуду 4 снежня 1949 года памёр.

У 1990 годзе супрацоўніца Беларускага музея гісторыі рэлігіі ў Гародні Н. Ляшчонак атрымала з МУС СССР паведамленне наступнага зместу:

"Сообщаю, что по учётам ИЦ УВД есть Станкевич Адам Викентьевич 1891 г. рождения, осужден Особым Совещанием МГБ СССР 31/VIII 1949 года по ст. 58 УК РСФСР на 25 лет лишения свободы. Умер 4/XII-1949 г. от ожирения сердца (?). Похоронен на кладбище Озерлага вблизи дер. Шевченко Тайшетского района Иркутской области. Могила N 3-43. Начальник отдела В. В. Пятница".

Так скончыў свой жыццёвы шлях наш славуты нацыянальна-рэлігійны і культурны асветнік, беларускі дзеяч Адам Вікенцьевіч Станкевіч. Жыццё яго прайшло ў няспыннай барацьбе за шматпакутную Беларусь, за яе мову, культуру, гісторыю. Лёс яго трагічны. Сваю канчыну ён адчуваў даўно. Гэта відаць з яго ліста ад 7 ліпеня 1944 года, названага "Мая апошняя воля": "На выпадак прымусовага майго выезду з Вільні, або на выпадак смерці маёй, усю рухомую маёмасць (бібліятэчку, адзежу, хусце, пішучую машынку і ўсё іншае) перадаю Мар'яне і Ганне Шутавічанкам (Вільня, Полацкая вуліца, 9/4) на іх поўную ўласнасць. Гэта мая ім скромная падзяка (асабліва Мар'яне Ш.) за іх доўгалетнюю працу і апеку. Адносіны нашы заўсёды былі самыя чыстыя і шчыра прыязныя. У маёй даўгалетняй працы на ніве Божай і беларускай народнай мае слёзы і мая радасць былі таксама іх слязамі і іх радасцю. Сэрца маё да іх поўнае ўдзячнасці і прыязні. Паручаю іх Боскай апецы і сам паручаюся іх малітвам і іх мілай памяці. Паручаю таксама іх памяці сваю дарагую старушку-матку і дачушку маёй нябожчыцы сястры Ганны — малалетнюю Вальцю. Святар Адам Станкевіч уласнаручна".

Без хвалявання і без слёз ліст гэты нельга чытаць. З яго відаць, што А. Станкевіч душой адчуваў трагічную, блізкую сваю канчыну. Відаць, як сціпла ён жыў, як адносіўся да сваіх служачых, як любіў старэнькую матулю, якая дала яму жыццё, беларускае слова, якому застаўся верным да апошніх дзён свайго шматпакутнага жыцця. Перажываў за дачушку сваёй нябожчыцы сястры.

А. Станкевіч спачывае далёка ад сваёй роднай вёскі, ад сваіх родных, блізкіх, землякоў, на чужыне, сярод магілаў ахвяр, рэпрэсіраваных тэрорам "отца всех народов" — Сталіным. У наш цяжкі і складаны час ніхто з беларусаў, з яго родных і блізкіх не наведае яго магілу, у знак удзячнасці не пакладзе на яе кветкі з родных палёў. Ды памяць аб ім будзе вечна жыць у душах і ў сэрцах шчырых і сапраўдных сыноў нашай шматпакутнай Беларусі.

Святар Адам Станкевіч усім сваім жыццём, змаганнем за шчасце і волю беларускага народа, за яго родную мову, культуру, гісторыю заслужыў, каб яго імя было ўвекавечана гэтак, як і іншых славутых дачок і сыноў Беларусі.

Добра было б аб жыцці і дзейнасці выдаць гісторыка-біяграфічны нарыс, кніжачку яго творчасці. Пажадана было б, каб адна са школ і адна з вуліц горада Ашмяны насіла яго імя.

**Апанас ЦЫХУН, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі**

# Марнатраўства

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5, 12)*

Мы раптам пачалі пісаць "Траецкае прадмесце" замест "Троіцкае". Таму, маўляў, што кабеты з-пад Мінска любілі гандляваць яйкамі менавіта на "Траецкім" базары. Ды і гучыць не па-расійску. Гэта добра. Але, з іншага боку, выразна выглядае расслабленасць артыкуляцыйнага апарату гандляркі з-за ненапружанасці яе розуму. А як жа мова Скарыны? Ён сказаў бы — "Троіцкае". Ізноў жа — этымалогія, подых Святой Тройцы над беларускім куточкам...

Калі ў сярэдняга маскоўскага школьніка запытацца, каму належыць літаратурны помнік "Слова пра паход Ігаравы", ён рашуча адкажа — Расіі! І будзе мець рацыю. Выдатнік, пагадзіўшыся, пакажа на старажытнарускае паходжанне помніка. І будзе мець рацыю. Сярэднездольны беларус патлумачыць нешта аб калектыўнай маёмасці трох славянскіх народаў. І таксама будзе мець рацыю. Але ж вось якія розныя акцэнты.

Тое, што нацыяналісты самі разбазарваюць нерухомую маёмасць нацыі — парадокс і найвялікшая загадка часу. Яна здаецца тым больш недарэчнай, што найгарачэйшыя і найшчырэйшыя сыны нацыі бываюць не супраць далучыць да сваёй спадчыны нават Міцкевіча, нават Дастаеўскага. Такая ашчаднасць у дробязях, аж да схільнасці "прыхапіць" не сваё, і марнатраўства ў вялікім — "сіндром Плюшкіна" — здольныя давесці да заняпаду ўсялякую гаспадарку.

Дзівакаватасць наогул упрыгожвае беларуска-расійскія адносіны на нацыянальна-інтэлігенцкім узроўні. Зразумела, чаму беларускія нацыяналісты заўсёды гатовы падкрэсліць сваё гістарычнае, культурнае, канфесійнае этнічна-племянное (добра б — расавае!) адрозненне ад расійцаў. Наяўнасць адрознення надае слушнасці самой нацыянальнай ідэі. Рознасць канфесійных патэнцыялаў, напрыклад, стабільна сілкуе тлеючы разрад міжэтнічнага супрацьстаяння. (Чым бы жывілася столькі гадоў англа-ірландскае "непаразуменне", калі б не гэта?). Але ж і вялікадзяржаўнікі-расійцы, не зацікаўленыя ў беларускім нацыяналізме, ігнаруючы іншыя адрозненні, асабліва вылучаюць этнічна-канфесійны бок справы, г.зн., скіроўваюць перабольшаную ўвагу ў бок нібыта польска-каталіцкага паходжання беларускага нацыяналізму. Такім чынам яны нібыта прысвойваюць сабе галоўны козыр — праваслаўе — у беларуска-расійскай спрэчцы. (Тым больш, што беларускія нацыяналісты за гэты козыр і не спрачаюцца). Паклаўшы руку на сэрца, расіец-вялікадзяржаўнік разумее: як бы ўдала ні складвалася ягонае сяброўства з братам-беларусам — пагроза беларускай культуры і беларускай, колькасна меншай, нацыі была, ёсць і будзе. На гэта нельга заплюшчыць вочы, але можна добра прыжмурыцца. Тады беларускі нацыянальна-культурны клопат лёгка атаясаміць з клопатам веравызнаўчым, маўляў, беларускаму праваслаўю ў стасунках з намі нічога не пагражае, значыць няма і праблемы. Але праблема, вядома, ёсць.

IV

Мы згубілі набыткі Вялікага княства Літоўскага. Наша дзяржаўнасць прывідная. Наша войска "ўнутранае". Наша Пагоня заблукала ў прасторы і часе. Ды больш старажытныя парасткі прараслі ў сённяшні дзень. Наша прагісторыя, вера, фальклор, тапаніміка і яшчэ процьма розных няўлоўных знакаў сівой мінуўшчыны ляжаць у падмурку ментальнай будовы нашых душ і... пераклікаюцца з расійскімі. Гэта ўзмацняе пачуццё сваяцтва, але мала спрыяе высвятленню ўласнай тоеснасці. Ды й не дзіва, калі ўсё "наша" ёсць у родзічаў, ды ў лепшым стане, ды ў большай пашане.

Але вось жа, расійцы! Мала, што іх не абрабавала пазнейшая гісторыя, дык яны і ранейшай не цураюцца. Іх генеалагічнае дрэва расце з Сусвету. Крона іх культуры адкрыта той пароды, што і карані. Мы, сапраўды, не такія. Нашы гістарычныя стылісты вядуць наш пачатак з моманту, калі ўласна-беларускае каліва адгалі навалася ад славянскага дрэва. Чаму ж тады нас абурае феномен "старэйшага брата"? Прышчэпак заўсёды будзе "братам малодшым" у адносінах да суседняй галіны, якая сілкуецца з першавытокаў. Таму і ходзяць, часам, расійцы па нашай хаце, не здымаючы ботаў, што столь і падлога, і сцены ў ёй расійскія, а наша толькі аздоба, толькі ручнікі на сценах ды посцілкі на палацях...

Калі б не гэтыя акцэнты! Калі б не аддадзеныя ду[illegible]ўныя, гістарычныя, культурныя, геаграфічныя, моўныя ды іншыя прыярытэты, калі б не бязглуздае блуканне ў трох славянскіх соснах! Мы шмат што б зразумелі. Аднойчы б мы прачнуліся, азораныя нечуванай думкай: "Мы — першародныя!". Мы б акрыліліся, адчуўшы, што нашае выратаванне — нешта большае, чым захаванне ўласнага этнічнага статуса. Што ад нашага адраджэння залежыць, ці выканае сваю гістарычную звышзадачу і сама Вялікая Расія, бо ніколі яна не будзе духоўна паўнацэннай і гістарычна-слушнай без нашага беларускага на яе ўплыву. Магчыма, гэта зразумелі б нават расійцы, а хатнія ворагі засароміліся б, дзеля карысці панславянскіх ідэалаў, знішчаць славянскі этнас.

Трэба, каб так было. Але так ці будзе? Жуpавель зляцеў з нашага неба, і сініца не далася ў рукі. Знак Чарнобыля стаў апошнім знакам прыпынку на шляху нашых спадзяванняў. Нам наканавана. Жыве Беларусь! — ах, якія мы байскауты...

А можа, не толькі русіфікацыя ды паланізацыя, ды гісторыя-мачыха? А можа, мы сапраўды на сваім шляху згубілі нешта няўлоўнае ды істотнае, і не заўважылі, а зараз разлічваемся за згубу "па заслугах"? Тады, тым больш, варта пільным сэрцам, генетычнай памяццю духу агледзецца, пашукаць тое згубленае на ўсім шляху, аж да дасяжнага яго пачатку.

Нам няма за што сябе вінаваціць ні на сто, ні на дзвесце, ні на трыста гадоў назад вярнуўшыся. А можа, ёсць, ды мы згубілі свой зрок, свой "помысл исповедания" яшчэ раней, чым саграшылі? І марнае будзе наша пакутна-адвечнае пытанне "за што?", пакуль не сягнём туды, у першапачатак, да вытокаў і — не знойдзем, і не пазнаем саміх сябе ў тых далёкіх і праісных, і першагрэшных продках. І не асудзім сябе мінулых судом сённяшнім. І не ачысцімся. Амінь.

# Выжыць і жыць!

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

даволі часта даводзілася. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова будзе глянуць у дакументы Брэсцкага (1918) і Рыжскага (1921) мірных дагавораў. Паводле першага дагавора Германіі, а паводле другога — Польшчы перадавалася значная частка тэрыторыі Беларусі. Такога магло б і не быць, каб у гэтых перамовах і ёй далі права ўдзельнічаць. А на той час Беларусі ўжо было каго паслаць для вырашэння такога лёсавызначальнага для яе пытання.

Многія не пазбаўленыя цвярозага розуму дзяржаўныя дзеячы, прагрэсіўныя прадстаўнікі інтэлігенцыі пачыналі ўсё больш і больш бачыць недахопаў і хібаў у правядзенні славянскай палітыкі ўнутры самой Расійскай імперыі. Асабліва шмат яскравага матэрыялу для глыбокага роздуму давалі палякі. Ніводзін з нехрысціянскіх, неславянскіх народаў так не расхістваў падмурак гэтай у аснове сваёй славянскай казармы — царскай Расіі, як палякі-славяне. На мой погляд, у яе разбурэнні мы трохі перабольшваем ролю бальшавікоў і недаацэньваем ролю палякаў, як самабытнага этнасу, які, добра зразумеўшы, што жыццё ў гэтай шматнацыянальнай краіне рана ці позна прывядзе яго да асіміляцыі, пачаў з усёй сілы вырывацца з яе жалезных абдымкаў і самым сур'ёзным чынам напалохаў гарачых прыхільнікаў адзінай і непадзельнай Расіі. Сёй-той з іх нават пачаў тлумачыць, што ўсе беды апошняя трывае з-за таго, што сто з гакам гадоў таму разам з Прусіяй і Аўстрыяй пайшла на падзел Рэчы Паспалітай, якая паводле большасці найважнейшых параметраў усё ж адносілася да славянскіх дзяржаў. На пачатку XX ст. М. Меншыкаў у кнізе "Сомнительная родня" (1911) пісаў, што Расія зрабіла вялікую памылку, далучыўшы да сябе Польшчу. "Спадзеючыся ўзмоцніць сябе, мы да крайнасці аслабілі сябе. Пад выглядам "братняга" славянскага народа мы ўвялі пад свой дах закаранелага ворага, ворага тысячагадовага, які на працягу доўгага часу прыгнятаў заходнюю Русь (г. зн. Беларусь. — **Л. Л.**) і які ў гэтым прыгнечанні прывык бачыць гістарычнае сваё прызначэнне". Цалкам пагаджаюся са зместам цытаты, уключаючы і яе канцоўку, што вельмі добра праявілася на жыцці той часткі беларусаў, якія пасля падпісанага ў сакавіку 1921 г. у Рызе дагавора вымушаны былі жыць у складзе Польшчы.

Не адчувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі на роднай зямлі і тыя з беларусаў, што жылі ў межах БССР. Напісана і сказана пра гэта апошнім часам досыць багата. У поўным сэнсе суверэннай дзяржавай лічаць БССР толькі людзі, якія зусім незнаёмыя з айчыннай гісторыяй пасля кастрычніка 1917 г.

*(Працяг будзе)*

***Завінуў у дом рэдкі госць Валодзя Ягоўдзік, без смаку прыгубіў чарку, без увагі паслухаў новыя вершы. Перагарнуў адзін з нататнікаў, пашамацеў абарванымі лісткамі ад яго, што раскідаліся па стале, і спыніўся на лірычна-настальгічным запісе пра маленства: "...няйнакш, гэта матэрыялізавалася памяць і, як мара, збыўся ўспамін".***

***"Ну, во, — сказаў, — так і пішы, а то..." Што — а то? А то пішу ўсялякую лухту ў вершах? Не ведаю, чаго ў ягонай парадзе больш: узвелічэння прозы ці смутку пра той час, калі і сам займаўся паэзіяй?***

***Як бы ні было, а — карыстаюся з парады і прапаную тузін-другі запісаў "ЛіМу". Аднак не лірычнай прозы, яе ў мяне мала, а проста думак і назіранняў, што тычацца творчасці ды саміх творцаў.***

Алесь КАСКО

# Назіранні за белымі воблакамі

## З ЛІТАРАТУРНЫХ НАТАТНІКАЎ



Пасля добрай кніжкі вершаў — як пасля ліпеньскай навальніцы: дыхаецца лёгка і глыбока.

Зарэжуся, а не прыгадаю, пасля **якой** добрай кніжкі гэтак падумалася. Пасля "Палявання ў райскай даліне"? "Акропаля"? "Стодзіваў"? "Прошчы"? "Правінцыйных фантазій"?.. Істотна тое, што ёсць у нас Паэзія, ёсць! А калі, магчыма, яе недастаткова, дык што зробіш: не паэзія стварае нацыю, а нацыя — паэзію.

●

Боязь сказаць праўду — як боязь выпусціць з сябе спёртае паветра: у абодвух выпадках пачынаецца гніенне.

●

Калі паэт пачынае іранізаваць? Калі ў гневе і смутку ад дурноты людское разрываецца на часткі і не можа разарвацца, не можа супрацьстаяць ёй папросту, без насмешкі? Або тады, калі пакутуе ад дурноты ў самім сабе (самаіронія)?

●

Памятаю, неяк да сябе на халасцякоўскую кватэру запрасіў Міхась Рудкоўскі. Самота — звычайная нагода для яго, а мне з ім заўсёды было добра. Ён тады быў у гуморы. Дзве пляшкі таннага віна на стале, машынка і на ёй — аркушыкі з вершамі. "Глыні, а потым, калі ласка, паслухай: закончыў перакладаць украінцаў". Прычасціліся. "Ну, чытаю, а ты, стары, ацэньвай двума словамі: добра або ерунда". Я абрадаваўся такой просценькай задачы і з чыстым сумленнем "добрыў" і "ерундзіў". Міхась, калі закончылі, зарагатаў. "Чаго ты?" — уставіўся я, нічога не разумеючы. "Дык жа пераклады я межаваў са сваімі новымі вершамі. Чытаю пераклад, ты — "добра", свой верш — "ерунда". Вот! Не крыўдуй, стары, праўду хацеў пачуць".

●

З доўгага выраю вяртаюцца нашы паэты: Арсеннева, Гарун, Жылка, Хадыка... Такія птахі, размах крылаў якіх не адразу і вымераеш, адно адчуваеш пругкую, шырокую хвалю паветра, што рассякаецца імі. Ці не з таго, на жаль, мы такія нясмелыя ў іх ацэнках, у адданні ім належнай павагі і любові, уласнага гонару за іх?

●

Максім Багдановіч — зорка першай велічыні. Не таму, бадай, што самая яркая, а таму, што зыходная, крынічная, самая шчодрая. Яна дасюль іскрыцца промнямі, а мы, каму які промень прыдаўся, збіраем іх: хто — каб запаліць паходню, хто — каб асвятліць гарышчы і скляпенні, убачыць красу пылу, змроку, павуціння, ценяў ды зданяў.

***Дзесь у хмарах жывуць***
***павукі,***
***Што снуюць павуціну***
***дажджа.***
***Кожны тлусты і мяккі***
***такі,***
***Скура слізкая,***
***як у вужа.***
***Ў целе стыгне халодная***
***кроў,***
***Злосць бясцэльная***
***ў круглых вачах..***
***Чу! Чуваць шорах ног***
***павукоў,***
***Аплятаючых сцены***
***і дах.***

Хутка і **такой** красы ў беларускай паэзіі стане дастаткова, як дастаткова ў ёй цяпер паходняў і пагоняў. Тады з'явяцца новыя "авангардысты", што зноў будуць маліцца на зорку Максіма Багдановіча, стануць збіраць прыдатныя толькі для іх промні.

●

Адзінка не нуль, а ўсё, не драбніца, а цэласнасць: у ёй — уся прырода, увесь вопыт пакаленняў і ўся будучыня. Найбольшае праяўленне цэлага ў адзінцы і ёсць геній. Геній заклікаины выказаць, адлюстраваць усю вечнасць. І толькі нявечнасць існавання яго самога не дазваляе яму гэтага зрабіць.

●

Другі год пачынаецца без Уладзіміра Андрэевіча Калесніка... Горка і няўцешна было пачуць у адзін з апошніх ягоных дзён: "Нікуды не падзецца. Што зробіш? Не хоча цела трымаць душы, не ў сілах..." І душа тая так вогненна-журботна пазірала ягонымі вачыма. Яна жыла, пакутавала тым, чаго не паспела зрабіць, хоць і зрабіла ўга колькі! Нейкі дакор і наказ быў мне, нам, каму ён пасабляў жыць духам, не даваў апусціцца ў спраты абыякавасці, ленасці, адчаю ці звычайнага п'янства.

●

Не сілю сябе пісаць, калі не пішацца, сілю — жыць, калі жыць не хочацца. Галоўнае — духоўна выжыць. А што не пішацца — гэта проста вынік.

●

"Стукает площадь о подошвы ног..." Між тым у хлопца даволі вабная муза, над якою — так бывае ў адносінах паміж закаханымі — ён спрабуе ўзяць верх. І міжволі даходзіць да зняваі: змушае музу стаяць на галаве. Нязручна, непрыгожа, няёмка. Гэта я назваў бы паэтычным эгаізмам.

●

Ніцшэ, Шапенгаўэр... Без карысці, нават і небяспечна чытаць іх звіхнутаму да параноі самалюбу. Але паэту, які ў нас амаль скрозь бязвольны, бездапаможны і наіўны, як дзіця, — чытаць абавязкова! Як Біблію верніку — штодзень.

●

Звычайны стан Алеся Разанава — "увесь у сабе", з-за чаго ён выдае не толькі на нелюдзімага, але і на "потустороннего". Мусіць, увесь фокус у тым, што ён у натхненні, у рабоце душы — паўсядзённа, а большасць з нас — па святах. Але як жа ён мяняецца, калі трапляе ў **нашу** паўсядзённасць! Нібы скідвае з сябе цяжар, з якім жыве пастаянна. Нават чакае і хоча скідваць яго, што ўжо не раз для мяне было відавочным, у 1995 годзе на кангрэсе ў "Іслачы". Сядзелі доўга ў ягоным нумары, цягамоцілі сур'ёзныя рэчы, а раптам сярод ночы Алесь падымае ўсю "кумпанію" (былі там і сур'ёзныя замежныя калегі) ды вядзе да Ніны Мацяш, каб да ранку піць шампанскае і гаварыць зусім пра зямное... Але, кажуць, бываюць у яго і сапраўдныя зрывы — ад жадання скінуць той самы цяжар, ад невыноснасці яго. Думаю, залежыць гэта ад моманту, ад "кумпаніі" іншага ладу і складу.

●

У **новай** "Крыніцы-3" чытаў падборку дужа мне сімпатычнага Лёні Дранько-Майсюка. "Изящно"! Але — крыху прытворна і прытарна. Ад лішку "изящности".

●

На абарваным лістку ледзь-ледзь прачытаўся запіс вусных слоў У. Калесніка, зроблены мною ці то на пасяджэнні літсябрыны, ці то ў яго дома, ці то дзе ў дарозе: "Пішаце вершаваную публіцыстыку на трыбуне, а інтымную лірыку — у ложку, побач з каханкаю. А сапраўдная паэзія ствараецца толькі сам-насам..."

●

Запазычваць у паэзіях далёкіх і блізкіх можна па-рознаму: а) цалкам, механічна, нічога не даючы ўзамен і нічога, па сутнасці, не беручы сабе, апрача як "дзіковінку" ў нацыянальную калекцыю (так сёння, напрыклад, асвойваюцца ў нас танка ды хоку); б) мудра, з узаемным абагачэннем, вяртаючы пазыку.

Праілюстраваць пункт "б" няцяжка. Не начытаюся адкрытым для сябе нядаўна вершам У. Жылкі "Развітанне" (1928). Чужое пагрозлівае мора. Яно і наша, бо гэта — рамантычнае ўяўленне беларуса-выгнанніка. Як бераг вадою, размываецца падоўжанымі, напеўнымі "нашымі" радкамі застылая французская форма "ле" (lai). Пры гэтым якія родныя хвалі-рыфмы: гамонка — гонка — пярсцёнка — палонка — старонка... Нарэшце, выбух-канцоўка:

***Затым, што мужны***
***буду, жонка,***
***Вярнуся я, а ты***
***ў ваконка***
***Цікуй і цноту ткліва***
***дбай,***
***З далёкіх падарож,.***
***мая сасонка,***
***Я прывязу суровых вод***
***звычай,***
***І сэрца вернае,***
***і ў тронках***
***Вось гэтых —***
***гэты нож... Бывай!***

Ці ж не ўзор гэта еўрапейскай лірыкі? І ці ж не ўзор лірыкі нацыянальнай?

●

Славутая "беларуская шчырасць" у паэзіі без глыбокай думкі, праломленай праз дакладную, арыгінальную і трапяткую метафару, зноў і зноў ператвараецца ў традыцыйную "беларускую шэрасць".

●

Пачатак апавядання берасцейца Аляксея Філатава: "Былы паліцай, які ніколі не праміне пахваліцца сваім партызанскім мінулым..." Здаецца, больш і пісаць няма чаго: тут і тэма, і сюжэт, і вобраз, і адлюстраванне эпохі, усё.

●

Шчырыя віншаванні з памятнымі датамі і падзеямі ў сваім жыцці ні разу не пакінулі без увагі Іван Аляксеевіч Скрыган, Іван Антонавіч Брыль, Ніл Сымонавіч Гілевіч, Уладзімір Андрэевіч Паўлаў, Ніна Восіпаўна Мацяш... Адгукваліся хоць радком у лісце, хоць словам па тэлефоне, дзякавалі. Мо і ў гэтым праяўляецца інтэлігентнасць?

●

Па дарозе ў Мінск чытаў упершыню прозу Мікалая Гумілёва. Чытаў і жахаўся "Запискам кавалериста", прама супрацьлеглым запіскам нашага Максіма Гарэцкага, хоць і тыя і другія — пра першую сусветную. У Гумілёва — гэта апафеоз вайны, існы выток якога не ў адданасці манархізму і не ў асабістай храбрасці, а ў адкрытым, махровым шавінізме:

"Мы были в Германии... И так близки показались мне мечты Ермака, Перовского и других представителей России, завоевывающей и торжествующей";

"Есть люди, рожденные только для войны, и в России таких людей не меньше, чем где бы то ни было. И если им нечего делать "в гражданстве северной державы", то они незаменимы "в ее воинственной судьбе", а поэт знал, что это — одно и то же".

І так мала ў "Записках кавалериста" агульначалавечага, гуманістычнага. І з тым большаю павагаю і цеплынёю думаў я пра запіскі "На імперыялістычнай вайне".

●

З нейкай насцярогаю, прынамсі, без вялікага даверу стаўлюся да тых маладых "эксперыментатараў", якія не напісалі ніводнага талковага верша традыцыйнага, рэалістычнага. Пабла Пікаса ў жывапісе, Алесь Разанаў у паэзіі ішлі ад рэалізму да авангарда паступова, паэтапна. Ёсць і прыклады ад адваротнага. З літаратуры найперш згадваецца эгафутурыст Ігар Севяранін, які недзе на другім дзесятку свайго паэтычнага веку напісаў:

***Величье мира —***
***в самом малом.***
***Величье песни —***
***в простоте.***
***Душа того не понимала,***
***Не распятая на кресте.***

У тым і недавер да сучасных стваральнікаў "поэз", што не адчуваеш у іх **душы**: эксперыментатарства ўспрымаецца найчасцей як эпатаж, самалюбаванне, і толькі ў апошнюю чаргу — як імкненне абнавіць літаратуру.

●

Гэта ж трэба: я, паводле крытыка-пачаткоўца Наталлі Кузьміч, дагаварыўся да таго, што яе равеснікі-паэты ніколі не дасягнуць узроўню Разанава, Някляева, Галубовіча, Рублеўскай і г. д. Не дай Бог, каб чытачы "Маладосці" паверылі. У адказе на "лімаўскую" анкету я сказаў, аднак жа, асцярожней пра тых, хто па-маладому "сваволіць" у літаратуры: "...пакуль не дасягнуць ці зразумеюць, што ніколі не дасягнуць узроўню" пералічаных паэтаў. Істотная розніца. Між тым "пералічаным" таксама перапала ад крытыка: у невялікім накладзе "ЛіМа" якраз вінаватыя яны, агоныя асноўныя аўтары!

Хоць вазьмі ды перахрысціся: міжволі "падставіў" таленты. А падумаць, дык ці не дзякуючы ім тыднёвік захоўвае ў гэтыя глухія часы хоць які наклад, застаецца папулярным сярод пісьменнікаў, ды і не толькі сярод іх? Зрэшты, газета дае слова ўсім, а што было б, калі б запанавалі ў ёй "вольныя", "бум-бамаўцы" ці якія-небудзь "трахбахаўцы"?..

Рызыкоўна ўсё ж чапаць крыклівае пакаленне: кідаюцца ў контратаку з заплюшчанымі вачыма, не ўдумваючыся, не ўчытваючыся.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Мікола ГІЛЬ —** *намеснік галоўнага рэдактара*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**

**Жана ЛАШКЕВІЧ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*

**Юрась СВІРКА,**

**Віктар ШНІП —** *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-667**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень ● па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 31.7.1997 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4395/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12